# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК
Ц. Б. КРАЯЗНАЎСТВА
ПРЫ ІНСТЫТУЦЕ
БЕЛАРУСКАЙ
КУЛЬТУРЫ





№ 2 (17) 1927 г. ЛЮТЫ









МЕНСК.

## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1927 г.

НА ПОПУЛЯРНА-НАВУКОВЫ КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС

# НАШ КРАЙ

**„Наш Край“** зьмяшчае артыкулы популярна-навуковага характару па ўсіх галінах краязнаўства ў БССР.

**„Наш Край“** зьмяшчае кіраўнічыя ўказаньні: анкеты, праграмы, інструкцыі і мэтодычныя артыкулы па краязнаўстве.

**„Наш Край“** дае на сваіх старонках адбітак працы ўсіх краязнаўчых організацый БССР.

**„Наш Край“** павінен быць у кожнай школе, нардоме, хаце-чытальні, клюбе і бібліотэцы.

**„Наш Край“** павінен быць настольнай кнігай кожнага краязнаўцы.

### У ЧАСОПІСЕ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:

М. Азбукін, Г. С. Аляксандраў, К. Арол, А. Аніхоўскі, К. Атраховіч, Н. Бываеўскі, З. Бядуля, М. Бялуга, Д. Васілеўскі, Віткоўскі, Гр. Варапаеў, Проф. Васількоў, М. Грамыка, М. Гарэцкі, А. Ганжын, Зьм. Даўгяла, Проф. А. Жарынаў, М. Зьбіткоўскі, А. Казак, Кіпель, М. Кіркевіч, Каракін, А. Квяткоўскі, А. Крукоўскі, Я. Кісьлякоў, М. Касьпяровіч, М. Ламака, Макарэўскі, Д-р Магілеўчык, Натальлін, А. Нямцоў, О. Полянская, К. Папоў, Г. Парэчын, Проф. В. Перахол, Я. Ракаў, Самцэвіч, Проф. П. Салаўёў, Н. Савіч, А. Сянкевіч, А. Сяргеенка, Я. Тараяноўскі, Я. Троська, У. Уладзімераў, Проф. А. Фядзюшын, Е. Цехановіч, Ал. Шлюбскі, М. Шчакаціхін, Проф. Яцантkоўскі і шмат іншых.

**Умовы падпіскі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| На год . . | 4 р. — к. | На 3 м-цы | 1 р. 20 к. |
| На поўгода | 2 р. 20 к. | На 1 месяц | — р. 50 к. |

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: у рэдакцыі часопісу „Наш Край“ (Менск, Рэволюцыйная № 21, Інбелкульт), ува ўсіх паштовых аддзяленьнях і ўва ўсіх кнігарнях Бел. Дзярж. Выдав. і інш.

„НАШ КРАЙ“ прадаецца: У Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Інбелкульце, ува ўсіх аддзяленьнях БДВ і ўва ўсіх аддзяленьнях і кнігарнях іншых выдавецтваў.

Выпісваць можна поўн. комплекты часопісу „Наш Край“ ад 1-га нумару са скідкай у 25%—за 3 руб.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!



# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

№ 2 (17) Люты 1927

ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ

ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1927

# Праца 2-га Краязнаўчага Зьезду.

Разьвіцьцё краязнаўчага руху на БССР за мінулы год зрабіла значныя посьпехі, як у сэнсе ахапленьня новага актыву з працоўных мас, гэтак сама і ў сэнсе пашырэньня і паглыбленьня творчае працы. Асабліва шпарка расла якасьць краязнаўчых організацый і прытока новых членаў. Гэта тлумачыцца ўздымам культурнае актыўнасьці ўсіх пластоў працоўнае масы БССР, што выклікае творчую дзейнасьць у росьце краязнаўчых організацый. Аношнія, як ведама, ставяць перад сабою пэўную мэту—усебаковае вывучэньне краю на посьпех соцыялістычнаму будаўніцтву. Зразумела, што паказаная мэта дае магчымасьць актыву ўсіх пластоў працоўных, прыстасаваць свае творчыя сілы і ў краязнаўчай справе. Дзякуючы таму, што краязнаўчы рух ёсьць масавы рух, што конкрэтныя формы гэтага руху, краязнаўчыя організацыі, ёсьць масавыя організацыі, краязнаўства пасьля Кастрычнікавае Рэволюцыі набывае надзвычайнае значэньне. Яно да вядомай ступені, у сваіх організацыйных формах, зьяўляецца школаю, у якой актывісты з працоўных павінны набываць патрэбную суму вед для вядзеньня працы па вывучэньні краю, а разам з гэтым яны будуць набываць і элемэнты мэтодычных вед, патрэбных для гэтага вывучэньня.

Другі Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд паставіў перад сабою два асноўныя пытаньні: пытаньне організацыйнага парадку і пытаньне творчае працы краязнаўчых організацый па вывучэньні краю. У сваю чаргу гэтыя асноўныя пытаньні падзяляліся на шэраг пытаньняў, якія і былі вырашаны Зьездам. Пры вырашэньні паказаных пытаньняў праца Зьезду праходзіла надзвычайна актыўна, а сама пастаноўка пытаньняў на вырашэньне Зьезду ў яе конкрэтных формах хутчэй напамінала зьезд-курсы.

У росьце краязнаўчых організацый, побач з цэлым шэрагам буйных дасягненьняў, Зьезд адзначаў і шэраг недахопаў. Галоўныя з гэтых недахопаў маюць організацыйны характар. Краязнаўчы рух ахапіў, галоўным чынам, вясковую працоўную інтэлігенцыю — настаўніцтва, агрономаў і сярэднюю школу. Слабы колькасны рост рабочых, сялянства, студэнтаў вышэйшай школы, які зьяўляецца значным недахопам, мае пэўныя прычыны: краязнаўчыя організацыі ня здолелі на мясцох організаваць навакол сябе шырокую грамадзкую думку, што рабіла іх організацыі невядомымі, а часта і незразумелымі сялянству і рабочым; раённыя таварыствы не разгарнулі шырокае працы па ўтварэньні гурткоў на тэрыторыі сельсаветаў, што пазбавіла раённыя таварыствы тых первястковых організацыйных формаў, якія толькі і маглі ўцягваць сялянства, моладзь; краязнаўчыя організацыі шырака не разгарнулі свае карыснае творчае працы па вывучэньні раёну, гаспадаркі, што дало-б магчымасьць зацікавіць сялянства і ўцягнуць яго ў працу організацый.

Што-ж тычыцца да слабога пашырэньня працы сярод студэнтаў і профэсуры вышэйшае школы, дык тут Зьезд адзначыў, што ў далей-

шым неабходна зрабіць усе захады, каб гэтую працу ажывіць. Тыя конкрэтныя мерапрыемствы, якія прапанаваў Зьезд (утварэньне катэдраў краязнаўства, увязка програм гурткоў краязнаўчых з некаторымі прадметамі выкладаньня ў вышэйшых школах, праца па ўцягненьню студэнцтва і профэсуры ў краязнаўчыя гурткі пры вышэйшых школах і інш.), дадуць магчымасьць, пры іх зьдзяйсьненьні, ажывіць краязнаўчую працу пры вышэйшых школах БССР.

Недахопам працы зьяўляецца тая акалічнасьць, што профэсіянальныя і комсамольскія організацыі ня былі дастарчаюча прыцягнуты да працы краязнаўчых організацый. Гэта таксама не дало магчымасьці організацыям пашыраць грамадзкую навакол сябе думку організаванае часткі працоўных мас.

Вось тыя галоўныя недахопы росту краязнаўчых організацый, якія абгаварыў Зьезд і па якіх даў пэўныя ўказаньні для іх зьнішчэньня ў далейшым. Пры гэтым адзначаецца, што гэта толькі галоўныя пытаньні, што шмат іншых пытаньняў, вырашаных Зьездам, датычных організацыйнае працы намі не разглядаецца.

Пераходзячы да пытаньняў творчае працы краязнаўчых організацый па вывучэньні раёну, акругі, неабходна зрабіць наступную заўвагу. Праца краязнаўчых організацый за мінулы год была накіравана, галоўным чынам, на зьбіраньне слоў жывое беларускае мовы (сабрана 125 тыс. слоў), фольклёрнага матар'ялу (зроблена болей 8 тыс. запісаў песень, казак, прыпевак, гаворак і інш.), на запісы зьяў прыроды— мэтэоролёгічныя, фэнолёгічныя нагляданьні, — зьбіраньне музэйных рэчаў і г. д. Вельмі слаба вялася праца над вывучэньнем прыродных вытворчых сіл краю, яго экономікі, гаспадаркі, гісторыі і г. д. Гэты недахоп працы мае свае пэўныя прычыны, якія выявіліся ў выступленьнях дэлегатаў з месц, якія знашлі свой адбітак у працы камісій Зьезду.

Дэлегаты скардзіліся на тое, што анкеты і програмы, паводле якіх вядзецца вывучэньне краю ў розных галінах і якія ў большасьці апрацоўваюцца Інбелкультам, зьяўляюцца вельмі тэорэтычнымі і ня ўсім краязнаўцам ня мясцох зразумелымі. Выказваліся думкі аб спрашчэньні анкет і програм. Апрача гэтага, шмат дэлегатаў выказваліся ў тым сэнсе, што маса членаў краязнаўчых організацый не падрыхтавана да навукова-дасьледчае працы, што неабходна ўтварыць курсы, практыкумы, сэмінарыі для падрыхтоўкі краязнаўцаў, папоўніць бібліотэкі краязнаўчаю літаратураю, пашырыць і паглыбіць інструктарскую працу, даць дапамогу з боку навуковых працаўнікоў Інбелкульту і г. д.

Пададзеныя думкі сьведчаць аб слабой падрыхтоўцы галоўнае масы членаў організацый. Гэтым таксама выяўляецца прычына таго, што навуковая і дасьледчая праца бадай была абмежавана запісам слоў і фольклёру. І зразумела, што вывучэньне такіх складаных пытаньняў, як экономіка краю, яго гісторыя, экономіка і новыя формы сельскае гаспадаркі, прыродныя вытворчыя сілы краю і інш. нават для простага зьбіраньня сырога матар'ялу патрабуюць ад краязнаўцаў значнае падрыхтоўкі. Калі-ж краязнаўчыя організацыі паставяць мэтаю свае працы ня толькі зьбіраньне матар'ялу, але і яго апрацоўку, калі яны паставяць задачаю свае працы ўсебаковае вывучэньне краю, то пытаньне падрыхтоўкі членаў організацый стане перад імі ва ўсю сваю шырыню і ва ўсёй сваёй значнасьці.

І краязнаўчыя організацыі ставяць перад сабою гэтыя пытаньні, іх павінен быў паставіць і вырашыць краязнаўчы Зьезд. Вырашыць цалком пытаньне падрыхтоўкі, мэтодаў вядзеньня навукова-дасьледчае працы Зьезд ня мог,—гэта справа будзе вырашацца ў працягу доўгага часу.

Практычна вырашэньне на Зьезьдзе часткі паказаных пытаньняў вялося ў двух кірунках: мэтоды дасьледваньняў і пляны працы. Абабраньне об'ектаў дасьледваньня вызначалася парадкам дня працы Зьезду; пры гэтым на абгаварэньне Зьезду былі высунуты тыя пытаньні (об'екты) працы, якія цяпер цікавяць усіх краязнаўцаў. Гэтыя пытаньні (організацыя краязнаўчага музэю, вывучэньне гісторыі раёну, складаньне археолёгічнае карты, вывучэньне саматужнае прамысловасьці, мэтэоролёгічныя і фэнолёгічныя нагляданьні, батанічныя досьледы, школа і краязнаўства і інш.)—частка тых пытаньняў, якія трэба будзе вырашаць у далейшым часе.

На вялікі жаль, не па ўсіх пытаньнях дасьледваньняў, якія вырашаліся Зьездам, дакладчыкі далі яскравыя мэтоды дасьледчае працы (мэтодолёгія досьледаў). Гэтага асабліва дамагаліся краязнаўцы з раёнаў.

Падагульняючы працу Зьезду, яе значэньне можна ахарактарызываць у двух словах: Зьезд зацьвердзіў усталяваўшыяся формы краязнаўчага руху; ён даў кірунак далейшае організацыйнае працы; апрача таго, Зьезд зацьвердзіў усе мерапрыемствы адносна вядзеньня творчае працы па вывучэньні краю, даўшы пэўны кірунак гэтае працы (вывучэньне ў першую чаргу вытворчых сіл краю).

Мы ўпэўнены, што да наступнага Зьезду галоўныя пытаньні вырашаныя Зьездам, пад кіраўніцтвам Компартыі і пры дапамозе Савецкае ўлады, будуць ажыцьцёўлены. Гэта ўзмоцніць сілы організацый і дасьць членам новую практыку, дзякуючы якой іх праца стане болей карысная ў соцыялістычным будаўніцтве БССР.

**М. Бялуга.**




М. Касьпяровіч.

# Організацыя краязнаўчага руху.

## III. Краязнаўчыя організацыі ў асьветных установах.

Необходна прывыкнуць адрозьніваць асьветнае краязнаўства, што скарыстоўвае або краязнаўчы процэс (школа), або вынікі яго (хата-чытальня, музэй) у сваіх асьветных мэтах, ад краязнаўства, працы краязнаўчых організацый, што тэрыторыяльна знаходзяцца ў асьветных установах—школах, хатах-чытальнях і д. т. п., але маюць мэтаю дасьледваньне і вывучэньне свайго краю сіламі сваіх членаў, а ня данай установы, як і іншыя звычайныя краязнаўчыя організацыі.

Асьветнае краязнаўства—прымусовае і працуе па пэўных програмах працы школы, хаты-чытальні і г. д. Вучань ня можа адмовіцца ад працы па гэтай програме, як хатнік—ад працы на аснове краязнаўства—у хаце-чытальні. Краязнаўчая-ж праца ў краязнаўчых аб'яднаньнях, што знаходзяцца ў асьветных установах—цалком самахвотная, як і ў іншых краязнаўчых організацыях.

Краязнаўчыя організацыі, якія знаходзяцца ў культурна-асьветных установах, як хаты-чытальні, народныя дамы і д. т. п., могуць для сваіх гурткоў узяць статут звычайнага гуртка краязнаўства.

Адносна краязнаўчых гурткоў у школах часамі прыходзіцца чуць довады, што іх ня трэба, што школьнае краязнаўства ніякіх організацыйных формаў, апрача звычайнай працы клясы, не дапушчае, што нават шкодна організаваць гурткі краязнаўства, калі програма вымагае працы на падставе вывучэньня краю. Кажуць, што існаваньне гурткоў можа шкодна адбіцца на звычайнай працы школы, бо будзе засноўваць думку, што ня школа, а гурток аматараў павінен вывучаць свой край і г. д. Але, трохі падумаўшы, кожны з такіх працаўнікоў убачыць, што прымусовае вывучэньне па програме мае дыдактычныя мэты, тады як праца гуртка мае мэтаю вынік працы (а не процэс яе) і задаваленьне патрэбы вольнай добрахвотнай творчасьці. Задачы блізкія, але розныя. Пашкодзіць програмнай працы гурток ня зможа, як ня шкодзіць вывучэньню літаратуры гурток аматараў творчасьці Я. Коласа, Я. Купалы або іншы. Гурткі, што дапаўняюць заняткі ў клясе, ня лічацца намі гурткамі, а групамі для пасіленай прапрацоўкі лекцый. Апрача вышэйпаказанага, краязнаўства ня можа адмовіцца ад такога вялікага ліку дасьціпных дасьледчыкаў, як вучнёўская і студэнцкая моладзь.

На самай справе довады праціўнікаў гурткоў краязнаўства ў навучальных установах грунтуюцца па прывычцы ня мець нічога ў школе, што-б любіла і вывучала мясцовы край, прывычцы дэнацыяналізатарскай.

Разам з тым, тутака мы маем пераважна аднолькавы склад членаў, спэцыфічнасьць існаваньня пры навучальнай установе і г. д. і затым статут для гэткіх гурткоў крыху відазьменены. З тае прычыны, што ў сямілетцы, тэхнікуме, курсах і вышэйшай школе зноў-жа розны склад членаў, гэты статут мае адпаведныя адценьні для кожнага віду навучальных устаноў.

Гурток пры сямілетцы, складаючыся з вучняў і працаўнікоў школы, падпарадкаваны школьнай радзе і ў сваёй дзейнасьці кіруецца раённым, а калі месьціцца ў акруговым горадзе—акруговым таварыствам краязнаўства. Сам статут гуртка краязнаўства сямілеткі, школы сялянскай моладзі і д. т. п. установы добра вызначае сваю структуру і функцыі, чаму на гэтым ня спыняемся.

У той час як члены гуртка сямілеткі пераважна з аднаго раёну або гораду, члены гурткоў тэхнікумаў, асабліва адзіных, як аграномічна-пэдагогічны, лясны і інш.—з розных месц Беларусі, затым гурткі тэхнікумаў маюць мэтаю зьбіраньне і апрацоўку матар'ялаў як з свае акругі, так і з іншых краёў і, падпарадкуючыся радзе свайго тэхнікуму, курсаў і д. т. п., кіруюцца мясцовым акруговым таварыствам кразнаўства і зносяцца пры патрэбе з Цэнтральным Бюро Краязнаўства. У іншым статут гэтага гуртка амаль што падобны да статуту гуртка сямілеткі.

Організацыя пры вышэйшай школе, складаючыся пераважна з членаў з нясканчанай вышэйшай асьветай, таксама з розных куткоў Беларусі, маючы поўную мажлівасьць сталай навуковай працы, носіць назву таварыства пры вышэйшай школе, зацьвярджаецца праўленьнем гэтай вышэйшай школы і ў сваёй дзейнасьці кіруецца Цэнтральным Бюро Краязнаўства, як і акруговае таварыства краязнаўства. Дэталі статуту таварыства бадай таксама не адрозьніваюцца ад стаутаў папярэдніх гурткоў.

Школьныя краязнаўчыя організацыі, маючы дапасаваныя да сваіх умоў адценьні статуту, займаюць сваё месца ў краязнаўчым руху прыблізна па асноўнай схэме—гурток краязнаўства звычайны і гурток сямілеткі, раённае таварыства краязнаўства і гурток тэнікуму і акруговае таварыства краязнаўства і таварыства краязнаўства пры вышэйшай школе.

Адносна сувязі краязнаўчых організацый, якія тэрыторыяльна знаходзяцца ў асьветных установах, можна сказаць тое самае, што было сказана пра сувязь звычайных краязнаўчых організацый. Неабходна толькі падкрэсьліць найбольшую патрэбу ў сувязі з раённым або акруговым таварыствам краязнаўства, ці Цэнтральным Бюро Краязнаўства—для таварыстваў у вышэйшых школах.

## IV. Рэалізацыя краязнаўчай творчасьці.

Краязнаўчы процэс ня можа лічыцца канчаткова скончаным, пакуль вынікі яго не апублікаваны. Праца вывучэньня і дасьледваньня краю, як і іншая творчасьць, мае здаровы сэнс і мэту толькі тады, калі ёю і яе вынікамі дзеляцца з другімі. Грамадзка-практычны характар нашага краязнаўства таксама вымагае апублікаваньня края-

знаўчай працы. Папулярызацыя-ж краязнаўчае справы проста нямысьліма без скарыстаньня друку для яе ажыцьцяўленьня. Апрача ўсяго гэтага, культурнае разьвіцьцё паасобных краёў няўхільна прыходзіць да мясцовых навуковых выданьняў. Першае такое выданьне мае ня меншае значэньне для краю, чым першае выданьне акадэміі для агульнанацыянальнае культуры. Таму ўсе краязнаўчыя організацыі павінны паклапаціцца організацыяй друкаваньня прац сваіх членаў, або, інакш кажучы, рэалізацыяй іх.

Гэта рэалізацыя краязнаўчай творчасьці можа ісьці як у кірунку скарыстаньня існуючага пэрыодычнага і непэрыодычнага друку, так і ў кірунку організацыі сваіх уласных выданьняў на падставе адпаведнага параграфу статуту. Нормальным-жа будзе лічыцца той стан справы, калі дзейннасьць організацыі будзе адбывацца адначасна ў абодвух кірунках; на жаль, матар'яльны стат шмат якіх організацый не дазволіць ім апошняга.

Прыдзецца пачынаць з больш лёгкага—зьмяшчэньня сваіх матар'ялаў у існуючым ужо друку. Для гэтага ў першую чаргу трэба добра ведаць усе свае матар'ялы: іх зьмест, характар, разьмер і г. д. Заметка, дробны артыкул ня можа быць прыняты для друку рэдакцыяй буйнога часопісу, журнальны артыкул не падыходзіць для газэты, а грунтоўная праца патрабуе або паасобнага выданьня, або зьмяшчэньня ў акадэмічных выданьнях. З другога боку нельга пасылаць досьледы мясцовай літаратуры ў сельска-гаспадарчы часопіс, апісаньне выдатнай сельскай гаспадаркі—у мэдычны і г. д. Значыць, апрача дакладнага веданьня свайго матар'ялу, трэба каб праўленьне краязнаўчай організацыі, ці асоба ім вылучаная, дакладна ведала і ўвесь мясцовы агульнанацыянальны, пэрыодычны і непэрыодычны друк. Першаю дапамогаю ў гэтым будзе выпісваньне з Беларускай Кніжнай Палаты (Менск, Савецкая вул., № 93, Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка) „Летапісу беларускага друку“ з пачатку яго выхаду (комплект за 1925 г.—75 кап., за 1926 г.—1 р. 20 кап. і падпісная плата на 1927 г.—1 р. 20 кап.). Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка, апрача таго, ахвотна адказвае краязнаўчым організацыям на паасобныя запытаньні бібліографічнага характару. Урэшце, уведаўшы што і дзе выходзіць, прыдзецца азнаёміцца з яго характарам і чарговымі пытаньнямі, якія цікавяць намечаныя (для зьмяшчэньня прац організацыі) выданьні. Некаторыя з рэдакцый ахвотна вышлюць комплект свайго выданьня для азнаямленьня дарма, на іншыя—прыдзецца падпісацца. Орыентаваўшыся ў сваіх матар'ялах і ў органах друку, неабходна падрыхтаваць матар'ял і разьмеркаваць у адпаведныя выданьні. Самае галоўнае, чаго пры гэтым ня можна забывацца—гэта таго, што пэрыодычны друк як-мага орыентуецца на сучаснасьць. Рэдакцыя газэты ахватней прыме біографічнае паведамленьне аб працаўніку меншага маштабу, калі адбыўся пэўны юбілей яго працы, сьмерці і г. д. і адмовіцца ад больш каштоўнага матар'ялу аб больш выдатным працаўніку, калі матар'ял нічым ня зьвязан з сёньнешнім днём. Часопіс ахватней возьме слабейшы матар'ял, калі ён гаворыць не аб сялянскіх бунтох наогул, а, напр., аб бунтох 1905 г., або не аб пагодзе наогул, а аб пагодзе гэтага лета і г. д. Наогул, заўсёды трэба ўвязаць матар'ял з сучаснасьцю. Копіі рукапісаў абавязкова павінны пакідацца ў організацыі.

Пераважная большасьць матар'ялаў журнальнага характару, зразумела, павінна і будзе пасылацца ў „Наш Край“, які фактычна зьяў-

ляецца органам краязнаўчае сеткі. Аб ім мы і не гаворым паколькі ён добра вядомы ўсім краязнаўчым аб'яднаньням і паасобным краязнаўцам.

Усё-ж у організацыях знойдуцца матар'ялы, якіх ня ўдасца зьмясьціць ні ў „Нашым Краі", ні ў іншых часопісах і паасобных выданьнях, ні ў мясцовай газэце. Прыдзецца падумаць аб організацыі сваіх выданьняў, характар якіх будзе цалкам залежаць ад матар'яльнага стану краязнаўчых аб'яднаньняў.

Першапачатковым, элемэнтарным выданьнем, якое могуць выпушчаць невялічкія гурткі, зьявіцца рукапісны часопіс ў адным экзэмпляры. Напісаны рукою, аздоблены ручнымі малюнкамі, ён здолее абслужыць сваю аўдыторыю. Найбольшую каштоўнасьць ён будзе мець тады, калі будзе выходзіць рэгулярна і захоўвацца за ўвесь час. Зважаючы на няспрыяючыя ўмовы на мясцох для захоўваньня матар'ялаў на працягу доўгага часу, лепш за ўсё пасьля пэўнага (2-3 тыдні) тэрміну з часу выхаду чарговага нумару адсылаць яго ў Цэнтральнае Бюро Краязнаўства (Менск, Рэволюцыйная, 21) з абавязковым паведамленьнем аб гэтым раённага або акруговага таварыства краязнаўства. Такі рукапісны часопіс можа складацца з аддзелаў згодна з галінамі вывучэньня свайго краю: грамадзка-экономічнага, прырода-географічнага і культурна-гістарычнага, а таксама—літаратурнага і хронікі. У літаратурным аддзеле можна зьмяшчаць вершы і прыгожую прозу, што апісваюць мясцовы край, яго прыроду, здарэньні, жыцьцё. Увесь матар'ял павінен дакладна рэдагавацца. Часопіс выдаецца з ведама сельсавету, або загадчыка ўстановы, у якой знаходзіцца краязнаўчае аб'яднаньне.

Зразумела, лепш будзе, калі гурток зможа набыць шапірограф і на ім друкаваць вядомы лік экзэмпляраў свайго часопісу.

Шапірограф можа цалкам абслужваць патрэбы гуртка, даючы 50—70 адбіткаў; апісаньне спосабу працы даецца пры кожным шапірографе.

Раённае або акруговае таварыствы краязнаўства змогуць набыць шклопіс, ці падобны апарат, які пры добрай працы дае звыш 1.500 адбіткаў.

Апрача паказаных разьдзелаў для рукапіснага часопісу, у часопісе раённага або акруговага маштабу, можна мець аддзел програм і інструкцый і інш.

Паколькі „Наш Край" пакуль што можа зьмяшчаць усе матар'ялы на сваіх старонках—выданьне асобных *часопісаў* друкарскім шляхам на мясцох нічым не выклікаецца і немэтазгодна. Таксама варта ўстрымацца ад буйных выданьняў, як „Віцебшчына" (1925), бо яны вельмі дорага каштуюць і пасьля надрукаваньня іх амаль што немагчыма прадаць. Лягчэй выдаваць монографіі, выданьні па асобных пытаньнях ці галінах. Яны хутчэй будуць прададзены, а лік іх можа перагнаць велічыню буйнога выданьня. Так робіць Габінэт Вывучэньня Падольля на Украіне.

У той час, як мясцовыя організацыі павінны самі асабліва ўважліва адносіцца да сваіх выданьняў на шапірографе і шклопісе, для выданьняў друкарскім шляхам неабходна папярэдняе рэдагаваньне ў ЦБК згодна пастановы 1 Ўсебеларускага Зьезду.

Выданьні звычайным друкарскім шляхам, а таксама на шклопісе могуць зьдзяйсьняца на працягу доўгага часу толькі тады, калі будзе

забясьпечаны продаж іх. Для гэтага трэба ў першую чаргу ўлічыць мажлівых заказчыкаў сярод мясцовых установ і організацый: аддзел асьветы можа купіць пэўныя выданьні для школ, хат-чытален; выканаўчы камітэт—для сельсаветаў; профэсіянальнае бюро—клюбаў, сваіх організацый і г. д. Значыць, трэба орыентавацца на задачы гэтых установ і організацый. З другога боку, неабходна мець на ўвазе і інтарэсы мажлівых індывідуальных пакупцоў—настаўнікаў, членаў коопэрацыйных аб'яднаньняў і да т. п., а таксама членаў краязнаўчае сеткі. Карысна будзе мець водзывы ўсіх гэтых організацый і ўстаноў: аддзелу асьветы, камісіі па беларусізацыі, акрпляну і г. д. аб сваіх выданьнях. Гэта значна палегчыць справу продажу, як і належная здаровая рэкляма. Трэба ў мясцовай газэце, а таксама і цэнтральным друку зьмясьціць шэраг артыкулаў аб выданьні, паслаць выданьне шмат якім спэцыялістым, каб зьявіліся рэцэнзіі ў друку і г. д. Больш моцныя акруговыя таварыствы з пэўным посьпехам могуць распачаць пэўную сэрыю выданьняў, як, напр., энцыклёпэдыя Віцебшчыны, Аршаншчыны, Магілеўшчыны. Адно выданьне такой сэрыі будзе гаварыць аб флёры, другое—фаўне, трэцяе—мастацтве і г. д., цалкам дазваляючы выхад з друку тэй ці іншай раней скончанай працы. А такі характар выданьня зацікавіць найбольш шырокія колы грамадзянства. Як толькі канчаткова будзе вырашана пытаньне аб выданьні сваіх прац— прыдзецца паклапаціцца адшуканьнем матар'яльнае базы для яго ажыцьцяўленьня. Лепш за ўсё, калі выканаўчы камітэт, аддзел асьветы, профэсіянальнае бюро, коопэрацыйнае аб'яднаньне, саюз паляўнічых ці іншая юрыдычная асоба возьмецца выдаваць усе або паасобныя працы краязнаўчай організацыі. Для гэтага трэба зацікавіць гэтыя ўстановы, а таксама мясцовыя колы членаў партыі, членаў саюзаў, іншых аб'яднаньняў і наогул грамадзян. Калі ня ўдасца перадаць выданьне цалкам—трэба пастарацца прыцягнуць паказаных юрыдычных асоб хоць-бы да супольнага выданьня прац, або атрымаць ад іх пазыку, крэдыт ці паручыцельства (заруку). Па тых ці іншых прычынах можа і апошняе ня ўдасца—тады прыдзецца зьбіраць свае ўласныя сродкі. Пры шчырай зацікаўленасьці членаў краязнаўчай організацыі часамі ўдаецца організаваць складчыну—па 3, 5, 10 руб., якія варочаюцца пасьля продажу выданьня. Большую частку сродкаў можна сабраць шляхам падпіскі на будучае выданьне. У апошнім выпадку лепш за ўсе зьбіраць падпіску на ўсю сэрыю, бяручы плату за 2-3 выпускі, прычым плата за адзін выпуск пакідаецца, як за апошні ў організацыі, 1-2 выпускі высылаюцца звычайна, а далейшыя, апрача паказанага апошняга,—накладной платай. Апошні, таксама, як і першыя 1-2, высылаецца, зразумела, без атрыманьня ад заказчыка новай платы. Карысна будзе сабраць абвесткі мясцовых прадпрыемстваў, рамясьнікоў, магазынаў, якія таксама могуць даць немалы прыбытак. Пры зборы абвестак трэба разьлічваць, каб быў гэты прыбытак, апрача выдаткаў на самае друкаваньне абвестак. Наогул, у пачатку справы трэба ўкласьці самы падрабязны каштарыс, ні ў якім разе не зьмяншаючы лічбаў выдатку і не павялічаючы лічбаў магчымага прыбытку супроць рэальнага стану свайго рынку, які, паўтараем, трэба найдакладна ведаць. Тут ня можна шкадаваць часу і трэба параіцца з кім можна, а часамі і скарыстаць досьлед гандляра-кніжніка, нават прыватнага, не пападаючыся яму, аднак, у рукі і ведаючы, што на шкоду сабе ён не параіць. Словам, трэба навучыцца гандляваць, як казаў калісь Ленін.

Паколькі свайго магазыну організаваць ня варта, самы продаж выданьня будзе адбывацца іншымі магазынамі на правох камісійнага продажу. Трэба, значыць, ведаць, хто лепш гандлюе—ці магазыны Дзяржаўнага Выдавецтва, ці коопэрацыйныя і г. д., і падлічыць таксама магчымасьць продажы за межамі: у РСФСР, Украіне ды інш. старонках. Пры калькуляцыі неабходна падлічыць вядомы лік экзэмпляраў для бясплатнай рассылкі ў парадку абмену, а таксама той лік, які можа не разыйціся.

Само выданьне, кніжка, ёсьць продукт цэлага колектыву: аўтара, рэдактара, мастака, выдаўца, корэктара, наборшчыка і г. д. і неабходна гэты колектыў добра з'організаваць, зацікавіць кожнага, каб выданьне вышла мажліва больш дасканалым з усіх бакоў. Дрэнная вокладка, вёрстка, друкарскія памылкі і інш. хібы псуюць самы каштоўны тэкст—і наадварот*).

Выданьне невялікіх прац на мясцох цалкам мажліва, і нашы краязнаўчыя організацыі ня могуць адмовіцца даць навукова-популярныя мясцовыя выданьні, якія адчыняць зусім новую эпоху культурнага разьвіцьця Беларусі, што ўжо зроблена ў Латвіі, Фінляндыі, Украіне (Падольлі) і інш. старонках.




*) Тэхніка кніжнай справы і кніжны гандаль (па картатэцы Бел. Дзярж. Бібліотэкі) высьвятляецца ў наступных выданьнях: *Поршнев.* Книжная торговля, 1925 г. *Фальборк і Чарнолусский.* Библиотеки и книжная торговля, 1925. *Черенин.* Как открывать и вести книжную торговлю в провинции, 1909. *Вульф.* Организация и учет книжной торговли в кооперативах. *Анфилов.* Как торговать книгами в деревне. *Рельнер.* Книгопечатание как искусство, 1925. *Пиленков.* Техника книжного дела. 1926. *Щелкунов.* История, техника и искусство книгопечатания, 1926. Пад рэд. *Муратова і Накоракова.* Книжная торговля, 1925. *Мезьер.* Словарьный указатель по книговедению, 1924. і інш.



Ал. Шлюбскі.

# Год зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу *).

**Магілеўская акруга.** З матар'ялаў, якія сабраны ў Магілеўскай акрузе, зьвяртаюць на сябе ўвагу запісы настаўніка *Аўгена Галадкоўскага,* які ў Быхаўскім раёне запісаў 40 веснавых песень; песьні запісаны старанна, хаця з недахопамі, агульнымі для ўсіх зьбіральнікаў, аб чым памяну ў канцы. З запісаных ім песень зьвяртае на сябе ўвагу наступная:

А Юр'ява матка каля рэчкі хадзіла;
Каля рэчкі хадзіла, ключыкі-замочкі насіла;
Ключыкі-замочкі насіла, зямельку адмыкала;
Зямельку адмыкала ды травіцу выпускала.
Ах вы, жонкі-бухонкі, вы ўставайце раненька;
Вы ўставайце раненька, вы ганіце каровак;
Вы ганіце каровак да на Юр'яву расу;
Да на Юр'яву расу, да на божжую красу.

Далей ідуць дробныя запісы: 1) *Ралько* запісаў 2 калядныя п., 9 бытавых п.; запісы зроблены ня вершамі і без адзначэньня месц запісаў. 2) *Казлоў* у Стара-Быхаўскім р. запісаў: веснавых п.—2, жніўных п.—1, вясельных п.—2, прыпевак—3, бытавых п.—3, загадак—4. 3) *Ануфрыеў, М.*, былы настаўнік, не займае ніякай пасады, запісаў у б. Быхаўскім павеце: веснавых п.—6, купальскіх п.—2, жніўных п.—2, вясельных п.—2, бытавых п.—6 і 1 легенду. Запісы зроблены ў 80-х гадох мінулага сталецьця паводле прынцыпаў Шэйна і Раманава — зблiжэньне беларускай мовы з расійскай граматыкай. 4) Настаўніца *Л. Сіверлая* дае цікавае з этнографічнага боку апісаньне ежы і вопраткі сялян акругі, але, на жаль, не адзначае, якія мясцовасьці яна апісвае. 5) Нарэшце, маем 12 калядных п. і 17 бытавых п., якія няведама кім запісаны ў Быхаўскім раёне.

**Мазырская акруга.** У справе зьбіраньня народнае творчасьці з усіх Акруговых Краязнаўчых Таварystваў зьвяртае на сябе ўвагу Мазырскае, на чале якога стаіць т. *А. Крукоўскі* сваім сталым, сур'ёзным падыходам да справы. Да зьбіраньня матар'ялаў Таварыства прыцягнула з розных раёнаў асоб, якія, зросшыся з вёскай крэўнасьцю

*) Гл. „Наш Край" № 1, 1927 г.

і працай, добра яе ведаюць—гэта наша настаўніцкая інтэлігенцыя. У зьбіраньні матар'ялу прынялі ўдзел наступныя асобы: *Н. Рудакоўская, Л. Чайкоўскі, М. Ліцкая, А. Крукоўскі, М. Квіцінскі, М. Бруем, Бакман і Маркуль,* а частка сваіх прозьвішч не адзначыла. Памянёныя асобы сабралі наступны матар'ял: купальскіх п.—4, веснавых п.—15, жніўных п.—10, вясельных п.—128, бытавых п.—96, прыпевак—2, загадак—30, каляндых п.—6, замоў—2, прыказак—4. Матар'ял старанна перапісан і прадстаўлен у І Б К у самым узорным парадку. З фонэтычнага боку запісы добрыя, хаця ня ўсе аднолькавай вартасьці. Значэньне песень павялічваецца данымі да песень 10 мэлёдыямі.

У ліку бытавых песень знаходзім шэраг беларускіх твораў не народнага паходжаньня, якія перайшлі ў народ і ўжываюцца, як народныя. Так тут знаходзім верш А. Шункевіча „Сьцяпан і Тацьцяна", які ў 1889 г. быў надрукаваны ў № 18 „Минского Листка"; знаходзім тут і неапублікованы верш Якуба Коласа, напісаны ім у 1902 г., які пачынаецца так:

Бог хоць раз прывёў Гаўрылу
Ў вялікім горадзе пабыць,
Але-ж вёскі сваёй мілай
Не магу ніяк забыць...

Апрача прыведзенага, *М. Квіцінскі* прадставіў апісаньне вясельля, у якое ўключыў каля 220 песень; запісана ім яшчэ 11 песень жніўных і 11 бытавых. Галоўны недахоп у Квіцінскага той, што песьні так цесна ўпісаны ў тэкст, што вельмі цяжка іх адшукваць; ды і песьні самыя запісваюцца так: аднача́сна гэта прыклад, *як нельга* запісваць песень:

Выкруцілі, выматалі бочку мядочку; высваталі, высваталі ў пана свата дочку. Да й пасадзем, да і пасадзем, да й паедзем на новым вазочку і да й павязём, да й павязём да свайго дамочку; да й паложым да й паложым на новай краваці; што схочам, то зробім чужому дзіцяці.

А вось прыклад, *як трэба* запісваць толькі што прыведзеную песьню:

Выкруцілі, выматалі
Бочку мядочку.
Высваталі, высваталі
У пана свата дочку.
Да й пасадзем, да і пасадзем,
Да й паедзем на новым вазочку;
Да й павязём, да й павязём
Да свайго дамочку;
Да й паложым, да й паложым
На новай краваці;
Што схочам, то зробім
Чужому дзіцяці.

У ліку бытавых песень знаходзім некаторыя і не беларускія песьні.

Настаўнік *Шаўковіч* у Тураўскім раёне запісаў 1 казку.

Далей, там-жа няведама кім запісаны: 2 калядныя п., 2 бытавыя п. і 2 апавяданьні.

**Менская акруга.** Найбольшы лік запісаў у Менскай акрузе падае на *Ю. Лычкоўскага,* які ў Койданаўскім р. запісаў: купальскіх п.—5, жніўных п.—8, веснавых п.—21, бытавых п.—4, прыказак—206, прыпевак—35, загадак—25. Буйным недахопам зьяўляецца злучэньне шэрагу песень у адно цэлае, нават бяз знакаў прыпынкаў.

*Юркевіч, У.* (Чэрвенскі р.) запісаў 290 прыпевак і 6 вясельных песень. Зьбіральнік дае прыгожыя прыпеўкі эротычнага зьместу, на якіх, як і наогул на прыпеўках навейшай формацыі, значна адбіваюцца русіфікуючыя ўплывы на мову. Шкада, што зьбіральнік зусім не зьвярнуў увагі на прыпеўкі, якія ўтварыліся рэволюцыяй, окупацыямі і якія ўтвараюцца сучасным новым бытам.

*Брэгман, Х.*—вучаніца 7 клясы Людзеняўіцкай сямілеткі—запісала: калядных п.—2, веснавых п.—3, жніўных п.—1, замоў—3, вясельных п.—5, бытавых п.—11, прыпевак—12, казак—1. Ёсьць запісы і зусім не беларускія, якія сьмела можна было прамінуць, як, напр.:

У северы на восток
Стаяў манастыр высок
і г. д.

Рэшта фольклёрнага матар'ялу, які зьбіраўся на Меншчыне, зьяўляецца не сыстэматычнымі запісамі, а выпадковымі так: 1) *Б. Зелянкевіч* у Сьмілавіцкім р. запісаў 14 масьленіч. песень. 2) *Азбукін, М.* у Чэрвенскім, Сьмілавіцкім і Бярэзінскім раёнах запісаў: купальскіх п.—5, бытавых п.—4, жніўных п.—6, веснавую п.—1, вясельных п.—3, хрэсьбінск. п—1. 3) *Сц. Тоўсьцікам* і *Вальковічам* у Самахвалаўскім і Горадзенскім раёнах запісана 24 прыкметы. 4) *Д. Гуло,* не адзначаючы месца запісаў, сабраў: калядных п.—3, купальскіх п.—7, жніўных п.—8, вясельных п.—6, загадак—12. Паміж іншым, з запісаў Гуло цікава наступная купальская песьня:

Вой ты, сівая зязюля,
Ты бліска места начуеш,
Ты ўсё бачыш і чуеш,
Што на месьце даражэй?
Што на базары дзяшавей?
„Падаражэлі дзевачкі,
„Падзешавелі хлопчыкі.
„За хлопчыка 100 рублей,
„За дзевачку тры тысячы.

5) *А. Фундлер* запісаў у Менску 5 вясельных п. і 3 апавяданьні. 6) *А. Пальчэўскі* запісаў у Узьдзенскім раёне 15 бытавых песень. 7) Слухачы Менскага беларускага пэдагогічнага тэхнікуму запісалі ў розных месцах Меншчыны: а) *А. Міранчык*—купальскіх п.—4, жніўных п.—3, вясельных п.—4 і 16 прыкмет; б) *Лобус і Платонава*—вясельных п.—8, веснавых п.—4, жніўных п.—2, бытавых п.—2, вясельных п.—3, купальскіх п.—2, хрэсьбінскіх п.—1, масьленічных п.—5; в) *Ганна Акулік*—1 легенду і 7 прыкмет; г) *Л. Шышко*—2 купальск. п., 5 вясельных п., 13 прыпевак, 5 загадак, 2 прыказкі і 20 прыкмет; д) *А. Вольскі*—у Менску 7 прыпевак; е) *Вішнеўская*—4 вясельныя п., 3 жніўныя п., 2 купальскія п.; ж) *Е. Рачок*—18 прыкмет; з) *В. Казлоўскі*—13 вясельных п.; і) няведама кім запісана—3 прыказкі, 1 казка, 3 бытавыя песьні, 16 прыпевак. 8) *Кастрыцкі* ў Узьдзенскім р.—запісаў 1 купальск. п., 6 прыкмет і 1 прыказку. 9) *Тарасэвіч С.* сабраў у Самахвалавіцк. р. погляды сялян на пчалярства. 10) *С. Шыманскі* адтуль апісаньне лекавых расьлін. 11) *Прохарчык Ф.* у Сьмілавіцкім р. запісаў—3 калядныя п., 2 бытавыя п. і 1 вясельную п. 12) *Я. Бажок,* т. с. раён—5 жніўных песень. 13) *Шашаль* (Дукора)—купальскіх п.—3 і матар'ялы аб лекавых расьлінах. 14) *Бандаровіч Р.* (Чэрвэнскі раён)—2 казкі. 15) *М. Пуціцкі* (Шацкі р.)—15 жніўных п. і некаторыя матар'ялы аб народных забабонах. 16) *Бандаровіч Р.*—2 апавяданьні, 5 бытавых п., 3 купальскія п., 5 жніўных п. і 4 прыкметы 17) *Палон-*

*ская* (Самахвалавіцкі р.)—5 купальскіх п., 2 жніўныя п., 2 вясельныя п., 2 бытавыя п. 18) *Сяліванчык, В.* (Шацкі р.)—15 загадак, 16 прыказак. 19) *Вінаградаў, З.* (г. Чэрвэнь)—7 замоў. 20) *Якубовіч, В.* (Самахвалавіцкі р.)—16 бытавых песень. Дробныя запісы рознай якасьці як з боку літаратурнага, так і з боку фонэтычнага.

**Полацкая акруга.** Самы буйны збор народнае творчасьці ў Полацкай акрузе належыць *Ю. Цясту* (Дрысенскі р.): калядных п.—12, хрэсьбінскіх п.—16, бытавых п.—74, жніўных п.—47, вясельных п.—69, веснавых п.—38, траецкіх (русальных) п.—7, талочных п.—9 і купальскіх п. —4. Песьні з ня зусім удалымі фонэтычнымі запісамі, напр.: „няхаі“, „думаі“, „ідрець“, „старенькі“, „шчебеча“ і г. д. і зусім няўдалай клясыфікацыяй сабранага матар‘ялу, у якіх выяўляецца абсолютнае няведаньне навуковых этнографічных прынцыпаў. Радзіцца нашым зьбіральнікам клясыфікаваць сабраны матар‘ял не паводле сваёй фантазіі, а паводле тых падзелаў і назоў, якія даюцца народнай творчасьці самім народам.

Ёсьць у зборы і матар‘ял маскоўскага фольклёру, як, напр.:

А ў Маскве Іван радзіўся,
У Пецябурзі ахресьціўся—
На дзереўню жыць прышоў“ і г. д.

З Вушацкага раёну прыслана 101 прыпеўка. Подпіс асобы, якая іх запісвала, адзначан нячытэльна. Цікава, што яны ўсе запісаны ад аднаго мужчыны: „Чуў на йгрышчы ад п‘янага. Ён пеў пад гармонь.“ Цікава, што па зьместу памянёны збор, выкананы мужчынай, апісвае каханьне дзяўчынай—хлапца; значыць, творчасьць іх належыць жанчынам. Вось тут нашым зьбіральнікам можна было-б зрабіць цікавыя нагляданьні аб тым, хто прымае ўдзел у творчасьці прыпевак, якая ў гэтым роля мужчын і ці абмяжоўваецца іх роля ўтварэньнем толькі прыпевак фабрычна-заводзкага і нецэнзурнага зьместу. Таксама цікава выявіць, хто творыць сучасную рэволюцыйную, антырэлігійную прыпеўку і г. д.

Ніхто з нашых зьбіральнікаў фольклёрнага матар‘ялу, як са старых (напр., Шэйн, Раманаў, Нікіфароўскі, Дабравольскі і г. д.), а таксама і сучасных ня цікавіўся рэпэртуарам народных казацеляў; ня выяўлен лік песень, які знае адна асоба, іх якасьць, зьмест, адносіны да іх г. д.

*Турковым, Н.* у Вушацкім раёне запісана ад „граждан—девиц“ 70 прыпевак і 15 „романсов“. Усе запісы, як прыпеўкі так і „романсы“— ня маюць абсолютна ніякага дачыненьня да беларускага фольклёру, запісаны яны на добрай вялікарасійскай мове з усімі яе асаблівасьцямі,—нават адсутнічаюць у мове беларусізмы; як відаць, запісы зроблены ў аднэй са „стараверскіх“, ці, як, яшчэ завуць на Віцебшчыне, „маскальскіх“ сяліб, якія раскіданы па Віцебшчыне і якія добра захавалі свае вялікарасійскія асаблівасьці як у быце, так і ў мове. Адсюль вывад: зьбіральнік павінен адзначаць нацыянальнае паходжаньне тэй асобы, са слоў якой ён робіць запіс, чаго ніхто не рабіў. А пры прысутнасьці такой адзнакі было-б лягчэй вытлумачыць той значны лік вялікарасійскіх песень у народнай творчасьці, запісаных нашымі зьбіральнікамі, якія адзначаны ў належных мясцох.

Далей маем шэраг больш-менш дробных запісаў. *Баброўскі, У.* у Вушацкім р. запісаў: калядных п.—3, веснавых п.—2, купальскіх п.—2, хрэсьбінскіх п.—1, хаўтурных галошаньняў—1, жніўных п.—3, талочынскіх п.—2, вясельных п.—4, прыпевак—12; часамі сустракаюцца

такія незразумелыя запісы, як „мєду“, „гарєлку“ і г. д. Вучні старшых кляс сабралі наступнае: 1) *Пчалкоў, К.* (Валынцаўскі р.)—4 бытавыя п. 2) *Пятухоў, П.* —бытавых п.—3, 1 замову. 3) *Хадкевіч, Т.*—3 вясельных п. 4) *Балтрук, М. і П.*—3 вясельн. п., 1 жніўн. п., 1 загадку. 5) *Валенцік, Ф.* — 1 жніўн. п., 3 вясельн. п., 1 веснав. п., 2 загадкі. 6) *Манзус, Б.*—жніўн. п.—3, талочных п.—2, хрэсьбінскіх п.—3, вясельных п.—1. 7) *Губскі, Б.*—2 замовы. 8) *Лабэцкая, З.*—19 загадак, 5 прыпевак, 1 казку, 2 прыказкі. 9) *Зімацкая, З.*—8 загадак, 2 веснавыя п. 10) *Козік, Я.*—2 апавяданьні з часоў паншчыны.

*Міхалкаў, А.*, студэнт Бел. Комуністычн. Унівэрсытэту, на ст. Вобаль запісаў 14 вясельных песень.

Без адзначэньня месц запісаў і зьбіральнікаў знаходзім 43 загадкі і 1 казку.

**Слуцкая акруга.** Найбольшы лік запісаў у гэтай акрузе належыць:

*Сароку, А.*—курсант Магілеўскай партшколы, запісаў у Капыльскім р.: веснавых п.—1, калядных п.—3, купальскіх п.—5, вясельных п.—57, жніўных п.—5, бытавых п.—41, загадак—6, замоў—2, хрэсьбінскіх п.—5. Запісы цікавыя з боку зьместу, ня зусім добра запісаны з фонэтычнага пункту погляду, прычым не адзначае месц запісаў і вестак аб казальніках, што, бязумоўна,—значны недахоп.

*І. Рушкевічу* (Чырвона-Слабадзкі р.), які сабраў: бытавых п.—41, вясельных п.—24, веснавых п.—1, хрэсьбінск. п.—2, калядных п.—2, жніўных п.—1 і 3 апавяданьні. З ліку апошніх цікава прывесьці цалкам апавяданьне „Як Баянічы выбіралі папа“:

> „Памёр поп у Баянічах. Надта шкадавала яго сялянства вёскі, бо быў ён добры поп. Добра маліўся, яшчэ лепш браў ад баб яйца, куры,—адным словам, быў поп, як поп. Але нічога ні паробіш,—памёр. Хочаш, ці ня хочаш, а выбіраць новага трэба. Сабраліся на сход, судзілі, радзілі і на тым парашылі: павесіць старасьце Пракопу на шыю гарбуз і вадзіць па дварох. На чыім дворы адарвецца гарбуз, той і будзе папом. Стараста Пракоп быў чалавек хітры, надта хітры, ні дарма-ж яго заўсюды выбіралі старастай. На чужых дварох ішоў ціха, каб гарбуз ні адарваўся, а як прышоў на свой двор, дык як страсяне галавою—гарбуз адарваўся і пакаціўся пад ганак. Прышла нядзеля. Пачаў Пракоп рыхтавацца да цэрквы службу правіць. Надзеў боты з шырокімі халявамі (а боты былі адны на ўсёй вёсцы у папа), взяў чугун з прабітымі ў дне дзіркамі замест кадзільніцы, пасыпаў жару і пашоў служыць абедню. Люду сабралось шмат, каб, значыца, паглядзець, як будзе служыць новы поп. Вашоў Пракоп у цэркаў, аблачыўся ў рызы, узяў у рукі кадзіла з чугуна і пачаў службу. Моліцца Пракоп, моліцца і сялянства. Хрэсьціцца Пракоп, хрэсьціцца і сялянства, што ён, то і яны, бо ведама, што поп умее лепш маліцца. Махае поп кадзілам,—разгараецца ў чугуне жар, выпадае цераз дзіркі ў дне і пападае ў халявы ботаў Пракопа. Моліцца Пракоп, ні прыкмячае, што ў яго гараць у ботах анучы і штаны. Прагарэлі штаны, запякло Пракопу ў ногі. Моцна нітерпяліва запякло Пракопу, аж ня вытрымаў, упаў і пачаў дрыгаць нагамі ад болі. Падзівілася сялянства такімі выкрунтасамі Пракопа (бо стары поп ім гэтага не паказываў), але падумала, што Пракоп закладае новае сьвята „Сьвятога Падрыгайлы“. Упала

і пачало дрыгаць нагамі. І пачалі ў нас, у Баянічах, сьвяткаваць сьвятога Падрыгайлы“.

*Дарашэвіч А.* у Грэскім р. запісаў: вясельных п.—67, жніўных п.—39, загадак—13, бытавых п.—7, веснавых п.—1. Далей маем цэлы шэраг запісаў, якія належаць слухачом Менскага беларускага пэдагогічнага тэхнікуму: 1) *Вішнеўская Н.* (Слуцкі р.)—8 бытавых п. і 1 веснавую. 2) *Дунька З.*—9 замоў, 124 павер‘і. 3) *Куракевіч Н.* (Грэскі р.)—13 вясельных п. 4) *Трус*—1 веснавую п., 4 прыкметы, 1 жніўную п., 1 духоўны верш. 5) *Саладуха А.* (Грэскі р.)—8 прыкмет і 1 бытавую п. 6) *Раманаў М.* (Капыльскі р.)—1 калядную п., 1 духоўны верш, 4 веснавыя п. і 5 бытавых п.; каштоўнасьць яго запісаў павялічваецца 5 дададзенымі мотывамі. 7) *Лутовіч Н.* (Любанскі р.)—69 вясельных п. і 3 бытавыя. 8) *Магілевец А.* (Старобінскі р.)—вясельных п.—32, калядных п.—4, масьленічных п.—2, запіс вершаў не вершаваны. 9) *Зянюк Я.* (Грэскі р.)—вясельных п.—45. 10) *Яўхімчык П.* (Капыльскі р.)—2 казкі. 11) *Сікорскі Я.* (там-жа)—1 бытавую п. 12) *Лобан Р.* (там-жа)—30 загадак. 13) *Ярош А.* (Старадарос. р.)—20 прыпевак, калядн. п.—2, бытав. п. 1. 14) Вучні старобінскай сямігодкі: *Рускевіч С., Шарко Ю. і Я., Бурдзейка Н., Кудраўцаў Р., Корзун П.* запісалі: веснавых п.—8, вясельных п.—25, бытавых п.—62 і жніўных п.—8. З усіх пералічаных запісаў асабліва слабы матар‘ялы, сабраныя дзяцьмі Старобінскай школы, якія, апроч таго, што запісаны зусім падзіцячаму і нячытэльна, маюць шмат непатрэбнага матар‘ялу, які часамі займае цэлыя сшыткі, як, напр.:

Вспомні, братцы, як стоялі
Мы на шыбке в облаках,
Туркі нас атакавалі
І засталісь дураком і г. д.

15) *Чарнушэвіч Вера* (Капыльскі р.)—калядных п.—2, купальскіх п.—4, жніўных п.—5, вясельных п.—4.

Нарэшце адзначу драбнейшыя запісы: 1) *Магілевец С.* (Старобінскі р.)—16 бытавых п. Вучні сабралі наступнае: 2) *Мамачка А.* (Старобінскі р.)—11 вясельных п. 3) *Кот А.* (Старадароскі р.)—12 вясельных п. і 1 бытавую. *4) Чыгір К.* (Чырвона-Слабодзкі р.—жніўных песень—7. 5) *Амяльkевіч М.* (там-жа)—жніўных п.—3, вясельных п.—12. 6) *Пантусэвіч Я.* (Слуцкі р.)—вясельных п.—20, жніўных п.—9. 7) Запісы вучняў Пагосцкай сямігодкі даюць: вясельных п.—6, масьленічных п.—1, калядных п.—2, бытавых п.—4. 8) *Ярот З.* (Слуцкі р.)—5 бытавых п. 9) *Бяльkевіч Я.* (там-жа)—жніўных п.—4, вясельных п.—8. 10) *Чыж М. і А.* (там-жа)—вясельных п.—8, жніўных п.—7, загадак—4. 11) *Валадкевіч А.* (там-жа)—4 вясельныя п.

**Гомельская губ.** З толькі што ліквідаванай Гомельскай губ. маем шэраг запісаў, якія зроблены *Сяргеем Салдаценкам* у в. Целяшы, Гомельск. павету: калядных п.—4, веснавых п.—5, жніўных п.—2, вясельных п.—23, бытавых п.—14 і прыпевак—10. Старанна запісаны матар‘ял мае некаторыя фонэтычныя недахопы, якія, бязумоўна, з часам будуць зьнішчаны, дзякуючы вялікаму жаданьню С. Салдаценкава працаваць у галіне збору фольклёрнага матар‘ялу на Беларусі. Вось, напр., што чытаем у яго лісьце: „Калі ў мяне ёсьць словы не беларускія, то гэта словы этнографічнай Беларусі; не адхіляйцесь ад нас, а прыслухоўвайцесь к нам... я застаюся маленькім працаўніком Гомельскай Беларусі...“ (ліст пісан, калі Гомельшчына яшчэ ня была далучана да БССР). Падыход у зьбіральніка бясспрэчна правільны,

бо нельга ў тэксьце, які запісваецца, рабіць якія-бы то ні было зьмены ці замены нават у адносінах не-беларускіх элемэнтаў.

**Смаленская губ.** Апрача раней памянёных запісаў, якія былі зроблены ў Смаленскай губ., маем 9 казак, запісаных вучнямі тэй самай школы *(Я. Сівянкоў, Х. Альтшулер, Ф. Гарлоўская, Э. Крышталінская, З. Яфрэмкін, М. Чарнякова, Ахрэмкін, З. Чарнова, Абраменка)* у Рослаўльскім павеце. Матар'ял ня зусім дакладны з фонэтычнага боку.

Нарэшце трэба адзначыць самы вялікі збор фольклёрнага матар'ялу, які належыць аднэй асобе і які адзначыцца ў канцы нашага агляду з прычыны таго, што абхоплівае акругі Барысаўскую, Магілеўскую, Менскую і Гомельскую губэрню. Збор гэты належыць студэнту Дзяржаўнага Унівэрсытэту *Янку Сапуну,* які запісаў: вясельных п.—53, жніўных п.—24, хрэсьбінскіх п.—80, купальскіх п.—10, веснавых п.—10, бытавых п.—103, а ўсяго 280 нумароў. Запісы добрыя, але, як мне здаецца, у некаторых мясцох ёсьць значныя ўплывы граматыкі і, на жаль, усюды адсутнічаюць матар'ялы аб казальніках.

Заўвагі адносна індывідуальных недахопаў былі зроблены пры разглядзе таго ці іншага зьбіральніка; зараз адзначу недахопы, агульныя для ўсіх або для большасьці зьбіральнікаў. У дыялектолёгічных адносінах прыходзіцца адзначыць, што нават найлепшыя запісы маюць хібы, так: не адзначаюцца дыфтонгі; адсутнічаюць націскі, якія трэба ставіць на кожным слове, а ў крайнім выпадку на словах, якія вымаўляюцца інакш, чым у мове літаратурнай; ня робіцца розьніца паміж вымаўленьнем і г. д. З боку этнографічнага таксама ёсьць некаторыя недахопы. У большасьці не падаецца ніякіх вестак аб казальніках; у шмат каго адсутнічаюць паказаньні месц запісаў; за выключэньнем аднаго-двух, ніхто не адзначае даты запісу; ёсьць значны лік запісаў, дзе не адзначаны зьбіральнікі; значны лік запісаў напісаны нячытэльна, што не павінна мець месца ў фольклёрна-дыялектолёгічных запісах, у якіх кожны значок мае пэўнае значэньне; ні ў якім разе запісы нельга прысылаць зробленыя алоўкам, які сьціраецца, ад чаго, такім чынам, траціцца вартасьць рукапісу, што, напр., здарылася з замовамі, якія прысланы Аршанскім акруговым таварыствам краязнаўства; пажадана запісы прысылаць у Інстытут Беларускае Культуры, зробленыя на адным баку паперы, бо гэта значна ўпросьціць падрыхтоўку да друку сабранага матар'ялу; нельга ні ў якім разе перадаваць народныя апавяданьні сваімі словамі, а трэба запісваць іх літаральна, як кажа тая ці іншая асоба. Бязумоўна трэба прызнаць няправільным крокам абавязваць дзяцей малодшых клясаў зьбіраць фольклёрны матар'ял, як гэта мела месца ў некаторых школах; гэты старадаўны прымусовы шэйнаўскі мэтод зьбіраньня вуснае народнае творчасьці павінен быць канчаткова адкінуты; апрача дарэмнай траты часу, ён нічога не дае, бо дзіцячая праца ў галіне зьбіраньня этнографічнага матар'ялу нічога сур'ёзнага для навукі даць ня можа і можа быць цікавай з пункту погляду якіх-небудзь дзіцячых працоўных процэсаў, а ні ў якім разе ня з пункту погляду фольклёрна-дыялектолёгічнага; на падобнага роду зьбіраньне этнографічнага матар'ялу прыходзіцца глядзець толькі, як на несьвядомы падыход да сур'ёзнай справы або як на сьвядомую мэту адвязацца простым шляхам ад пэўных грамадзянскіх абавязкаў.

З усяго пералічанага відаць, што на абшарах БССР і нават паза яе межамі ёсьць цэлы шэраг асоб, якія сурьёзна зацікаўлены спра-

вай вывучэньня і зьбіраньня беларускага фольклёрнага матар'ялу; па гэтай прычыне ў іх узьнікаюць запытаньні, адказы на якія чытач знойдзе часткай у папярэднім разглядзе, а часткай на наступных старонках.

Шмат хто з зьбіральнікаў паднімае пытаньне аб тэорэтычнай іх непадрыхтоўцы да зьбіраньня як этнографічнага, так і дыялектолёгічнага матар'ялу. Б. Кавалёў (з Аршаншчыны), напр., піша: „На вёсцы дрэнна працаваць без тэорэтычнай дапамогі", а некаторыя, як, напр., К. Вашын (з Меншчыны) просяць дапамагчы ім у атрыманьні літаратуры па азнаямленьні з паходжаньнем розных відаў народнай творчасьці. У выніках зацікаўленасьці зьбіраньнем—з аднаго боку і непадрыхтаванасьці—з другога боку маем цэлы шэраг запытаньняў, як рабіць тыя ці іншыя запісы, што трэба запісваць.

У адказ на ўсе падобныя запытаньні прывядзем кароткую простую інструкцыю.

### Што трэба запісваць?

1. *Замовы,* а таксама заклінаньні, закляцьці, адкляцьці, кляцьбу, зьневажаньні; прывітаньні, пажаданьні, бажбу, праклёны.

Замовы складаюцца з такіх груп: I) *Каханьне* (замовы, зьвязаныя з каханьнем). II) *Шлюб* (замовы, зьвязаныя з вясельлем, прывабліваньне жаніха, затрыманьне вясельнага поезду, каб муж любіў жонку і г. д.). III) *Здароўе і хваробы* (пры родах, ад болі зубоў, ад хваробы вачэй, ад трасцы, ад укусу зьмяі і шалёнай сабакі і г. д.). IV) *Прыватны быт* (пасьля сну, перад сном, пры адпраўленьні ў дарогу, пры адшуківаньні кладу і г. д.). V) *Промыслы і заняткі* (земляробства, дагляд за жывёлай, паляваньне, рыбны промысел, пчалярства і г. д.). VI) *Адносіны грамадзянскія* (ад зладзеяў, ад дрэннага чалавека, пры адпраўленьні да прадстаўнікоў улады і г. д.). VII) *Адносіны да прыроды* (адносіны да марозу, ад засухі, для затрыманьня віхору, загаворы ў часе навальніцы і г. д.). VIII) *Адносіны да мітолёгічных істот* (ад „дамавога", „лесавога", „вогненнага зьмея", „нячыстай сілы" і г. д.).

2. *Прыказкі* (якія памінаюць гістарычныя зьявы, паказваюць рэлігійныя погляды і вераваньні, сямейныя адносіны, адносіны паміж людзьмі, моральныя якасьці і г. д.), а таксама і скорагаворкі.

3. *Загадкі* з адгадкамі (загадкі, якія зьвязаны з рознымі павер'ямі і бытам; чалавек і часткі яго цела; дзеі чалавека; ежа і піцьцё; вопратка і абутак; будоўля і яе часткі; мэбля і манаткі; запражка і зямляробныя прылады; жывёла; расьліны; вада і каменьні; стыхіі; зьявы прыроды; нябесныя сьвяцілы; часткі году і дня і г. д.).

4. *Казкі* I) Аб зьвярох і жывёлах; аб птушках; аб кузурках і г. д. II) Казкі з дзеямі ў іх: сонца, марозу, грому, маланкі, віхору, навальніцы, ветру, дажджу, марозу. III) Казкі пра бабу-ягу, кашчэя-бясьсьмертнага, аб зьмеях, аб аднавокім людаедзе; казкі пра чараўнікоў і ваўкалакаў і г. д. IV) Казкі сямейныя і соцыяльна-бытавыя, як, напрыклад, пра злую мачыху і добрую падчарыцу; аб мужыку і пану, папу і чорце і г. д. V) Апавяданьні і легенды аб розных мясцох, курганох, гарадзішчах, каменьнях, расьлінах, рэчках, балотах і царквох, абаротнях; апавяданьні гістарычныя, аб паншчыне, голадзе; гумарыстычна-сатырычныя творы, жарты і г. д. VI) Апавяданьні з уласнага жыцьця казальнікаў на ўсялякія жыцьцёвыя зьявы: пераезд на другое месца, пра страхі, спатканьні з чараўнікамі, аб вайне, рэволюцыі, окупацыі, паншчыне і г. д.

5. *Калядныя песьні* (песьні на раство, на Новы Год, на Васільля,

батлейкі і рацэі; шчадроўкі і калядкі; песьні пры розных калядных гульнях, напр., каза, яшчур і інш.).

6. *Песьні на масьленку.*

7. *Веснавыя песьні* (песьні, што сьпяваюцца ў вялікі пост; замыканьне зімы, адмыканьне вясны; соракі; вясьнянкі; кліч вясны; вялікодныя і валачобныя; юр'еўскія, мікольскія).

8. *Русальныя песьні* (куставыя, граныя, траецкія, духаўскія, песьні на „зялёныя сьвяткі", маёвыя, набажэнства).

9. *Купальскія песьні* (песьні на „Пятра і Паўла", ярыловіца— песьні на Ярылу, пятроўскія).

10. *Песьні пры працы* (зажыначныя, на постаці, дажыначныя, ярныя, спарышовыя; талочныя і г. д.).

11. *Хрэсьбінскія і дзіцячыя песьні.*

12. *Вясельныя песьні* (заручыны, сугляды, шлюб, вянец, пасад, наезд на цясьцёў двор, каравай, першая ноч, вечарніцы).

13. *Хаўтурныя галошаньні* (раданіца, памінкі, пахаваньне, траецкая субота).

14. *Бытавыя песьні* (любоўныя, пра сямейнае жыцьцё, бяседныя, салдацкія, арыштанцкія, разбойніцкія, прыгонныя, чумацкія, казацкія, гістарычныя; карагодныя, песьні скочныя і гумарыстычныя; песьні пры рознай працы, ня зьвязаныя з абрадамі: калі полюць, косяць, прадуць, ткуць, песьні канюхоў, пастухоў і г. д.) *і прыпеўкі.*

15. *Духоўныя вершы* (аб сканчэньні сьвету, аб страшным судзе, аб „Лазару", аб „Аляксею", „Плач Адама", аб „Пятніцы"; вершы з жыцьця Хрыста; песьні на прошчу; памінаньні за памёршых і г. д.).

16. Таксама трэба запісваць тыя песьні, вершы і іншыя творы, якія ўжо раней друкаваліся і якія маюць прыкметы не народных, а мастацка-штучных твораў, але якія пашыраны ў вуснай перадачы (як, напр., „Тарас на Парнасе", „Панскае ігрышча", „Сьцяпан і Тацьяна" і г.д.).

## Ад каго і як трэба запісваць?

17. Запісваць трэба са слоў старых *жанчын.* У выпадку адсутнасьці паміж імі асоб, ведаючых песьні, казкі і г. д., запісваць трэба са слоў кожнага, хто ведае тыя ці іншыя віды народнай творчасьці, робячы перавагу нявісьменным. Але заўсёды трэба адшуківаць лепшых казальнікаў данай мясцовасьці або тых асоб, якія самі складаюць песьні, казкі і г. д.

18. Абавязкова трэба паказаць прозьвішча і імя тэй асобы, са слоў якой зроблены запісы; паказаць яе ўзрост, асьвету, нацыянальнасьць, месца нараджэньня, заняткі, выезд у далёкія краі (заробкі, салдаты, бежанства і г. д.); а да казальнікаў лепшых, ведаючых вялікую колькасьць народных твораў, трэба дадаваць іх падрабязговы жыцьцяпіс з далучэньнем, калі можна, фотографічнай картачкі.

19. Абавязкова трэба адзначыць каля кожнага запісу: 1) час, калі зроблен запіс; 2) дакладную назову месца, дзе ён зроблен; 3) прозьвішча, імя і адрас асобы, якая зрабіла запіс.

20. Кожны народны твор, кожны выраз, кожнае паасобнае слова трэба запісваць, захоўваючы *ўсе асаблівасьці вымаўленьня,* ня робячы ніякіх паправак, ня гледзячы на тое, што некаторыя словы вымаўляюцца нібы няправільна.

21. Над кожным запісаным словам трэба ставіць націск.

22. Запіс павінен быць чытэльна зроблен на адным баку паперы.

23. Запісваць народную творчасьць пажадана з такім разьлікам, каб паступова, сыстэматычна запісаць усе віды народнай творчасьці

тэй ці іншай мясцовасьці, не бяручыся адразу за ўсё, што можна пачуць; напр., даць перш усе казкі, потым загадкі, далей запісаць усе купальскія песьні і г. д.

24. Кожны зьбіральнік, які робіць сыстэматычныя запісы, павінен весьці дзеньнік, у якім трэба адзначаць: *у адносінах да месца запісаў*—характар таго месца, дзе зроблен запіс (маленькая, глухая вёска, вялікае сяло, вёска пры шляху або пры шашы і г. д.), а таксама—паказаць адлегласьць месца запісаў ад культурнага асяродку (гораду, мястэчка і г. д.); *у адносінах да насельніцтва* трэба адзначыць, якой яно нацыі, веравызнаньня, асьветы, чым займаецца, ці ходзіць у заробкі; *адносна казальнікаў* адзначыць, адкуль і калі ім узята тое, што ён казаў (ад крэўных, з кнігі, ад салдат, ад асобы, якая вярнулася з фабрыкі, і г. д.), пры якіх акалічнасьцях навучыўся сьпевам ці апавяданьням; настроі казальніка ў часе запісаў; іх вопратка; *у адносінах да самога запісваньня* адзначыць, пры якіх умовах яно адбылося (у які дзень—будзённы ці ў сьвята, на якой працы і г. д.); *у адносінах да акаляючых умоў* адзначыць настроі акаляючых, увагі, жарты, нагляданьні псыхолёгічнага характару, адным чынам, усё, што зьбіральнік будзе чуць і бачыць у часе запісваньня тэкстаў; *у адносінах да запісанага* прывесьці народную назву данага віду творчасьці; апісаць абрад (напр., вясельле пры вясельных песьнях і г. д.); адзначыць, з якім часам зьвязваецца выкананьне данага твору; адзначыць, як запісана песьня—з пераказу ці са сьпеву; навуковае значэньне маюць толькі запісы, зробленыя са сьпеву, бо кожны пераказ песьні ламае яе рытм і ўсю стылістычную песенную структуру.

Увесь, раней пералічаны матар'ял, сабраны на працягу апошняга году пры дапамозе нашых краязнаўчых організацый, дае наступныя лічбовыя суадносіны.

| Назвы пасобных відаў народнай творчасьці | Замовы | Прыказкі | Загадкі | Калядныя п. | Масьленічн. п. | Веснавыя п. | Русальныя п. | Купальскія п. | Песьні працы | Хрэсьбінск. п. | Вясельныя п. | Хаўтурныя прычытаньні | Бытавыя п. | Прыпеўкі | Духоўныя вершы | Казкі і апавяданьні |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік запісаў (N-роў) па кожнаму віду | 163 | 452 | 680 | 180 | 47 | 242 | 9 | 103 | 355 | 112 | 1.480 | 1 | 1.167 | 3.427 | 3 | 144 |

І гэтыя лічбы не выпадковыя; яны паказваюць паступовае зьнішчэньне беларускай старадаўнай абрадавай народнай творчасьці, месца якой займаюць прыпеўкі, потым вясельныя і бытавыя песьні. Усе этнографы, якія займаліся дасьледваньнем беларускага фольклёру, у адзін голас сьцьвярджаюць аб зьнішчэньні старадаўных песень і звычаяў з прычыны моцных уплываў на народнае жыцьцё гарадзкой культуры. Так, напр., у М. Янчука чытаем:

„Настоящая непосредственная поэзія изсякаетъ, гибнетъ годъ отъ года, непризнанная нами. Ее заменяетъ поэзія пошлаго пошиба, проникающая даже въ самые глухіе закоулки черезъ посредство железныхъ дорогъ, отставныхъ солдатъ, лицъ, отправляющихся на заработки и т. д. И не удивляйтесь, если въ какой-нибудь бело-

русской деревушке вы услышите варіантъ подмосковской фабричной песни...“ *(Н. Янчукъ.* По Минской губ., „Известія О-ва Л.Е.А.Е.“ 1889, т. 61, стар. 85).

Далей, у Я. Раманава знаходзім:

„Не надо упускать изъ виду и того обстоятельства, что въ народной жизни совершается теперь трагическая ломка: древняя обрядность, носившая ореолъ святости, исчезаетъ и ничем не заменяется. Безследно исчезло кумованье, исчезаютъ колядныя торжества—вертепъ, звезда, ряженіе, терешки, ящуры, за ними исчезаютъ купальные костры, исчезла сказка, гибнетъ песня, исчезаетъ и нынешній свадебный обрядъ... свадьба постепенно обращается въ обыкновенную пирушку, не описать обрядъ накануне его исчезновения для этнографа было бы преступленіемъ предъ наукой, предъ исторіей культуры“... *(Е. Романовъ.* Белорусскій Сборникъ, Вильня 1912, VIII, стар. VI—VII).

Тое самае знаходзім і ў С. Малевіча:

... „ При всей консервативности устоевъ нашей белорусской деревни... проникающее въ нее городское вліяніе... губительнымъ образомъ начинаетъ отражаться на ея поэтическомъ творчестве, и освященная веками, истинно народная белорусская поэзія готова понемногу обнаружить тенденцію къ постепенному вымиранію, въ угоду духу новейшаго времени“...

... „Народныя легенды, преданія и сказки кое-где уже стали постепенно выводиться изъ крестьянскаго умственнаго обихода и, благодаря тому, что истинная ценность их массой не сознается, молодежь уже стесняется их повторять. Народная песня равнымъ образомъ местами исчезаетъ въ деревне, сменяясь чаще всего позднейшей наносной более или менее легкомысленной песенкой городского пошиба...“ *(С. Малевичъ.* Белорусскія народныя песни. Спб. 1907, с. 5).

Ёсьць і іншыя прычыны зьнішчэньня беларускай нацыянальнай народнай культуры. Так, царскі ўрад знарок нішчыў усё тое народнае, у чым выяўляліся характэрныя нацыянальныя адзнакі беларусаў; так, у З. Радчанкі чытаем:

„Сельскія власти запрещаютъ исполнять эти, старинные, языческіе обряды; одно время совсемъ перестали справлять Ивана Купала“. *(З. Радченко.* Гомельскія народныя песни. Спб. 1888, стар. XXVI).

А Раманаў піша яшчэ больш катэгорычна:

„Оказалось, што и они (народн. абрады) не избегли надзора со стороны урядниковъ, частію по собственной иниціативе сихъ последнихъ, частію по настояніямъ другихъ... Вследствіе этого многіе обряды быстро исчезаютъ. Въ особенности это следуетъ сказать о седыхъ древностью свадебныхъ обрядах и колядных играхъ. Даже такія невинныя развлеченія, какъ „гуканье“ весны и игрища делаются запретнымъ плодомъ, будучи зачислены въ разрядъ остатковъ язычества“... *(Е. Романовъ.* „Белорусскій сборникъ“, Витебскъ, вып. III, 1887, с. XII).

І вось нашы зьбіральнікі этнографічных матар'ялаў павінны ў першую чаргу зьвярнуць увагу на тыя віды народнай творчасьці, якія ўжо пачалі выміраць і якія праз некаторы час могуць зусім зьнікнуць; прыведзеныя раней лічбы даюць правільнае нагляднае прадстаўленьне аб тым, якія песенныя віды амаль што зьнішчыліся (русальныя і мась-

ленічныя), якія зьнішчаюцца (замовы, казкі, калядныя і купальскія п.) і якія маюць найбольшую распаўсюджанасьць (прыпеўкі, бытавыя і вясельныя песьні). З ліку прыпевак, бясспрэчна, найбольшай увагі заслугоўваюць прыпеўкі, утвораныя ў часы рэволюцыі, грамадзянскай вайны, окупацыі і якія ўтвараюцца сучаснасьцю.

Ня трэба баяцца таго, што пры зьбіраньні можа быць значны лік паўтарэньняў, адменьнікаў, выявіцца, што значная доля з сабранага ўжо агалошана ў друку. Баяцца гэтага ня трэба вось па якіх прычынах: папершае, таму, што ў кожным мастацкім творы мае каштоўнасьць ня сужэт, а яго конкрэтная распрацоўка. Сужэтаў у сусьветнай поэзіі параўнана нямнога, твораў-жа мастацкіх—мільёны. Кожная новая распрацоўка традыцыйнага сужэту мае ў сабе і новыя каштоўнасьці то ў фонэтычных, то ў композыцыйных, то ў ідэолёгічных адносінах; падругое, кожны новы запіс дае матар'ял да пытаньня аб распаўсюджанасьці таго ці іншага віду вуснай народнай творчасьці, бо ў навуковых адносінах вельмі важна выявіць географічную распаўсюджанасьць кожнай фольклёрнай зьявы. Ня гледзячы на тое, што ўжо сабрана і агалошана шмат фольклёрнага матар'ялу, пры дэтальным навуковым разглядзе паасобных зьяў прыходзіцца констатаваць вялізныя недахопы. *(Б. і Ю. Соколовы.* Поэзия деревни. Москва, 1926, с. 19—20).

Канчаючы свой кароткі агляд, я павінен адзначыць вялікую зацікаўленасьць нашага сялянства вуснай творчасьцю, што зусім не наглядалася раней; вось, напр., піша ў дадатак да песень М. Шышкоў з Аршанскае акругі: „Я—вучань сямілеткі, толькі што паступіў вучыцца і хачу вучыцца, але случылась бяда. Мы, сяляне, перайшлі на шматпольле. На новай зямлі ў нас кепскі ўраджай. І мне бацька сказаў, што цяпер мяне ня пусьціць больш вучыцца; што рабіць—ня знаю. Таварышы! У нас зямля пяшчаная і яе ўдабрыць гноем немагчыма. Прашу вас, каб вы прыслалі кніжок пра травасеяньне, пра лубін".

І такіх лістоў шмат, з якіх відаць, што зьбіральнікамі фольклёрных матар'ялаў зьяўляюцца сяляне ад сох. Трэба толькі належна падрыхтаваць зацікаўленых, каб работа была больш каштоўнай і больш продукцыйнай; усе заўвагі, якія зроблены ў гэтым артыкуле, маюць мэту не зьмяншэньня каштоўнасьці працы зьбіральнікаў, якім працаваць прыходзіцца ў даволі цяжкіх умовах, а маюць мэту накіраваньня нашых маладых этнографаў на належны навуковы шлях.






**Проф. П. Салаўёў.**

# Аб пералётах птушак.

З прычыны таго, што маё паведамленьне аб некаторых вывадах з фэнолёгічных назіраньняў зьвярнула ўвагу нашых краязнаўцаў, я лічу сваячасовым даць тут дадатковыя інструкцыйныя ўказаньні для назіральнікаў, а таксама крануць далей і само пытаньне аб пералётах птушак.

I.

Што тычыцца першай часткі маёй задачы, дык яна разьвязваецца вельмі проста дзеля таго, што ў нас ёсьць ужо гатовая програма назіраньняў А. М. Нікольскага, якую я тут і прыводжу:

Пры назіраньні пералёту птушак трэба зьвяртаць увагу на наступныя акалічнасьці. Калі, г. ё. якога числа і месяца, упяршыню зьявілася кожная пералётная птушка, у вясну або ў восень, паміж якімі числамі прыпадае найбольшы па ліку (валавы) лёт і калі ён заканчваецца? У якім кірунку ляціць чарада розных пералётных птушак, ці проста з поўначы на поўдзень і наадварот, ці ўхіляецца ад гэтага кірунку? Ці не супадае кірунак лёту з цячэньнем рэк, берагоў вазёр? Ці высока або нізка над зямлёю ляцяць птушкі ці ляцяць статкамі або паасобку (па адным); якая велічыня чарады; ці мае чарада правільную форму кута, падвойнага кута, лініі або няправільную форму? У тых выпадках, дзе самцы лёгка адрозьніваюцца ад самак, напр., у качак, цікава адзначыць, калі самцы ляцяць асобна ад самак, то хто з іх прылятае і адлятае раней? У выпадках, даступных назіраньню, належыць адзначаць, калі птушка ляціць ноччу. Якія адносіны мае да пералёту надвор'е, г. ё. тэмпэратура дня, дождж або пагода, асабліва сіла ветру і яго кірунак? У часе пералёту карысна адзначаць прынамсі максымум і мінімум тэмпэратуры сутак. Ці спыняюцца ў данай мясцовасьці пералётныя птушкі на адпачынак, дзе якраз (на балотах, рэках, палёх, лясох і г. д.) і ў якую пару сутак? Ці не адбываецца іх перасяленьне пехатою або ўплаў? Пры адлёце належыць рабіць тыя самыя назіраньні, якія ў часе прылёту; апрача таго, трэба зьвярнуць увагу, ці адлятаюць старыя птушкі разам з маладымі, ці асобна, і хто з іх раней; ці адлятаюць птушкі тэй самай дарогай, якой прылятаюць, ці якой іншай? Ці не наглядаюцца якія-небудзь суадносіны паміж часам прылёту і адлёту птушак з аднаго боку і

пэрыодычнымі зьявамі ў жыцьці расьлін і шасьціногіх з другога боку, напрыклад з парою асыпаньня насеньня і ягад, зьяўленьнем і зьніканьнем тых ці іншых шасьціногіх?

Вось гэта—самыя галоўныя пытаньні, якія адносяцца да пералёту птушак. Але ў сувязі з імі для тых назіральнікаў, якія цікавяцца наогул жыцьцём птушак належыць ставіць пытаньні, зьвязаныя з гнездаваньнем. Калі ў данай мясцовасьці птушка гнязьдзіцца, дык ці скора пасьля прылёту пачынае разьбівацца на пары? Дзе будуе свае гнёзды (у дуплёх, між галінамі дрэў, у хмызьняках, балотах, норах і інш.? Ці будуюць гняздо абое, ці адна самка? Калі і колькі яечак нясе птушка? Колькі раз на працягу лета птушка выводзіць дзяцей? Калі разбураць гнёзды пры поўнай пакладцы яец, то ці будуе птушка другое гняздо і колькі раз гэта можа паўтарацца? Ці ня прыметна памяншэньне яркасьці яец, іх велічыні ў паўторных пакладках? Ці назіраецца разьмеркаваньне яец у вядомым парадку, напр. носікам адно да аднаго? Ці не ўкладае птушка лупіну выседжаных яец адна ў адну? Ці выседжвае яйцы адна самка ці абое, і ці прымае самец удзел у кармленьні дзяцей? Праз які час пачынаюць маладыя птушаняты ляцець? Калі пачынаюць ліняць птушкі, колькі часу гэта цягнецца, ці хаваюцца птушкі гэты час? Калі пачынаюць адлятаць тыя птушкі, якія гнязьдзіліся ў данай мясцовасьці? Ці зьбіраюцца яны перад адлётам у статкі і ці задоўга перад адлётам, ці ня робяць яны ў гэты час мясцовых вандровак? Ці ня зьбіраюцца ў адзін статак птушкі розных відаў і якіх? Ці не застаюцца якія-небудзь з пралётных або з тых, якія гнязьдзіліся ў данай мясцовасьці на зіму і якія прычыны гэтаму? Ці не вяртаецца пералётная птушка вясною ў тое самае гняздо, дзе яна несла яйцы або сама вывелася ў папярэднім годзе? Для разьвязаньня гэтага пытаньня належыць лавіць птушак (буслоў, ластавак) і рабіць на іх адзнаку, надзяваючы на нагу мэталёвае колца. У кожнай мясцовасьці неабходна пералічыць птушак: 1) якія жывуць круглы год, 2) якія адлятаюць на зіму і прылятаюць у весну для вываду дзяцей, 3) якія прылятаюць толькі на зіму, 4) якія толькі прылятаюць, г. зн. бываюць штогодна ў вясну, або ў восень,



Схэматычная карта пралётных шляхоў птушак у БССР. Ценькімі лінейкамі адзначаны рэкі, а тоўстымі—пралётныя шляхі.

5) якія выпадкова залятаюць, 6) якія вандруюць, г. ё. утвараюць невялікія няправільныя перасяленьні ў залежнасьці ад запасу ці недастачы ежы (дасьпяваньне пладоў).

Назіраючы над птушкамі, трэба наогул вывучаць іх біолёгію.

Для кожнай птушкі патрэбна адзначаць абставіны, сярод якіх яна жыве ў розныя пэрыоды свайго жыцьця, г. ё. у час гнездаваньня, перад адлётам і г. д. (лес, луг, балота, стэп і інш.). Вельмі цікава наглядаць над грамадзкасьцю птушак. У гэтых назіраньнях трэба зьвяртаць увагу на наступныя бакі грамадзкасьці. Калі птушка жыве ў грамадзе, то ці заўсёды, ці толькі ў пару гнездаваньня, прылёту або адлёту, або можа птушкі злучаюцца выпадкова ў статкі дзеля таго, каб прагнаць ворага, як гэта робяць звычайна ластаўкі? Якой велічыні бываюць статкі і ў якой меры павялічваецца асьцярожнасьць у залежнасьці ад колькасьці іх у статку. Ці існуюць пры гэтым асобныя папярэджваючыя аб небясьпецы крыкі? Ці ня прымаюць грамадзкія птушкі ў сваю сям'ю адну або некалькі птушак другой пароды і ці выпаўняюць апошнія ролю вартаўнікоў, як гэта заўважана ў адносінах да кнігавак у статках кулікоў і іншых берагавых птушак. Як трымаюць сябе птушкі, якія гнезьдзяцца грамадой у выпадку зьяўленьня ворага: арла, ліса, чалавека? Ці не забываюць яны пры гэтым аб усякім пачуцьці самазахаваньня, як гэта заўважана ў чаек і крачак?

З прычыны таго, што на практыцы рэдка зьяўляецца магчымасьць наглядаць усе падрабязнасьці жыцьця, дык трэба запісваць нават і ўрывачныя назіраньні.

II.

Закончыўшы інструкцыю, я перайду да некаторых пытаньняў, разьвязаньне якіх, па маёй думцы, можа даць шмат цікавых і, можа быць, часам і нечаканых вынікаў. У нас ёсьць мінімальная програма фэнолёгічных назіраньняў, якая апублікавана ў „Нашым Краі". Гэтую програму трэба выконваць краязнаўцам па магчымасьці ўва ўсіх насельных пунктах Беларусі, гэта не дадасьць вялікай працы, калі ўспомніць, што програма зьмяшчае ня так шмат пытаньняў. Краязнаўчыя т-вы, сеткаю якіх пакрыта ўся Беларусь, а таксама школы, раскіданыя па самых глухіх мясцох, маглі-б лёгка прарабіць гэту работу.

Сабраўшы атрыманыя матар'ялы аднэй асобы ў адным месцы можна было-б апрацаваць іх і зрабіць адпаведныя вывады. Але пакуль што ў нас вельмі мала даных і абгрунтаваных вывадаў рабіць нельга. Для прыкладу вазьму 7 пунктаў, ад якіх у 1925 годзе атрымоўваліся весткі ў Фэнолёгічным Аддзеле пры Расійскім Т-ве аматараў сьветазнаўства.

Даныя прадстаўлены ў наступнай табліцы:

| **Месца назіраньня** | Географічная шыryня | Географічная даўжыня | Зьяўленьне шпакоў | Зьяўленьне белай пліскі | Зьяўленьне вясковай ластаўкі |
|---|---|---|---|---|---|
| Менск . . . . | 53° 54′ | 27° 33′ | 79 | — | 120 |
| Магілеў . . . . | 53° 54′ | 30° 19′ | 88 | 81 | — |
| Віцебск . . . . | 55° 10′ | 30° 12′ | 80 | 88 | 122 |
| Ворша . . . . | 54° 31′ | 30° 27′ | 86 | 85 | 105 |
| Горкі . . . . | 54° 17′ | 30° 59′ | 91 | 91 | 125 |
| Барысаў . . . | 54° 15′ | 28° 30′ | — | 82 | 117 |
| Мазыр . . . . | 52° 03′ | 39° 16′ | 83 | — | — |

Калі паглядзець на гэтую табліцу, дзе час зьяўленьня шпака. пліскі і ластаўкі ацэнены лікам дзён, прайшоўшых з 1 студзеня 1925 году, дык стане ясным, што аб ніякіх вывадах тут ня можа быць і гутаркі. Мала гэтага. Тут нават цяжка супаставіць адно месца назіраньня з другім з прычыны таго, што лічбы няпоўныя: у пяцёх графах (а іх усіх 21) стаяць рыскі, якія паказваюць, што даных няма.

Што-ж патрэбна для таго, каб мы прызналі фэнолёгічную і статыстычную справаздачу здавальняючай? Пры нормальных умовах мы маглі-б мець на Беларусі фэнопункты ў кожным сельсавеце, якія маглі-б дасылаць допісы ў наш Беларускі Цэнтральны Фэнолёгічны Аддзел. Для кожнага, напэўна, ясна, што высьвятленьне хоць-бы і трох паказаных пытаньняў (зьяўленьне, шпака, пліскі і ластаўкі) пры такой організацыі было-б выстарчаючым. Памылкі назіральніка, калі-б такія былі знойдзены, лёгка-б выяўляліся і растлумачваліся. Такім чынам выявіліся-б і такія моманты, якія пры няпоўнай фэнолёгічнай назіральнай сетцы здаваліся-б памылкамі, а пры запрапанованай мною організацыі назіраньняў, маглі стаць новымі фактамі, якія больш дэтальна разьясьняюць шляхі пералёту птушак. Запраўды, вельмі лёгка організуюцца розныя перапісы, але каштуюць яны ня мала. Чаму-ж не папрабаваць зрабіць біолёгічны перапіс пралётных птушак? У горшым выпадку, мы разьясьнілі-б такім чынам значэньне рэк, як кірункаў, што адзначаюць пралёты птушак; даведваліся аб скорасьці пралётаў, аб умовах расьсяленьня птушак ня толькі ў залежнасьці ад географічнага палажэньня месца, але і ў сувязі з іншымі прыроднымі ўмовамі мясцовасьці. Вядомая справа, што рабіць падлік птушак вельмі важна пры гэтай мэтодыцы назіраньняў. Зразумела, што кірунак, у якім ляцяць птушкі, павінен быць дакладна запісаны. Апрача назіраньняў у пэрыод прылёту і адлёту птушак, назіраньні і ў іншыя сэзоны могуць даць у канцы цікавыя вынікі. Птушкі зьвязаны з расьлінамі, з шасьціногімі, як з сваім кормам, дзеля чаго і ўсё жыцьцё іх можа служыць паказальнікам біоклімату. Тое, што мы называем проста кліматам, вывучаецца, улічваецца і ўжо знаходзіць сваё практычнае дапасаваньне да работ мэтэоролёгічных станцый. Бясспрэчна і тое, што і біоклімат, калі вывучыць яго грунтоўна, можа даць ня менш, а можа і больш, чым даюць мэтэоролёгічныя назіраньні ў дапасаваньні да практычнага жыцьця.

Ня трэба забывацца, што фэнолёгічныя назіраньні ў цяперашні час прынялі міжнародны характар і ў далейшым яны адыграюць значную ролю ў практычным жыцьці. Я думаю, што краязнаўца знойдзе тут вычэрпваючы адказ на тыя пытаньні, якія ўзьніклі ў яго, пры чытаньні маёй папярэдняй заметкі аб некаторых вывадах з фэнолёгічных назіраньняў. Гэтым я і абмяжуюся.

III.

У заключэньні ўкажу толькі на тую літаратуру, якая больш-менш даступна кожнаму краязнаўцу і ў той-жа час будзе выстарчаючай, каб мець агульныя ўяўленьні ў гэтай галіне. Перш за ўсё ў кніжцы Н. А. Холадкоўскага і А. А. Сіланцьева „Птицы Европы“ (1901 г.) частка І зьмяшчае разьдзел „Географічнае распаўсюджаньне і пералёты птушак“. Адсюль я працытую толькі два месцы. Першае: „Укладаньне сьпісаў мясцовай фаўны ў сувязі з данымі аб гнездаваньні птушак, з часам іх прылёту і адлёту, і з іншымі біолёгічнымі назіраньнямі над птушкамі,— вось галоўная аснова будучага вучэньня аб пералётах птушак, якое

(вучэньне), як зусім правільна заўважвае Пальмэн, знаходзіцца пакуль што ў пачатковай стадыі свайго разьвіцьця“ (стар. 70). Другое месца: „Канчаючы наш кароткі агляд зьяў пералёту птушак, застаецца толькі паўтарыць з проф. Пальмэнам, што дасьледваньне гэтых зьяў, ня гледзячы на вялікую колькасьць патрачанай працы, усё яшчэ знаходзіцца ў пачатковай стадыі разьвіцьця,—так яны складаны і вялікі“ (стар. 72).

Другой крыніцай можа служыць кніжка М. А. Мензбіра „Птицы“ (1904—1909), дзе ў агульным біолёгічным нарысе ёсьць разьдзел: „Вандраваньне птушак“ (стар. 117—140). З гэтай кніжкі можна ўзяць наступнае месца: „Ужо паказаная намі даўжыня пралётных шляхоў некаторых птушак, дасягаючая 10.000 міль, на першы погляд можа вызваць недавер‘е адносна таго, што птушкі могуць рабіць правільныя пералёты на такую вялікую адлегласьць. Але гэтыя сумненьні цалкам ня маюць асновы, бо існаваньне такіх пералётаў даведзена фактамі. Мы можам толькі запытацца ў сувязі з якімі ўласьцівасьцямі птушак маглі выпрацавацца такія вялізныя пералёты? Адказаць на гэта можна зусім пэўна:—у сувязі з надзвычайнай памятлівасьцю птушак да месц, іх здольнасьцю хуткага перасоўваньня і ўрэшце, у сувязі з надзвычайна доўгім вопытам гэтых пералётаў, якія адбываюцца з пакаленьня ў пакаленьне. Маючы магчымасьць падняцца высака над зямлёю, птушка можа аглядаць агромную прастору, а з прычыны таго, што яна разам з тым перасоўваецца з вялікай хуткасьцю, пералёт у некалькі сотняў міль для яе нязьмерна лягчэй, чым гэта нам можа здавацца. Затым, калі мы ўспомнім, што нават доўгія пералёты пачыналіся з кароткіх і што цэлае пакаленьне птушак пралятала аднэй дарогай, прытым маладыя павінны былі вучыцца ў старых, дык зусім ня цяжка зразумець, што для птушак гэтыя шляхі маюць свайго роду вехі, па якіх вандроўнікі і пазнаюць сваю дарогу. Прысутнасьць і кірунак гор, мораў, раўнін і рэк—вось па чым птушкі пазнаюць, куды ім трэба ляцець. Часта ў пару пералёту можна чуць галасы птушак на агромнай вышыні, адкуль паверхня зямлі повінна зьяўляцца ўсё роўна як-бы рэльефнай картай. І як лёгка можна праканацца, што птушкі ляцяць, ведаючы дарогу: ледзь толькі туман атуліць зямлю — надзвычайны, непакой падымаецца сярод потушак, якія ня знаюць, куды ляцець; яны круцяцца на адным месцы і трывожна крычаць, і або гінуць, заблудзіўшыся, або ляцяць далей, калі туман трымаўся нядоўга ці засьцілаў невялікую плошчу. Берагулька, якая носіцца за шасьціногімі ў паветры, беспамылкова знаходзіць сваё гняздо ў дупле дрэва, або на званіцы, хоць перад ёй можа быць цэлы лес і некалькі званіц. Чаротніца, адляцеўшая за многа дзесяткаў сажняў ад свайго гнязда, дасканала можа знайсьці ў непралазным гушчары тыя дзьве-тры чароцінкі, якія далі прытульнасьць яе гнязду. Каралёк, забраўшыся ў гушчар ельніку, лёгка знаходзіць тую галінку, на якой вісіць яго жыльлё. Дасканалыя назіральнікі апавядаюць нам, што адна і тая самая парачка птушак год у год на працягу многіх гадоў падрад варочаецца вясною да свайго гнязда, якое пакідае ў восень і. г. д. Гэта выдатная памяць да месц стаіць у поўным узгадненьні з іх высака разьвітым зрокам.

Аднак, разьвязаньне пытаньня аб тым, як узьніклі пералёты птушак і чым яны абумоўліваюцца, можа быць выканана і іншым шляхам. Прасочым у галоўных рысах жыцьцё якой-небудзь шасьціногаеднай птушкі, напр., шпака. Як толькі птушаняты вырасьлі настолькі, што

могуць рабіць малыя пералёты, бацькі бяруць іх з сабой на поле, выганы і падобныя месцы, дзе ёсьць многа корму. Дзякуючы шчодраму харчаваньню, маладыя вельмі хутка мацнеюць і з кожным днём адлятаюць усё далей і далей. У канцы лета жыцьцё сям'і спыняецца і вывадкі пачынаюць зьбірацца разам, утвараючы спачатку невялікія статкі, а потым усё больш і больш значныя. Ня цяжка заўважыць, што ўзрастаньне статку адбываецца поруч з памяншэньнем ліку месц, дзе шпакі могуць жывіцца. Самай восеньню агромныя статкі птушак, якія прывыклі карміцца разам, пералятаюць з месца на месца ад рана да вечара, адшукваючы корм і прытрымліваючыся лагчын, дзе патрэбны для іх корм захоўваецца найдаўжэй, а нанач забіраюцца ў чарот і г. д. Позьняй восеньню, з надыходам прымаразкаў, корму не хапае і ў лагчынах рэк. Тады статак за статкам перасоўваецца на поўдзень, дзе корм здабыць лягчэй, але тут прышлыя сустракаюць яшчэ не адляцеўшых масцовых шпакоў, якія зьяўляюцца для іх небясьпечнымі конкурэнтамі, а затым, ня маючы магчымасьці заставацца тут даўжэй, яны адлятаюць яшчэ далей. Такім чынам, з прыпынкамі, каб хоць крыху пахватаць корму і адпачыць, шпакі далятаюць да Закаўказьзя, Малой Азіі і Афрыкі. Тут на працягу некалькіх месяцаў іх быцьцё забясьпечана. Але пасьля ў Афрыцы сонца пачынае грэць усё больш і больш; трава выгарае, жыцьцё шасьціногіх замірае з прычыны вялікай гарачыні, як на поўначы з прычыны холаду,—і шпакі прымушаны вяртацца туды, адкуль адляталі ў восень. Але іх жыцьцё на радзіме ўскладняецца тым, што якраз у гэты час для іх надыходзіць шлюбны пэрыод, пэрыод вываду дзяцей і гадаваньня апошніх. Такім чынам, птушкі яшчэ ў выраі ўтвараюць пары, якія зразу пасьля прылёту прыступаюць да спарываньня, а з восені зноў пачынаецца паўтарэньне знаёмых нам зьяў.

У гэтым апісаньні мы пакінулі ў баку толькі дакладнае паказаньне часу пералётнага шляху з прычыны таго, што гэта пытаньне патрабуе асобнага разгляду. (Стар. 125—127).

„Адно з цікавых сьцьвярджэньняў аб пералёце птушак заключаецца ў тым, што чым далей на поўнач гнязьдзіцца які-небудзь від, тым далей на поўдзень ляціць ён у вырай, а прыстасоўваючы гэта сьцьвярджэньне да паасобнікаў аднаго віду, то аналёгічна можна сьцьвердзіць, што самыя паўночныя паасобнікі робяць і самыя далёкія пералёты, спускаючыся далей на поўдзень, чым іх сваякі па віду, якія гнезьдзяцца на бліжэйшай поўначы". (Стар. 137).

Адносна пералётных шляхоў трэба зьвяртаць увагу на наступнае слова Мензбіра, які вывучаў сухаземныя шляхі: „Такім чынам, мы заўсёды павінны памятаць, што кожны від мае свой уласны пралётны шлях, і вывучэньне гэтых шляхоў лепей усяго даводзіць нам, што першапачатковы пералётны шлях кожнага віду вызначае шлях яго расьсяленьня". (Стар. 134). Пакідаючы ў баку Пальмэна і Дыксона, зьвернем увагу яшчэ на кніжку Кобельта „Географическое распределение животных в холодном и умеренном поясах северного полушария" (пер. з ням. Біанкі 1903). Тут адведзена шмат месца пытаньню аб пералётах птушак. (Стар. 503—559). Гэту кніжку павінен мець кожны, хто цікавіцца гэтым пытаньнем.

---




**М. Алесін.**

# Падарожы па Беларусі.

Падарожы маюць надзвычайна вялікае значэньне ў разьвіцьці асобы, пашырэньні краязнаўства і культурна-гаспадарчым росьце краю, яны ўмацоўваюць здароўе; спрыяюць развою самадзеяльнасьці; знаёмяць селяніна з жыцьцём гораду, а гараджаніна—з жыцьцём вёскі; даюць найбольш моцныя веды аб экономіцы, прыродзе і насельнасьці краю як у гістарычнай пэрспэктыве, так і ў сучасным стане, а таксама-найбольш яскравыя ўражаньні хараства краю, аб якім мы так мала ведаем, і г. д. Прыцягваючы мясцовых падарожнікаў, а часамі і з-за меж, падарожы пакідаюць на сваім шляху пэўныя сродкі, што ўзбагачвае мясцовы край. Адначасна падарожнікі пакідаюць і шмат сваіх вед, падымаючы культурны ўзровень вёскі. Краязнаўчае значэньне падарож у грамадзка-экономічным, прыродна-географічным і культурна-гістарычным вывучэньні краю не патрабуе довадаў.

Таму ў клясычных краінах краязнаўства—Чэхіі, Фінляндыі і інш., падарожніцкая справа мае сваю даўную гісторыю і надзвычайна шырокае разьвіцьцё. Там існуюць таварыствы турыстых, выходзяць спэцыяльныя часопісы, у спэцыяльных магазынах прадаюцца падарожніцкія прылады, па усёй краіне раскіданы спэцыяльныя хаткі, у якіх за самую малую плату падарожнік можа пераначаваць і падмацавацца і г. д. Ня менш шырокае разьвіцьцё атрымае і ў нас падарожніцкая справа паколькі шырокія масы працоўных, а асабліва моладзі так хутка растуць у культурным стасунку і самі будуюць культурна-гаспадарчае жыцьцё. Гэта даводзіць нябывала хуткі рост краязнаўчай справы, які аб'яднаў шырокія колы актыву рабочых, сялян і працоўнай інтэлігенцыі.

А ў непасрэдныя задачы краязнаўчых аб'яднаньняў і ўваходзіць організацыя экскурсій і экспэдыцый па сваім краі. Практыка іх пакуль што невялікая, але ўжо стала выявілася патрэба плянавасьці і організаванасьці ў гэтай справе. Апошняе павінна ўсталявацца ў больш шырокіх межах, чым межы дзейнасьці данага краязнаўчага аб'яднаньня. Бывала, што экскурсія, прыбыўшы ў пэўнае месца, не магла ажыцьцявіць свае задачы, бо там яе не чакалі. Бывалі выпадкі, што экспэдыцыі і экскурсіі менш высьвятлялі для сябе пэўны об'ект, чым гэта ўжо зроблена ў літаратуры і дзякуючы толькі таму, што не пазнаёміліся раней з гэтай літаратурай. Такое-ж незнаёмства з літаратурай выклікае паўтарэньне працы папярэднікаў, іх памылак і г. д.

Усё гэта даводзіць тое, што ўсякая падарож патрабуе доўгай і сталай папярэдняй падрыхтоўкі, а таксама пляну. На першы пагляд часамі здаецца, што ў такіх, напр., падарожах як блуканьне па пэўнай групе вазёр Паўночнай Беларусі, якіх можа і на карце няма, ня можа быць пляну, але на справе—далёка ня так. Чым больш сьвядомасьці і плянавасьці ў справе—тым лепшыя вынікі.

У першую чаргу трэба дакладна высьветліць сабе мэту данае падарожы, а значыць і маршрут яе. Пытаньне складу эхскурсіі ня менш актуальнае, бо адна мэта можа быць у пэўнай групы падарожнікаў і зусім іншая—у аднаго, таксама як адна група можа мець мэтаю пераважна азнаямленьне з краем, а другая—пераважна дасьледваньне яго. Паколькі ўсё, што можна ўведаць аб даным маршруце з літаратуры, павінна быць уведана дома, каб не знаходзіць даўно знойдзеных Амэрык, а толькі новыя,—неабходна сіламі сваёй краязнаўчай організацыі пры дапамозе Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкі (Менск, Савецкая вул.) і мясцовых бібліотэк высьветліць якія ёсьць літаратурныя крыніцы да данага маршруту. Першым падсобнікам да ўсіх маршрутаў, зразумела, будзе „Россия. Полное географическое описание нашего отечества. Настольная и дорожная книга под ред. В. П. Семенова. Том IX. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. СПБ 1905“. Гэта кніга разам з іншымі выдана ЦБК праз акруговыя ўсім раённым таварыствам краязнаўства. У канцы яе дадзены паказчыкі, што дазваляе лёгка орыентавацца ў зьмесьце. Першапачатковыя спраўкі можна знайсьці і ў наступных выданьнях: „Przewodnik po Litwe i Białejrusi“ Н. Роўбы, „Новый энциклопедический словарь Брокгауза“, „Słównik geograficzny“ і інш. А дальш павінна быць улічана літаратура ня толькі аб пэўных гарадох маршрутаў, але таксама і іх краёх, бо даны горад, напр., нельга разглядваць адцягнена, бяз сувязі з акаляючым яго прасторам. Ясна, што ў першую чаргу трэба ведаць аб тых літаратурных крыніцах, якія можна знайсьці ў сваёй організацыі і бібліотэках—як дзяржаўных, так і прыватных.

Улічваючы ўсё гэта, мы з М. Азбукіным уклалі наступныя прыкладныя маршруты з літаратурай па картатэцы Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкі:

1. Менск—Астрашыцкі Гарадок—Лагойск—Лысая Гара—Менск.

Каля 100 кілёмэтраў коньмі або аўтомобілем па прыгожай узгоркаватай мясцовасьці. Па дарозе можна агледзець прыгожае возера ў Астрашыцкім Гарадку, пазнаёміцца з тыповымі беларускімі мястэчкамі, з якіх Астрашыцкі Гарадок зьяўляецца да пэўнай меры дачным прыгарадам Менску. У Лагойску варта агледзець прыгожы будынак палацу б. гр. Тышкевіча, старасьвецкія гарадзішчы і курганы ў ваколіцах, жалезістыя крыніцы. Лысая Гара зьяўляецца найвышэйшым пунктам Беларусі. Увесь маршрут пралягае па ўзгор‘ях ледавіковага пахаджэньня.

**Літаратура:**


**Раман Суніца.** 1919—Няміга і Менск, газ. „Беларусь“ № 11, 12.

**Снитко, А. К.** 1909—Минск в 17 столетии. „Минская Старина“. Вып. I, ст. 80—90.

**Смородский, А.** 1893—Столетие Минской губ. Минск. 8°. 90 ст.

**Товаров, А.** 1910—Исторический очерк Минской губ. в начальную пору существования русского государства. Минск. 8°. 42 ст.

**Москалевич, Р.** 1870—М. Логойск. „Вестник Западной России“ т. 2, № 4 ст. 1—14.

**Красьнянский, В.** 1902—Минский Департамент Великого Княжства Литовского. СПБ. 8°. 72 ст.

**Смородский.** 1891—Летопись г. Минска. „Памятная книжка Минской губ.“ на 1892 г. 4 приложения, ст. 125—166.

[... 1909—Краткое историко-статистическое описание г. Минска. „Памятная книжка Минской губ. на 1910 г., ст. 105—131.
Суніца, Р. 1919—Стары Замак у Менску. Газ. „Беларусь“ № 22, 23.
Бомштейн, И. 1889—Справочная книга и спутник по Минской губернии. Минск. 8⁰. 563 ст.
[... 1878—Географическо-статистическое описание Минской губернии. „Памятная книжка Минской губ.“ 1878 г. Минск, ч. I и II, отд. III, ст. 1-97 и отд. VII, ст. 1-114.
Maliszewski, E. 1919—Przewodnik po gubernji Mińskiej. Warszawa 8⁰. 36 ст.
Смородский, А. 1894—География Минской губ. Минск. 8⁰. 46 ст.
Вольфсон, С. 1924—Менск на зары рэволюцыі, „Маладняк“ № 4, ст. 52—53, і інш.

2. Менск—Барысаў—Лепель—Чашнікі—Ворша—Менск.

Па чыгунцы да Барысава, дзе экскурсанты знаёмяцца з ростам маладога пасёлка пры чыгуначнай станцыі блізка ад старога гарадзкога асяродка (пасад Нова-Барысаў), аглядаюць фабрыку сярнічак „Чырвоная Бяроза“, шкляную гуту, паперню і іншыя прамысловыя прадпрыемствы Барысава і Нова-Барысава. Варты агляду Чычагоўскія батарэі. Ад Барысава да Лепля трэба ехаць лодкай у гару па Бярозе. У вёсцы Студзенцы аглядаецца месца пераправы цераз Бярозу арміі Напалеона ў 1812 г. Каля возера Пялік знаходзіцца Беларускі Дзяржаўны Паляўнічы Запаведнік, у якім экскурсанты могуць пабачыць бабровыя будынкі найвялікшага у Эўропе бабровага паселішча і пазнаёміцца з мэтодамі аховы каштоўных зьвяроў. (У запаведніку ёсьць мядзьведзі, ласі, дзікі, рысі, бабры, дзікія козы). Ад Пяліка экскурсанты прабіраюцца па сыстэме каналаў Бярэзінскага вадзянога шляху аж да Лепля, ваколіцы якога багаты на вазёры і славяцца сваёй прыгожасьцю. З Лепля экскурсія накіроўваецца па новай чыгунцы на Воршу, робячы астаноўку ў мястэчку Чашніках, у ваколіцах якога аглядае паперню „Чырвоны Золак“. У Воршы экскурсанты знаёмяцца з распляноўкай старога гораду і з прывокзальным пасёлкам, аглядаюць помнікі старасьветчыны, у тым ліку Кутэінскі манастыр і Аршанскія пячоры ў ур. Дубкі. Трэба правесьці спэцыяльную экскурсію на Кабыляцкі парог з мэтай азнаямленьня з проектам выкарыстаньня яго для пабудовы магутнай гідро-электрычнае станцыі.

**Літаратура:**

Довгялло, Д. И. 1905—Город Лепель. „Виленский календарь“ на 1905 г., ст. 82—92.
Боричевский, И. 1856—Орша. „Воен. энцик. лекс.“ СПБ, изд. 2, т. X, ст. 23—24.
[... Борисов. Нов. энциклопедический словарь Брокгауза. СПБ, т. VII, ст. 573—574.
Д. 1912—Город Борисов Минской губ. „Виленский календарь“ на 1912 г., ст. 91—103.
Клейн, Довгялло, Белоцерковец. 1910—Город Борисов. Вильня, 8⁰. 2+38 ст.
[... Опыт описания Могилевской губ. Под ред. Дембовецкого. Могилев. 8⁰. Кн.. 1, 2, 3.
Tyszkiewicz, E. 1847- Opisanie pow. Borysowskiego. Wilno. 8⁰. Стар. 506.

3. Менск—Ворша—Віцебск—Полацак і назад.

Маршрут мае на ўвазе пазнаёміць экскурсантаў з помнікамі старасьветчыны ў трох найцікаўнейшых старых местах Беларусі. Увесь час экскурсанты едуць чыгункай і першы раз спыняюцца ў Воршы, дзе аглядаюць Кутэінскі манастыр, будынкі былых кляштараў, пячоры ў Дубкох і Кабыляцкі парог (глядзі маршрут № 2). У Віцебску—агляд Благавешчанскай царквы, музэю, Усьпенскага сабору, прамысловых прадпрыемстваў, Вэтэрынарнага Інстытуту, Ботанічнага саду, тэхнікумаў і іншых гарадзкіх устаноў. У Полацку агляд рэштак Барысаглебскага манастыра на Бельчыцы, Сафійскага сабору, былой Езуіцкай колегіі (Цытадэльны Вал і Замкавая Гара, Мікольскі сабор, Тэхнікум).

Літаратура:

**Никифировский, Н.** 1899—Странички из недавней старины г. Витебска. Витебск. 1899.
**С. А.** 1901—Полоцк, Витебск и Минск в 20 годах прошлого века. Витебск. 16⁰. 28 ст.
**Сапунов, А.** 1881—Историческия сведения о Витебском замке. „Памятная книжка Витебской губ." на 1881 г., ст. 143—176.
**Васілеўскі, Д.** 1925—Беларускі нацыянальна-рэволюцыйны рух на Віцебшчыне ў XIX сталецьці. „Полымя" № 5, ст. 121—131.
**Сапунов, А.** 1901—Губернаторский дворец в Витебске. Витебск. 8⁰. 32 ст.
**Сапунов, А.** 1903—Памятники времен древних и новейших в Витебской губ. Витебск 8⁰ 99 ст.
**Красьнянскі, Г.** 1925—Музэйныя помнікі старадаўных Віцебскіх рамесьніцкіх організацый. „Віцебшчына". I, ст. 40—48.
**Сапуноў, А. П.** 1925—Кароткі нарыс гісторыі Віцебску. „Віцебшчына". I, ст. 7—17.
[. . . 1890—Витебская губерния. Под ред. В. М. Долгорукова. Витебск, ст. 2+388.
[. . . 1925—Віцебшчына. Пад рэд. М. Касьпяровіча. Віцебск, 216 ст.
[. . . 1910—Путеводитель по гор. Полоцку. Полоцк. 16⁰. 24 ст.
**Сапунов, А. П.** 1893—Река Западная Двина. Витебск. 8⁰. 592 ст.
**Сапунов, А. П.** 1910—Чертеж гор. Витебска 1664 г. Витебск. 8⁰. 32 ст.
**Сементовский, А.** 1864—Витебск и уездные города Витебской губернии. ПТБ.
**Сементовский, А.** 1864—Историко-статистические сведения об уездных городах Витебской губ. „Памятная книжка Витебской губ." на 1864 г.
**Сементовский, А.** 1865—Витебск. „Памятная книжка Витебской губ." на 1865 г. СПБ Ст. 94—274.
**Терпигорев, Д.** 1913—Новый путеводитель по г. Витебску. Витебск. 182 ст.

4. Менск—Барысаў—Бабруйск—Рэчыца—Лоеў—Гомель — Ветка — Гомель—Добруш—Гомель—Менск.

Да Барысава чыгункай, у Барысаве знаёмства з прамысловасьцю гораду, з Чычагоўскімі батарэямі і Студзенскай перапраўай, як у маршруце № 2. З Барысава экскурсія накіроўваецца параходам па Бярозе ўніз. Мясцовасьць абапал ракі вельмі прыгожая, асаблівым хараством азначаюцца заліўныя лясы ў розных частках ракі. Па дарозе варты агляду прыстані ў Чарняўцы, Бярэзыні, Сьвіслачы. У апошнім пункце падлягаюць агляду рэшткі замку над злучэньнем Сьвіслачы з Бярозай. Паміж іншым вывучаецца сплаў лесу па Бярозе, рыбацтва. У Бабруйску экскурсанты знаёмяцца з дрэваапрацоўчымі прамысловымі прадпрыемствамі гораду і выяўляюць сувязь іх з сплавам лесу па Бярозе. Апроч таго, у Бабруйску падлягаюць агляду рэшткі умацаваньняў Бабруйскай крэпасьці—валы, равы, крапасны гай і „полігон", вежы Опэрмана і Фрыдрыха Вільгельма, будынак былога „Дысцыплінарнага батальёну". У Рэчыцы вывучаецца мясцовая сернікавая і дрэваапрацоўчая прамысловасьць. У Лоеве перасядка на параход Сожаўскай лініі. У Гомелі агляду падлягае палац і музэй б. Паскевічаў, прамысловыя прадпрыемствы і ў тым ліку сернікавая фабрыка ў Новабеліцы, а таксама гандлёвыя склады Гомля.

Дадатковыя паездкі ў Ветку, па Сожы, і ў Дабруш, па чыгунцы, маюць на мэце: першая—пазнаёміць экскурсантаў з быцьцём старавераў на Беларусі, другая—з буйной Дабрускай паперняй.

Увесь маршрут у цэлым дае спакойны адпачынак і магчымасьць пазнаёміцца з галоўнымі галінамі беларускага гандлю і беларускай прамысловасьці.

Літаратура:

**Филончиков, Н.** 1889—Географический и статистический обзор Речицкого уезда. „Календарь Северо-Западного Края" на 1889 г. Москва. Стар. 99—107.
**Жудро, Сербов, Довгялло.** 1911—Город Гомель. „Записки Сев.-Зап. Отд. Имп. Русского Географического О-ва". Вильна, 1911. 8⁰. Кн. 2. Ст. 293—353.
[. . . 1888—Города Минской губ. „Памятная книжка Минской губ." на 1888 г. Ст. 88; і інш.

5. Менск—Асіпавічы—Слуцак—Князь-Возера—Пасталы—Жыткавічы—Тураў—Мозыр—Жлобін—Менск.

Па чыгунцы да Слуцку, дзе экскурсія знаёміцца з помнікамі старасьветчыны і распляноўкай Слуцку. Варты ўвагі Ражэсьцвенская царква і званіца пры ёй, электрычная станцыя ў будынку старога кальвінскага сабору і Траецкі манастыр. З Слуцку экскурсанты павінны коньмі праехаць да возера Князь, найвялікшага ў межах Палесься, прычым па дарозе паступова прамінуць ураджайныя палі Случчыны, пераехаць Старобінскія пяскі і прабрацца па глухіх палескіх балотах паўднёвай часткі Слуцкай акругі. На Князь-Возеры экскурсанты знаёмяцца з спосабамі рыбнага лову і з бытам сялян у глухой палескай вёсцы Дзякавічы. З Дзякавіч трэба праехаць да ст. Пасталы, дзе можна агледзець вялікую пільню, а адтуль па чыгунцы—у Жыткавічы. З Жыткавіч у Тураў трэба ехаць зноў коньмі па палескай мясцовасьці. У Тураве аглядаюцца руіны старых будынкаў, выкапаны саркофаг, што стаіць у капліцы, месцы, на якіх стаяў старадаўны Тураў. З Турава экскурсанты едуць параходам па Прыпяці да Мозыру, а адтуль чыгункай да Менску. Маршрут даволі цяжкі ў сувязі з труднай даступнасьцю ваколіц Князь-Возера, але затое дае прадстаўленьне аб самых глухіх кутках Беларусі і аб Палескім краявідзе.

### Літаратура:

**Слупский.** 1888—Туров и Изяславль. „Северо-Западный Календарь". Минск. 1888.
**Гаусман, М. А.** 1878—Исторический очерк г. Слуцка. „Минския Губернския Ведомости" 1878. № 8, 10, 11, 12.
**Гаусман, М.** 1877—Исторический очерк м. Турова. Минск. 8⁰. 32 ст.
**Шп-ский, К.** 1891—Туровское княжество. „Виленский Календарь" на 1891 г.
**Глебов, Ив.** 1905—Город Слуцк. „Виленский Календарь" на 1905 г. Ст. 53—81.
**Серно-Соловьевич.** 1896—Древне-русский гор. Слуцк. Вильна. 8⁰. 32 ст.

6. Менск—Барысаў—Ворша—Копысь—Шклоў—Магілёў—Быхаў—Жлобін—Бабруйск—Менск.

Маршрут мае на ўвазе праезд выключна па чыгунцы з астаноўкамі ў Барысаве і Воршы ў мэтах азнаямленьня з мясцовай прамысловасьцю ды з помінкамі старасьветчыны, як адзначана ў маршруце № 2. Астаноўка ў Копысі дае магчымасьць пазнаёміцца з мясцовай кахельнай прамысловасьцю і агледзець домік Пётры I. У Шклове падлягае агляду паперня „Спартак", гарадзкая ратуша, каменны будынак сінагогі. У Магілеве экскурсанты знаёмяцца з тыповым адміністрацыйным асяродкам XIX веку, аглядаюць гарадзкую ратушу, драўляную сінагогу, старыя цэрквы, знаёмяцца з гарбарствам Лупалава, партшколай і тэхнікумам і г. д. У Быхаве агляду падлягае замак Сапегі; з Жлобінам экскурсанты знаёмяцца, як з тыповым пасёлкам пры вузлавой станцыі чыгункі, аглядаюць чыгуначныя майстэрні, адбываецца знаёмства з бытам чыгуначнікаў.

У Бабруйску аглядаюцца дрэваапрацоўчыя прамысловыя прадпрыемствы, дзяржаўны вінны склад, крэпасьць.

### Літаратура:

Гл. адпаведныя пункты ранейшых маршрутаў.

7. Менск—Ворша—Горкі—Ходасы—Амсьціслаў—Крычаў—Клімавічы—Унеча—Клінцы—Гомель—Менск.

Астаноўка ў Горках з мэтай азнаямленьня з Беларускай Сельска-Гаспадарчай Акадэміяй, з дэндролёгічным паркам і ботанічным садам. Ад Ходас праезд коньмі да Амсьціславу мае на мэце пазнаёміць эк-

скурсантаў з лёэсавым краявідам, а таксама з помнікамі старасьветчыны ў Амсьціславе. У Крычаве аглядаюцца мясцовыя старыя цэрквы і б. палац Галынскіх. У Клімавічах падлягаюць агляду акруговыя ўстановы, каб выявіць сутнасьць Клімавіч, як чыста адміністрацыйнага гарадка; варта агляду фабрыка апрацоўкі фосфорытаў. На далейшай дарозе робяцца астаноўкі ў Клінцох для азнаямленьня з суконнай прамысловасьцю і ў Добрушы, дзе аглядаецца паперня. У Гомлі, як паказана ў маршруце № 4, падлягаюць агляду музэй і мясцовыя фабрыкі.

**Літаратура:**

**Красьнянский, В. Г.** 1912—Город Мстиславль. Вильна. 8⁰. 102 ст.
**Ярославцев, С. И.** 1914—Город Климовичи. Вильна. 8⁰. 35 ст.
**Мейер, А.** 1901—Описание Кричевского графства 1786 г. „Могилевская старина", вып. 2, ст. 86-137 і інш.

8. Менск—Сьвіслач—Бабруйск—Менск.

Лодкай па рацэ Сьвіслач з перацягваньнем лодкі каля млыноў, агляд курганоў і гарадзішчаў у ваколіцах Зборску і ніжняй Сьвіслачы, агляд замку ў м. Сьвіслач; з Сьвіслачы параходам да Бабруйску, агляд Бабруйскай крэпасьці і фабрык; з Бабруйску па чыгунцы да Менску.

**Літаратура:**

Гл. ранейшыя маршруты.

9. Віцебск—Бешанкавічы—Бачэйкава—Фатынь—Чашнікі—Ворша—Віцебск.

Параходам да Бешанкавіч, агляд Бешанкавіцкага саду, дадатковая экскурсія ў сад у Саломенцы, коньмі ў Бачэйкава, агляд саду, ў Бачэйкаве, коньмі ў Фатынь, азнаямленьне з гаспадаркай селяніна Мароза, коньмі ў Чашнікі (гл. маршрут № 2), чыгункай у Воршу (маршрут № 2), чыгункай у Віцебск.

**Літаратура:**

[. . . 1908—Местечки Витебской губ. „Памятная книжка Витебской губ." на 1908 г.
**Рябинин, И.** 1912—Местечко Бешенковичи. „Полоцко-Витебская старина". Витебск, 1912 г. Вып. 2, ст. 217-248.
[. . . 1925—Віцебшчына I. Ст. 157, 164, 167, 176. Віцебск. 8⁰. 216 ст.; і інш.

10. Барысаў—Бабруйск—Менск—Барысаў.

Параходам у Бабруйск, чыгункай—Менск—Барысаў. Агляд Менскіх музэяў, фабрык, Балотнай Станцыі, ІБК і інш.

**Літаратура:**

Гл. ранейшыя маршруты.

11. Бабруйск—Рэчыца—Гомель—Жлобін—Бабруйск.

Гл. ранейшыя маршруты.

12. Рогачэў—Рэчыца—Гомель—Жлобін—Рагачэў.

З Рагачэву парахадам да Рэчыцы, а дальш—чыгункай.

Гл. ранейшыя маршруты.

Усе гэтыя маршруты дапушчаюць шмат варыянтаў у залежнасьці ад месца выезду, напрыклад, а ўсіх маршрутаў можа быць неабмежаваны лік. Паказаньні—маюць мэтаю пераважна пазнаёміць з некалькімі краямі Беларусі. Маршруты мясцовых організацый будуць пераважна знаёміць з сваім краем і вывучаць яго. Трэба клапаціцца каб маршруты ўкладаліся з разьлікам не хадзіць па аднэй дарозе, а, так кажучы, кругасьветкаю.

Калі папярэдняя праца зроблена, неабходна зьвязацца з акруговым саветам фізкультуры і акрпалітасьветы ці з падобнымі раённымі ўстановамі. Яны ня чужыя падарожніцкай справе і змогуць зрабіць ня

толькі організацыйную дапамогу. Таксама неабходна сьпісацца з краязнаўчымі ўстановамі і організацыямі тых месц, куды ёсьць замер ехаць. Толькі пры ўзаемадапамозе краязнаўчых аб'яднаньняў мажліва пасьпяховае ажыцьцяўленьне пастаўленага заданьня. Апрача таго, організатары павінны дакладна азнаёміцца з мэтодычнаю літаратураю пытаньня, сьпісы якой зьмешчаны ў „Асьвеце“ (№ 2 за 1924 г.) і „Нашым Краі“ (№ 2-3 за 1926 г.). Самымі лепшымі падручнікамі будуць „Методика и техника ведения экскурсий“ Райкова і „Географические экскурсии“.

Пазьней, калі экскурсія дальняя, прыдзецца, у агульных рысах хоць-бы, пазнаёміць з мэтодыкай падарожніцтва і ўдзельнікаў данай групы. Самым дакладным павінна быць азнаямленьне апошняй з літаратурнымі данымі аб маршруце, як мы ўжо казалі вышэй.

Іншыя дэталі організацыі і тэхнікі падарожніцтва высьветлены ў памянёнай літаратуры, чаму на іх зараз і ня спыняемся.

Значна больш атрымае падарожнік, калі ён будзе падарожнічаць адзін, або ў двух-трох, пехатою ці на чоўне, што дасьць магчымасьць бачыць такія куткі, якія недаступны вялікай групе з розных прычын.

У пачатку справы ня трэба спыняцца перад пэўнымі перашкодамі, пры няўхільных спачатку памылках і г. д.—справа жывая, а за жывым—будучына.






М. І. К.

# Жанчына і краязнаўства.

*(Да міжнароднага дня жанчыны работніцы).*

Краязнаўчы рух расьце, захоплівае ўсё большыя і большыя колы насельніцтва, задаваляе іх імкненьне да творчай працы, але жанчына ў ім пакуль што прымае нязначны ўдзел. Ва ўсіх краязнаўчых організацыях не набярэцца 30% жанчын-краязнаўцаў, а ў выбарных органах краязнаўчае сеткі і таго менш. Паміж тым жанчыны-краязнаўцы з ліку тых, якія ўваходзяць у склад членаў краязнаўчае сеткі БССР, сваёю дзейнасьцю паказалі, што праца жанчыны - краязнаўцы далёка ня горшая, чым праца мужчын. Значыць малы лік жанчын-краязнаўцаў у нашых краязнаўчых аб'яднаньнях трэба прызнаць за вялікую хібу, якую неабходна ў далейшым выправіць. Спосабы ўцягненьня жанчын у краязнаўчы рух, краязнаўцы-організатары і праўленьні краязнаўчых організацый павінны ўжываць агульныя, г. зн. умела давесьці, што тая ці іншая праца жанчыны—блізкая да края-



Алеся Лычкоўскіх з Смалярні на Чэрвеншчыне.

знаўчай, зацікавіць на грунце гэтага краязнаўствам і дапамагчы зрабіць першыя крокі: даставіць для колекцый ці ў музэі матар'ял, прасьпяваць песьню для запісу яе слоў ці мэлёды, прынесьці цікавыя расьліны ў гэрбар, даць цікавыя назвы, зрабіць запіс замоў ці вясельля, апрацаваць пэўныя весткі ці артыкул і г. д. Абавязкова ўлічыць гэту працу і па мажлівасьці апавясьціць пра працу: на дошцы ў музэі, у насьценнай газэце і да т. п., а таксама расказаць пра далейшую мажлівую працу.



Тадора Арцёмавых з в. Шалавічна на Случчыне.

З другога боку, краязнаўчы рух ня можа не зацікавіцца вывучэньнем жыцьця мясцовай жанчыны, яе атачэньня, яе працы, яе творчасьці і да т. п. Пры вывучэньні народнай пэдагогікі, напр., увесь час рэч будзе ісьці аб жанчыне, бо яна пераважна гадуе і выхоўвае новае пакаленьне. Адсюль цікава вывучыць народную філёзофію жанчыны-пэдагога, як па яе поглядах непасрэдных, так і па прыказках, песьнях і інш. А нашы сотні поэтэс-пясьнярак, якія ведаюць па 400—500 народных песень, як Тадора Арцёмавых з Шалавіч на Случчыне, або Алеся Лычкоўскіх зСмалярні на Чэрвеншчыне, што напамяць ведае „Гапона",„Шчэдраўскія дажынкі" і інш. В. Дунін-Марцінкевіча,творы Ельскага („Сынок" і інш.), часамі недрукаваныя. Пісьменьніку лягчэй пісаць сотні артыкулаў сваіх твораў, чым няпісьменнай жанчыне трымаць іх у памяці. Значыць, ня толькі творчасьць жанчыны: яе песьні, музыка і інш. павінна быць прадметам дасьледваньня. Трэба ўкласьці дакладныя біографіі такіх пясьнярак, казальніц, а таксама знахарак і інш. Гэта самая знахарка павінна ўступіць зараз доктару, але яна была раней прымітыўным лекарам і ні ад кога больш як ад яе можна даведацца як назвы, так і самі мясцовыя лекавыя расьліны, што часамі зусім невядомы мэдыцыне. Спосабы, якімі лечаць жанчыны, таксама павінны быць вывучаны. Праца жанчыны на полі, у хаце, на гумне; сьветапогляд яе наогул,

пісьменнасьць і рэлігійнасьць жанчыны—вось тэмы для дасьледваньня мясцовым краязнаўцам, якія могуць зрабіць уплыў на зьмену быту.

Трэцім пытаньнем, якое нельга абмінуць нават у кароткай заметцы, зьяўляецца популярызацыя краязнаўства сярод жанчын. Краязнаўчая праца не дае адразу матар'яльнай карысьці, дзеля чаго часамі жанчына сем'янінка, заваленая большым лікам і больш маруднай працай чым мужчына, ня выказвае асаблівага пачуцьця да краязнаўчае працы. Популярызатарская дзейнасьць краязнаўчых аб'яднаньняў павінна высьветліць жанчыне ўсю важнасьць і карысьць краязнаўства.



# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

Д. Васілеўскі.

## Помнікі старасьвеччыны на Аршаншчыне.

I.

Абшар былых княстваў Друцкага, Чарэйскага і Лукомльскага вельмі багат помнікамі беларускай старажытнасьці. Яны добра захаваліся. Старасьвеччына парасла паданьнямі і забабонамі і пад іх аховай уцалела да нашых дзён. Цяпер, з правядзеньнем чыгункі Ворша—Лепель прарэзаны пушчы, край зрабіўся болей даступным навуковаму працаўніку.



Мал. 1.
Сьляды лацінскага надпісу на сьцяне замку.

Чыгунка дае мажлівасьць хутка дабрацца да м. Смальляны, якое ў XVI ст. лічылася і мела правы места (гораду). Мястэчка цікава руінамі замку, пабудова якога адносіцца да XV—XVI сталецьця. Замчышча ляжыць з паўночна-заходняга боку мястэчка, на горцы, якая знаходзіцца на заліўным лузе. Луг гэты калісьці заліваўся вадой і тады замак стаяў востравам сярод возера.

З трох бокаў востраў тэрасамі спадае к лугу, а з паўднёвага боку ад замку праз увесь луг цягнецца грэбля—сьляды былога пад'езду к замку; пад'езд упіраўся ў рэчку Дзярноўку. Перад замкам грэбля пра-

рэзана глыбокім ровам, па дне якога відаць убітыя ў зямлю калы, тут знаходзіўся ўзьёмны мост замку.

Узарваны ў 1708 годзе (у час барацьбы супроць швэдаў) расійцамі, замак сваімі руінамі пакрыў усю горку і, хаця насельніцтва мястэчка разьбірала цэглу і каменьне на свае хатнія патрэбы, усё-ж замак узвышаецца сваёй асновай над лугам сажні на тры, а сьцяной сажняў на 7. На ўзьверху руіны прымасьціўся бацян са сваім гняздом і толькі лёскат бацяноў будзіць зацішша руін.



Мал. 2.
Руіны замку.

Сьцены б. замку вымураваны з цэглы і каменьня. Слаі цэглы і каменьня чаргуюцца; вапна выветрываецца; тынкаваньне відаць толькі каля вылепленых малюнкаў на паўночным баку сьцен. Тут відаць нейкі орнамэнт і сьляды лацінскага надпісу (малюнак 1, 2, 3). З заходняга боку замкавай сьцяны відаць байніцы з нішамі і вінтавымі ўзьёмнымі лесьніцамі.

Руіны наводзяць на чалавека нейкі сум; чатырма сваімі паверхамі бойніц глядзіць на вас сівая старасьвеччына, а хцівы чалавек зьнізу падтачвае сьцяну, выламываючы цэглу на свае пабудовы. І, здаецца, не сягоньня—заўтра заваліцца гэтая сьцяна—апошні сьлед каменнай будоўлі замкаў на ўсходзе Беларусі.

Пад грудай цэглы знаходзяцца ўваходы ў замкавыя скляпы, але дрэннае паветра адагнала мясцовых шукацеляў скарбаў. Цяпер гэтыя ўваходы зноў засыпаны абвалам сьцяны.

Ёсьць паданьне, што з замку існуе падземны ход у царкву.

Царква, вельмі цікавай беларускай пабудовы, так і просіцца на дасьледваньне. Час паклапаціцца аб вывучэньні гэтых руін, пакуль



Мал. 3.

Вылеплены орнамэнт на замкавай сьцяне.

яны яшчэ стаяць. Ад сьцяны такое ўражаньне, што яна хутка паваліцца.

II.

Каля вёскі Азярок, паблізу Смалян, на беразе рэчкі стаіць шырокі абамшэлы каменны крыж. Надпіс на ім ужо ня можна прачытаць.

Сяляне расказваюць, што ў швэдзкую вайну тут быў забіты нейкі генэрал, а на яго магілцы пастаўлены крыж.

Такі-ж каменны крыж знойдзен на беразе возера Галошаўкі, Коханаўскага раёну, і вёскі Плеханы, Багушэўскага раёну, дзе крыж стаіць на групе курганьня.

У курганох каля в. Плеханаў знаходзяць каменных баб. Адна з іх знойдзена раней, каля вёскі Журавічы, Коханаўскага раёну, і стаіць у садзе саўхозу Смальляны, другая знойдзена сёлета, каля вёскі Стайкі, Багушэўскага раёну (малюнак № 4). Вялікай прыгожасьці ў іх не назіраецца. Бабы перавозяцца ў акруговы музэй.

III.

Абшары сучаснага Коханаўскага і Талочынскага раёнаў Аршаншчыны суляць вельмі многа каштоўнасьцяй дасьледчыку мінулага Беларусі. Замчышчы Друцку, Багрынава, Сакаліна — цікавы па сваім выглядзе і патрабуюць навуковага дасьледваньня. Багрынаўскае замчышча мае выгляд купала вышынёй 5 саж. і ўшыркі 20 саж. з глыбокай круглай ямай пасярэдзіне.

Каля кожнага замчышча сустракаюцца групы курганоў.

Найбольш цікавая знаходка сёлетняга году на абшары Талочынскага раёну гэта—камень „Кравец“ у Пасмурскай лясной дачы, на вадападзеле Дняпра і Зах. Дзьвіны. Вялізны граніт ляжыць на ўзвышшы сярод лесу, з якога пачынаецца рэчка Друць.



Мал. 4.
Каменная баба. Разьмер 16×9 вярш.
Таўшчыня—5 вярш. Вага—6 пуд.

Тут-жа каля вёскі Б. Козкі, у лесе, знаходзіцца гарадзішча ў форме станка з трыма шэрагамі глыбокіх равоў, якія абкружаюць гарадзішча. А непадалёку ляжаць старасьвецкія могільнікі з цікавымі каменнымі крыжамі. На кожным крыжы выбіта цэлая сетка васьмікутных крыжоў. Крыжы паўяжджалі ў зямлю і прачытаць на іх здолее толькі археолёг.

Тут-жа цягнецца нейкі вал, як-бы мяжа Расіі і Польшчы 1773 году, і быў волак з вадазбору р. Друці ў р. Вулу.

Талочынскі раённы краязнаўчы музэй хутка ўзбагачаецца рознымі знаходкамі з гэтых курганоў і гарадзішч.

Сёлета праводзілася абсушка балота Усьвіж Бук, пры гэтым на дне торпу знайшлі вельмі цікавы слой сінькі. Слой досыць моцны, пры

расьціраньні ў руках пальцы трохі падсіньваюцца. Гэты торп знойдзены каля в. Азярцы, Талочын. раёну.

З боку мастацкасьці тут сустракаюцца цікавыя помнікі. У м. Старыя Абольцы, Коханаўскага раёну, стаіць першы на Беларусі касьцёл, пабудаваны пры Ягайле. Цікавая пабудова, ня гледзячы на пазьнейшыя перабудовы, касьцёл захаваў свой асобны выгляд.

Камяні ў в. Высокі Гарадзец, Талочын. раёну, і Дзятлава, Коханаўскага раёну, апісаныя Е. Раманавым, зараз захоўваюцца ў надбудаваных над імі капліцах. Гэтыя „Барысавы“ камяні яшчэ і цяпер у часы кірмашоў падкормліваюць папоў.

Абшар былога Друцкага княства захаваў і цікавыя засьценкі беларускай шляхты каля Друцку, Талочына.



**В. Самцэвіч.**

# Барысаў.

## I. Месцапалажэньне Барысава.

Горад Барысаў зьяўляецца акруговым цэнтрам Барысаўскай акругі і ляжыць пад 54°14′46″ паўдн. ш. і 46°9′52″ усх. даўж. на абодвых берагох р. Бярэзіны пры перасячэньні апошняй з старым шляхам („гасьцінцам“) з Менску на Воршу—Маскву і Маск.-Беларускай чыгункай. Горад падзяляецца на дзьве часткі: левабярэжную—Барысаў (з вул. Прыстань і Набярэжнай на правым баку) і правабярэжную—Н.-Барысаў, які знаходзіцца ў 3,5 клм. ад Барысава на паўд. ўсх. Асяродкам гораду зьяўляецца Барысаў. Горад ляжыць на схіле, які з поўначы паступова спускаецца да р. Бярэзіны. З паўднёва-ўсходняга боку горад апаясвае вялікі поплаў, які вясной заліваецца вадой, утвараючы вялічэзнае возера. Паўночна-ўсходнюю частку Барысава перасякае р. Сха, пераразаючы „гасьцінец“ на Воршу. Горад наўкол шырака апаясан зялёным поясам лугоў. Найлепшы маляўнічы выгляд горад мае пры пад'езьдзе да яго з Лепельскага (был. Полацкага) тракту.

## II. Барысаў у часы Полацкіх князёў.

Барысаў—адзін з старых гарадоў Беларусі. Адны з гісторыкаў лічаць, што Барысаў быў заложаны ў 1102 г. полацкім князем Барысам Усяславічам, другія заснаваньне яго адносяць да 1032 г. і прыпісваюць кіеўскаму князю Яраславу I. Першую думку трэба лічыць найбольш правільнай, пацьверджаньнем чаму можа служыць і тое, што ў Барысаве панавалі насьледнікі Ўсяслава.

Летапісны ўспамін аб Барысаве ў першы раз сустракаецца пры апісаньні вайны 1127—1128 г., якую вёў сын Уладзімера Манамаха Мсьціслаў супроць полацкіх князёў.

## III. Барысаў у складзе Літоўска-Беларускага княства.

К канцу XII ст. концэнтруецца і расьце Літва. У XIII ст. Полацкія гарады адзін за адным уваходзяць у склад Літвы. Перайшоў пад уладу Літвы і Барысаў. Прымежнае палажэньне Барысава адбівалася на яго гісторыі. Ваенныя падзеі таго часу не адзін раз прыводзілі да руйнаваньня гораду. Так, напрыклад, Барысаў руйнуецца ў 1431 г. і ў пачатку XVI ст. калі ішла вайна паміж Літвой і Масквой.

Барацьба ішла з пераменным шчасьцем, а краіна руйнавалася, гінула народнае дабро, гінулі людзі. У час выдзяленьня Барысаўскага староства (1563 г.) насельніцтву Барысава былі даны некаторыя муніцыпальныя правы, якія потым былі пашыраны каралямі.

## IV. Замак у Барысаве.

У XVI ст. ў Барысаве, паводле існуючых вестак, яшчэ быў замак, час заснаваньня якога невядомы. У 1542 г. гэты замак атрымаў у падарунак віленскі ваявода Ян Глябовіч ад караля Жыгімонта-Аўгуста і быў

далучаны да віленскага ваяводзтва. У 1560 г. стараста Агінскі прыстасаваў замак пад памяшканьне старасьцінскай адміністрацыі. Замак праіснаваў да пачатку XIX ст. Паводле зьвестак будова была драўляная, на каменным падмурку, з аднымі варотамі. У пачатку мінулага сталецьця ў замку знаходзілася ўпраўленьне радзівілаўскімі маёнткамі, потым месца дваранскіх сабраньняў пры выбарах і ўрэшце, па загаду ўраду, замак быў перароблены пад турму—двухпавярховы каменны будынак, абнесены вакол каменнай сьцяной. З паўднёвага боку турмы працякае рукаў Бярэзіны, а з паўночнага ёсьць былы абводны канал, цяпер нізіна, шырынёй саж. 50 (былы роў), якая і летам ня зусім перасыхае, а вясной бывае заліта вадой. У 1920 г. пры адступленьні польскай арміі турма была значна сапсута—сьцены і дах разьбіты з гармат; у 1923-24 г. будынак зноў прыведзены ў належны парадак.

### V. Барысаў у складзе Рэчы Паспалітай.

Як вядома, у канцы XVI сталецьця вялася барацьба паміж Іванам Грозным і польскім каралём Стэфанам Баторыем. Баторы з сваімі войскамі праходзіў праз Барысаў. У 1654 г., у час казацкіх паўстаньняў на Беларусі, Барысаў быў заняты маскоўскімі войскамі і знаходзіўся пад уладай маскоўцаў да 1662 году, калі за недахопам провіянту маскоўцы мусілі пакінуць Барысаў. У час вайны Пятра I з Карлам XII Барысаў займаўся як маскоўскімі, так і швэдзкімі войскамі. Успамінам аб заняцьці Барысава швэдамі зьяўлялася адна з вуліц—некалі Швэдзкая, цяпер Комсамольская, дзе стаяў швэдзкі абоз у 1708 г.

З прывілеяў, якія былі даны Барысаву польскім кар. Янам Казімірам у 1664 г., відаць, што Барысаў у гэтыя часы быў мястэчкам і ўваходзіў у склад Аршанскага павету Віцебскага ваяводзтва. У склад Барысаўскага староства ў 1732 г. уваходзілі: Барысаў, Замкавая і Забаброўская воласьць з 7 мястэчкамі: Барань, Круковічы, Лошніца, Неманіца, Нача, Радча (Радзіца) і Ухвала і вёскі: Бытча, Выдрыца, Гумно, Дзянісавічы, Дакудава, Вялікія і Малыя Жаберычы, Забалоцьце, Зачысьце, Ігрышча, Кастрыца, Млёхава, Негнавічы, Новыя і Старыя (цяпер Вялікія і Малыя), Азьдзяцічы, Пагадзіца, Пупелічы, Скакаўка, Стахава Вялікае і Малае, Сьцюдзёнка, Трасьцяніца, Ухалода, Шавярнічы і іншыя.

Перад другім падзелам Польшчы ў 1792 г. кар. Станіслаў-Аўгуст (Аршанскі пав.), прызнаў Барысаў „вольным горадам“, дзе насельніцтва мела права ўласнага ўладаньня сядзібамі, права суду толькі абабранымі насельніцтвам, бурмістрамі, ратманамі і лаўнікамі, з правам пабудовы ратушы і інш. Горад меў свой гэрб. У 1793 г., пасьля другога падзелу Польшчы, Барысаў стаў галоўным горадам Барысаўскага павету і ўвайшоў у склад утворанага Менскага намесьніцтва.

### VI. Барысаў у часы кампаніі 1812 г.

У часы кампаніі 1812 г. Барысаву прышлося сыграць значную стратэгічную ролю. У 1811 г. стала відавочнай нямінучасьць вайны з Наполеонам І. Па загаду Аляксандра I пачалася падрыхтоўка да вайны. Пачалі ўзмацоўваць тракты, якія вялі к сталіцам, і гарады па Маскоўскім тракце. Зьвернута была вялікая ўвага на Барысаў, дзе толькі і магчыма была пераправа праз Бярэзіну ў выпадку паходу Наполеона на Маскву. Перад мостам на правым беразе р. Бярэзіны каманда салдат пад кіраўніцтвам палкоўніка Сазонава высекла лес абапал дарогі, расчысьціўшы плошчу каля 800 саж. даўжынёй і шырынёй і прыступіла

да насыпаньня акопаў для 20.000 расійскага войску („батарэі“). Начальнікам Барысаўскага ваеннага раёну быў назначаны генэрал-маёр Грэсэр. Усе работы былі закончаны к вясьне 1812 г.

30-га чэрвеня Грэсэр атрымаў паведамленьне аб наступленьні французаў праз Жодзін і, што часьці францускай арміі паявіліся ў м. Зембіне. Па раней атрыманым загадзе ад Баграціёна быў спалены нядаўна пабудаваны мост праз Бярэзіну і ўсе магазыны з провіянтам, гарматы і порах затоплены ў рацэ, а Грэсэр з войскам адступіў на Бабруйск праз Магілеў. У той-жа дзень Барысаў быў заняты войскам маршала Даву. Праз увесь ліпень і жнівень месяцы францускае войска ішло праз Барысаў. У Барысаве быў організаваны вялікі харчоўны пункт для францускіх войск і ўтворана падпрэфэктура, а г. Барысаў і Барысаўскі павет увайшлі ў склад нанова ўтворанага Наполеонам Вялікага Княства Літоўскага. Пасьля боек пад Полацкам і Смаленскам Барысаў перапоўніўся раненымі французамі і палоннымі расійцамі. Насяленьне Барысава і павету павінна было несьці ўвесь цяжар па ўтрыманьні тылавых устаноў і францускага войску. Цэлы шэраг рэквізыцый, цяжкія падаткі, ваенныя экзэкуцыі, бязьлітасныя фуражыроўкі— давялі насяленьне да поўнага жабрацтва. У розных мясцох пачаліся партызанскія выступленьні, расправа з якімі была вельмі суровая.

У пачатку кастрычніка сталі даходзіць да Барысава чуткі аб няўдачах французаў. Наполеон пад націскам расійскіх войск адступіў ад Масквы. Ён сьпяшыў у Барысаў, спадзяючыся на дапамогу палякаў і на вялікія запасы провіянту, захопленага французамі пры наступленьні. Заняцьце Менску расійскай дунайскай арміяй яшчэ больш павялічыла значэньне Барысава для Наполеона. З 14 па 17 лістапада адбылася няшчасная для французаў пераправа ў в. Сьцюдзёнкі. У час гэтай пераправы загінула прыблізна да 30.000 францускага войска і шмат абозу. Ад канчатковай гібелі францускую армію выратавала толькі нядбайнасьць адмірала Чычагова.

Барысаў пасьля пераправы французаў праз Бярэзіну наводзіў жудасьць: горад быў зруйнаваны, шмат якія часьці гораду былі спалены, вуліцы былі завалены трупамі; дамы былі перапоўнены раненымі і хворымі; ніякіх прымет жыцьця ня было; насяленьне хавалася па лясох, галадала, мерзла ад холаду і гінула ад пошасных хвароб. Доўга прышлося насяленьню апраўляцца пасьля зруйнаваньня.

У 1813 г. быў папраўлены мост праз Бярэзіну і адноўлены прадмосныя ўзмацненьні („батарэі“).

## VII. Помнікі кампаніі 1812 г.

Помнікамі кампаніі 1812 г. у Барысаве зьяўляюцца т. з. „батарэі“— астаткі прадмоснага ўзмацненьня перад мостам праз р. Бярэзіну, падпраўленыя ўжо па сканчэньні вайны, „дом Наполеона І“ у Стара-Барысаве, дзе знаходзіўся Наполеон з 13 па 16 лістапада і адкуль ён кіраваў пераправай сваёй арміі праз Бярэзіну; 2 помнікі-паказчыкі месца пераправы францускай арміі ў в. Сьцюдзёнка; рэшта помнікаў знаходзяцца на дне ракі, на месцы пераправы, ды ў самой зямлі на берагох ракі.

„Батарэі“ зараз пакрыты рэдкім сасновым лесам і да 1914 г. зьяўляліся месцам гуляньня для публікі. У сучасны момант у асяродку „батарэй“ будуецца вялікая каменная акруговая больніца.

„Дом Наполеона“ зусім стары, і калі яго не падтрымаць—скора разваліцца. Зараз ён знаходзіцца ў распараджэньні Сельска-Гаспадарчага

Тэхнікуму. Адна палова дома прыстасавана пад хімічныя лябораторыі і бібліотэку, а другая часова занята пад кватэры. Апрача свайго існаваньня „дом Наполеона“ нічым іншым не напамінае аб мінулых часох кампаніі 1812 г.

У в. Сьцюдзёнка, у тым самым месцы, дзе генэраламі Эбле і Шасбелу былі пабудаваны 2 масты, па якіх 14, 15 і 16 лістапада 1812 г. пераправулялася француская армія, памешчыкам Каладзеевым у 1910 г. былі пабудаваны 2 каменныя помнікі-паказчыкі. Помнікі вышынёй 1,5 саж. на каменным падмурку. За часы грамадзянскай вайны помнікі папсуты: у адным разабрана частка падмурку, у другім зьбіт верх. Помнікі патрабуюць аховы. У 1908—10 г.г. гэтага сталецьця ў р. Бярэзіне на месцы пераправы рабілася пры дапамозе зямлячарпалкі выемка зямлі з дна ракі, прычым рака была адведзена ад левага берагу пры дапамозе сыстэмы запруд; здабыта, як сьведчаць некаторыя з мясцовага насельніцтва, каля 70 пуд. розных ваенных рэчаў: аружжа, снарады і інш. Рэчы, як можна дагадвацца, паступілі ў музэй Каладзеева ў Н.-Барысаве, дзе мелася і вядомая бібліотэка Каладзеева. У бібліотэцы было вельмі многа кніг (больш 15 т. томаў), рукапісаў, плянаў, карт, гравюр. Усю гэту бібліотэку і музэй Каладзееў перадаў у Маскоўскі музэй 1812 г.

### VIII. Рост Нова-Барысава—рабочага асяродку.

Нова-Барысаў стаў расьці пасьля таго, як была праведзена чыгунка. Яшчэ ў 80-х гадох мінулага сталецьця на месцы Н.-Барысава быў вялікі лес, у якім вадзіліся дзікія зьвяры: мядзьведзі, ласі. Ад гэтага лесу ў сучасны момант астаўся невялікі сасновы гай пры фабр. „Чырвоная Бярэзіна“ і сасновы парк пры вакзале.

Пасьля правядзеньня чыгункі ў Н.-Барысаве былі пабудаваны казармы памешчыкамі Каладзеевым і Сьвідай на зямлі першага і куды пераведзены 2 палкі. Скора каля казармаў узрос пасёлак, які хутка пачаў пашырацца, зрабіўшыся пасьля пабудовы фабрык і заводаў у канцы прошлага і пачатку цяперашняга сталецьця, значным прамысловым асяродкам. У сучасны момант Н.-Барысаў пашырыўся за чыгунку на ўсход каля 1 клм. і яшчэ больш на поўдзень. За апошнія 2 гады па левым баку дарогі Барысаў—вакзал узрос прыгожы „Рабочы Гарадок“ з добрымі гігіенічнымі ўмовамі жыцьця для рабочага.

Зараз Н.-Барысаў зьяўляецца фабрычным раёнам. Тут ёсьць вялікая фабрыка запалак „Чырвоная Бярэзіна“, шкляная гута, папяровая фабрыка „Профінтэрн“, 4 вялікія лесапільні і цэлы шэраг больш дробных прадпрыемстваў з 4.000 рабочых.

### IX. Рабочы рух. Барысаў у 1905 г.

У канцы XIX і пачатку XX сталецьця, як ужо вышэй гаварылася, у Барысаве і Н.-Барысаве пачалі працаваць досыць буйныя фабрыкі і заводы. Гэтыя-ж часы вызначыліся ў Беларусі ростам рабочага рэволюцыйнага руху. Рух гэты захопліваў і рабочых Барысава. У 1904 г. у Барысаве зарадзілася організацыя РСДРП сярод рабочых, працаваўшых на фабрыцы запалак „Вікторыя“ і на лесапільных заводах і наладзілася сувязь з с.-д. групай у Менску. Партыйная праца паступова расьце і вынікі яе выявіліся досыць яскрава ў 1905 г.

Водгукам на падзеі ў Пецярбурзе 9 студзеня былі выступленьні рабочых у розных гарадох Беларусі. У Барысаве 16 і 17 студзеня рабочыя запалачных фабрык „Вікторыя“, купца Саламонава і, фабрык „Бярэзіна“, Бэрмана, лікам да 200 чал. аб'явілі забастоўку, раскідаліся

проклямацыі „Ко всем Борисовским рабочим и работницам“, з прызывам да стачак і разбурэньня існуючага парадку. 8-га сакавіка Барысаўская арганізацыя „Бунд“ праводзіла дэмонстрацыю, у проклямацыях зазывала ўсіх рабочых выступіць з аружжам і патрабаваць „неадкладнага спыненьня вайны, дэмократычнай рэспублікі, пры якой лягчэй будзе весьці барацьбу за канчатковую мэту—соцыялізм“. 21 сакавіка баставалі рабочыя махорачнай фабрыкі Ліфшыца і запатрабавалі пявялічэньня зарплаты; 25 красавіка з экономічнымі патрабаваньнямі выступілі рабочыя фабр. „Вікторыя“; 26 красавіка выступілі з патрабаваньнем павышэньня на 15% зарплаты і скарачэньня да 10 гадзін рабочага дня рабочыя лесапільнага заводу в. кн. Мікалая Мікалаевіча і Пятра Мікалаевіча.

Рэволюцыйная хваля расла, выступленьні на вуліцах адбываліся пры большым ліку ўдзельнікаў, пераважна яўрэйскай моладзі. 6-га чэрвеня выступіла 400 чал.; была стычка з поліцыяй. 1-га ліпня адбывалася агульная забастоўка. 1-га жніўня выступілі рабочыя шклянога заводу ў Н.-Барысаве з прад'яўленьнем патрабаваньняў экономічнага характару. У канцы ліпня адбываліся сходкі за горадам, прычым былі стычкі з поліцыяй і салдатамі; некаторыя з удзельнікаў сходкі былі ранены; былі пушчаны ў ход нагайкі. Па вуліцах конныя разьезды драгун разганялі ўсякія сходы. Праз увесь час барысаўская арганізацыя „Бунд“ вяла бязупынную працу і стаяла на чале рабочага руху ў Барысаве.

18-га кастрычніка адбывалася ў горадзе дэмонстрацыя-протэст супроць маніфэсту 17 кастрычніка; вызаў поўэскадрону драгун спыніў дэмонстрацыю. На павеце адбываліся выступленьні сялян.

### X. Барысаў у часы імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны.

У час імпэрыялістычнай вайны Барысаў зьяўляўся месцам расквартараваньня розных тылавых устаноў. Стратэгічнае палажэньне р. Бярэзіны і заняцьце нямецкай арміяй заходняй часткі Беларусі прымусіла расійцаў пабудаваць у канцы 1915 г. праз раку другі „ваенны мост“, які быў спалены расійцамі пры наступленьні палякаў у 1919 г. і зноў адбудованы ў 1923 г.

19-га лютага 1918 г. Савецкая ўлада перад наступам нямецкага імпэрыялізму вымушана была пакінуць Менск; астаўлены быў і Барысаў. Гаспадарамі на некалькі дзён зьявіліся польскія легіёны, якія змушаны былі ачысьціць горад для немцаў. Гарадзкая буржуазія, духавенства, чыноўнікі рады былі немцам, працоўныя-ж масы шкадавалі адыходу Савецкай улады. Твар гораду адразу зьмяніўся. Усё прыціхла, нямецкі капрал наводзіў свой парадак. Ішлі рэквізыцыі і вываз дабра, набытага мазалямі працоўных у Нямеччыну.

Рэквізыцыі ў розных мясцох даводзілі сялян да актыўнага супраціўленьня. Організаваліся атрады, рабіліся напады на адзіночак і невялічкія групкі нямецкіх салдат. У в. Пупелічы (Барысаўскі раён), напрыклад, сяляне забілі комэнданта, за што ўся вёска з усім дабром была спалена да шчэнту; неспакойна было і ў іншых мясцох. Горад Барысаў быў абвешчаны на ваенным палажэньні.

А тым часам і там у Нямеччыне падгатаўлялася і выбухла соцыяльная рэволюцыя. Кайзэр Вільгельм зьляцеў з трону, і кайзэраўская армія пакінула Беларусь. У Барысаў вярнулася Савецкая ўлада; пачыналася гаспадарчае і культурнае будаўніцтва ў соцыялістычным напрамку, але і на гэты раз ненадоўга. Польскі імпэрыялізм па загаду Антанты і пры дапамозе яе капіталаў зрабіў наступ на Беларусь. Чырвоная армія,

галоўныя сілы якой былі адцягнуты на барацьбу з Урангелем, Калчаком і Юдзенічам, не змагла затрымаць гэтага наступу і часова мусіла адступаць. 8-га жніўня 1919 г. быў заняты Менск, а праз некалькі дзён польская армія дайшла да Бярэзіны. У Барысаве адбываліся ўпартыя бойкі. Каб затрымаць наступ белапольскай арміі і ня пусьціць за раку Бярэзіну, Чырвоная армія ўзрывае чыгуначны мост, які належным парадкам і да гэтага часу не адбудованы.

Каля дзесятага жніўня горад перайшоў у рукі белапалякаў. На працягу 3-х дзён горад быў аддадзены на рабаваньне польскіх жаўнераў. Адбываліся самыя дзікія сцэны: жаўнеры грабілі крамы, забіралі тавары, адбіралі грошы, залатыя і срэбныя рэчы. Разграблена была бібліотэка і фізычны габінэт мужчынскай гімназіі; частка кніг і прылад была вывезена, а рэшта пабіта, паломана, парвана. Утварыўся потым цывільны ўрад і распачалася барацьба з бальшавізмам. „Канаркі“, „пастэрункі“ і бізун—добра асталіся ў памяці мясцовага насельніцтва. Не пуставала і турма. Пачалася полёнізацыя школ і разгул каталіцка-польскага шовінізму. Дзікая агідная політыка польскага імпэрыялізму выклікала і мясцовы партызанскі рух. Чырвоная армія зрабіла націск і 25 мая польскае войска вымушана было пакінуць Барысаў і затрымацца на правым беразе Бярэзіны. Самы горад Барысаў вечарам 26 мая перайшоў у рукі Чырвонай арміі. Шэсьць тдняў горад знаходзіўся пад артылерыйскім, ружэйным і кулямётным абстрэлам, пакуль каля дзесятага ліпня Чырвоная армія не зрабіла рашучы наступ. Дэморалізаваная польская армія павінна была сьпешна адступаць.

Пры адступленьні Барысаў быў амаль што напалову разьбіты польскімі снарадамі. Фабрыка „Вікторыя“, „Капыльная“ фабрыка б. Тэпліца, будынак б. жаночай гімназіі і цэлыя кварталы ў Барысаве і Н.-Барысаве пасьля адступленьня палякаў выглядалі грудамі развалін. Руіны цэлых кварталаў гораду аж да апошняга часу сьведчылі аб часох белапольскай окупацыі. У 1925-26 г. г. Савецкая ўлада ў значнай меры адбудавала разьбітыя будынкі амаль што занова; будуюцца новыя дамы. У Н.-Барысаве за апошнія 2 гады вырас новы „Рабочы гарадок“, дзе рабочыя і іх сем'і маюць чыстыя і сьветлыя кватэры. Працуюць і пашыраюць працу фабрыкі і заводы, інтэнсыўна ідзе савецкае гаспадарчае і культурнае будаўніцтва.

## Літаратура.

„Верхнее Поднепровье и Белоруссия“ под ред. В. П. Семенова, т. IX. (Изд. А. Ф. Девриена, СПБ, 1905 г.).
„Город Борисов“—Э. М. Клейна, Д. И. Довгялло и Н. Е. Белоцерковца. (Изд. Сев.-Зап. Отд. Импер. Русск. Геогр. Отд., Вильно—1910).
„Очерк Истории Кривичской и Дреговичской земель“ М. Довнар-Запольского (Киев, 1891 г.).
„Opisanie powiatu Borysowskiego“—Е. Тышкевіча.
„Обозрение истории Белоруссии с древнейших времен“—О. Турчиновича. (СПБ, 1857 г.).
„Г. Борисов и Борисовский уезд в отечественную войну 1812 г.“ Вл. Гавр. Краснянского (Гродно, 1914).
„Кароткі курс географіі Беларусі“ — А. Смоліча (Дзяржвыдат. Беларусі, Менск, 1925).
„1905 г. в Белоруссии“ (Минск, 1925)
„1905 г. у Беларусі“—збор. арх. дакум. (Менск, 1925 г.).

# Статуты краязнаўчых організацый.

ЗАЦЬВЯРДЖАЕЦЦА.
Наркамасьветы *Баліцкі.*
Заг. Агульн. Аддзелу *Савіч.*
№ 38. 15 студзеня 1927 г.

## СТАТУТ

### гуртка краязнаўства пры ............................................ школе.

### I. Мэты і задачы гуртка.

§ 1. Гурток краязнаўства пры ................................................ (назва школы: пачатковай сямігодкі, ........................................ мае мэтай: сялянскай моладзі і да т. п.).

а) усебаковае вывучэньне і дасьледваньне сваёй тэрыторыі ў прыродна-географічным, грамадзка-экономічным і культурна-гістарычным стасунках у межах ........................................ (назва вёскі, мястэчка, ........................................ сельсавету ці раёну);

б) пашырэньне вед, зьвязаных з вывучэньнем свае тэрыторыі;

в) абуджэньне зацікаўленасьці да краязнаўства сярод шырокіх колаў грамадзянства.

§ 2. Школьны гурток краязнаўства зацьвярджаецца пастановай Школьнага Савету.

§ 3. Для ажыцьцяўленьня паказаных у § 1 заданьняў гурток:

а) організуе сходы, на якіх заслухоўвае, абгаварвае даклады аб мэтодах і выніках сваёй працы;

б) організуе лекцыі, вечарыны, дыспуты і да т. п.;

в) організуе нагляданьні, экспэдыцыі, экскурсіі;

г) дапамагае організацыі музэяў і габінэтаў свае школы;

д) дапамагае ў працы мясцовых краязнаўчых організацый;

е) зьбірае бібліотэчку адпаведна сваім заданьням;

ж) у сваёй дзейнасьці кіруецца інструкцыямі і програмамі, выданымі ЦБК, і радамі раённага таварыства краязнаўства;

з) зносіцца з краязнаўчымі організацыямі.

### II. Склад гуртка.

§ 4. Членамі гуртка зьяўляюцца:

а) заснаваўцы гуртка ў ліку ня менш 7;

б) вучні, настаўнікі і іншыя працаўнікі школы, якія падалі аб гэтым заяву і прынятыя агульным сходкам гуртка.

§ 5. Кожны член гуртка павінен весьці актыўную працу па выкананьні пастаўленых гуртком заданьняў і ажыцьцяўляць усе пастановы агульнага сходу і праўленьня гуртка.

§ 6. Член гуртка можа быць выключаны са складу гуртка па сваёй заяве аб гэтым, альбо па пастанове агульнага сходу гуртка, прычым прычынай выключэньня ў гэтым выпадку можа быць учынак, які падрывае аўторытэт гуртка. Вучні школы—сябры гуртка, скончыўшыя курс, ці выключаныя са школы да сканчэньня курсу—выключаюцца і з гуртка.

§ 7. Сьпіс членаў гуртка падаецца ў Школьны Савет і ў мясцовае таварыства краязнаўства.

### III. Сродкі гуртка.

§ 8. Сродкі гуртка складаюцца:

а) з членскіх узносаў і афяраваньняў;

б) з субсыдый дзяржаўных і грамадзянскіх установаў аднаразовых ці пастаянных;

в) з прыбыткаў ад продажы краязнаўчых выданьняў;

г) са збораў за ўваход на лекцыі, выстаўкі, вечарыны і г. д.

*Увага 1.* Велічыня членскіх узносаў вызначаецца агульным сходам гуртка, прычым агульны сход па тых ці іншых прычынах можа звальняць членаў гуртка ад выплаты членскіх узносаў.

*Увага 2.* Члены, якія не заплацілі ў свой час вызначаных узносаў, лічацца выбыўшымі з ліку членаў гуртка. Але яны зноў увходзяць у гурток пасьля ўнясеньня належных узносаў бяз новага абраньня.

§ 9. Сродкі гуртка выдаюцца праўленьнем. Справаздача аб выдатках, разгледжаная і зацьверджаная агульным сходам гуртка, перадаецца ў тую ўстанову, з якой атрыманы сродкі, а копія справаздачы перадаецца ў Школьны Савет.

### IV. Агульныя сходы гуртка.

§ 10. Агульныя сходы гуртка склікаюцца праўленьнем з папярэднім паведамленьнем Школьнага Савету за 3 дні да сходу. Справы на агульным сходзе вырашаюцца простаю большасьцю галасоў.

§ 11. Агульны сход:

а) прыймае новых членаў гуртка;

б) выбірае сяброў праўленьня і рэвізійнай камісіі;

в) зацьвярджае плян працы;

г) заслухоўвае справаздачу праўленьня і даклады;

д) зацьвярджае грашовыя выдаткі і пастановы рэвізійнай камісіі;

е) абгаварвае проекты аб зьменах у статуце, якія зацьвярджаюцца ў паложаным парадку.

§ 12. Агульны сход лічыцца праваможным, калі прысутнічае ня менш паловы членаў гуртка.

### V. Праўленьне гуртка.

§ 13. Праўленьне гуртка абіраецца агульным сходам гуртка тэрмінам ня больш году ў вызначаным агульным сходам ліку. Праўленьне са свайго складу вылучае старшыню, намесьніка (ён-жа скарбнік) і сакратара. Аб складзе праўленьня і ўсіх зьменах у ім паведамляецца Школьны Савет.

§ 14. Праўленьне гуртка:

а) наглядае за выкананьнем пастаноў агульных сходаў;

б) сочыць за правільнасьцю дзейнасьці гуртка;

в) кіруе гаспадарчымі справамі гуртка;

г) робіць справаздачу перад агульным сходам гуртка, а копію пасылае мясцоваму таварыству краязнаўства і Школьнаму Савету;

д) робіць даклад аб дзейнасьці гуртка на пасяджэньні Школьнага Савету.

е) вядзе ўчот дзейнасьці маёмасьці гуртка і музэю.

### VI. Рэвізійная камісія гуртка.

§ 15. Рэвізійная камісія абіраецца агульным сходам гуртка ў ліку 3-х асоб аднача́сна з абраньнем праўленьня і на яго тэрмін.

§ 16. Рэвізійная камісія сочыць за выкананьнем ускладзеных на праўленьне абавязкаў, за правільнасьцю выдаткаў грашовых сродкаў, разьбірае скаргі на дзейнасьць праўленьня і справаздачу аб сваёй дзейнасьці дае агульнаму сходу гуртка і Школьнаму Савету.

### VII. Ліквідацыя гуртка.

§ 17. Гурток можа быць ліквідаваны як загадам ўрадавых установаў, так і пастановай агульнага сходу гуртка, альбо пастановай Школьнага Савету.

§ 18. У выпадку ліквідацыі гуртка праўленьне прадстаўляе аб гэтым даклад праўленьню мясцовага таварыства краязнаўства. Уся маёмасьць гуртка паступае пад загад свае школы.

ЗАЦЬВЯРДЖАЕЦЦА.
Наркамасьветы *Баліцкі.*
Заг. Агульн. Аддзелу *Савіч.*
№ 38, 15 студзеня 1927 г.

# СТАТУТ

**гуртка** ..........................................................
(назва тэхнікумаў, курсаў і інш.).

### I. Мэты і задачы гуртка.

§ 1. Гурток краязнаўства ........................................ мае мэтай:
(назва ўстановы)

а) зьбіраньне краязнаўчых матар‘ялаў па сваёй акрузе і Беларусі наогул у прыродна-геаграфічным, соцыяльна-экономічным, культурна-гістарычным кірунках і іх апрацоўку;

б) пашырэньне вед, зьвязаных з задачамі гуртка, і популярызацыю краязнаўства сярод студэнтаў свае школы і шырокіх колаў насельнасьці.

§ 2. Для ажыцьцяўленьня паказаных у § 1 заданьняў гурток:

а) організуе сходы, на якіх заслухоўвае, абгаварвае даклады аб мэтодах і выніках сваёй працы;

б) організуе лекцыі, вечарыны, дыспуты, даклады і да т. п.;

в) організуе нагляданьні, экспэдыцыі, экскурсіі;

г) дапамагае організацыі музэяў і габінэтаў свае школы;

д) дапамагае ў працы мясцовых краязнаўчых організацый;

е) зьбірае бібліотэчку адпаведна сваім заданьням;

ж) клапоціцца апублікаваньнем сваіх прац;

з) сваю дзейнасьць зьвязвае з мэтавай установкай і заданьнямі навучальнае ўстановы паводле пляну працы апошняй і кіруецца ў сваёй працы програмамі і паказаньнямі, выданымі ЦБК;

і) зносіцца з ЦБК і іншымі навуковымі краязнаўчымі арганізацыямі, а таксама з акруговым таварыствам краязнаўства па пытаньні дасьледваньня акругі, у якой знаходзіцца гурток.

## II. Склад гуртка.

§ 3. Членамі гуртка зьяўляюцца:

а) заснаваўцы гуртка ў ліку ня менш 10;

б) студэнты, выкладчыкі і іншыя працаўнікі свае школы, якія падалі аб гэтым пісьмовую заяву ў праўленьне гуртка з рэкомэндацыяй проф. організацый навучальнай установы ці 2-х сяброў таварыства і прынятыя агульным сходам гуртка.

§ 4. Кожны член гуртка павінен весьці актыўную працу па выкананьні пастаўленых гуртком заданьняў і ажыцьцяўляць усе пастановы агульнага сходу і праўленьня гуртка.

§ 5. Кожны член мае права прымаць удзел у акруговых краязнаўчых конфэрэнцыях альбо выбіраць дэлегатаў на іх.

§ 6. Член гуртка можа быць выключаны са складу гуртка па сваёй заяве аб гэтым, альбо толькі па пастанове агульнага сходу, прычым прычынай выключэньня ў гэтым выпадку можа быць учынак ці наогул дзейнасьць, якія падрываюць аўторытэт таварыства.

§ 7. Сьпіс членаў гуртка падаецца ў раду свае навучальнае установы, якая зацьвердзіла гурток.

## III. Сродкі гуртка.

§ 8. Сродкі гуртка складаюцца:

а) з членскіх узносаў і афяраваньняў;

б) з субсыдый дзяржаўных і грамадзкіх устаноў аднаразовых ці пастаянных;

в) з прыбыткаў ад продажы краязнаўчых выданьняў;

г) са збораў за ўваход на лекцыі, выстаўкі, вечарыны і г. д.

*Увага 1.* Велічыня членскіх узносаў вызначаецца агульным сходам гуртка, прычым агульны сход па тых ці іншых прычынах можа звальняць членаў гуртка ад выплаты членскіх узносаў.

*Увага 2.* Члены, якія не заплацілі за поўгода вызначаных узносаў, лічацца выбыўшымі з ліку членаў гуртка. Але яны зноў уваходзяць у гурток пасьля ўнясеньня належных узносаў бяз новага абраньня.

§ 9. Сродкі гуртка выдаюцца праўленьнем. Справаздача аб расходах, разгледжаная і зацьверджаная агульным сходам гуртка, перадаецца ў тую ўстанову, з якой атрыманы сродкі, а копія справаздачы захоўваецца ў справах гуртка.

## IV. Агульныя сходы гуртка.

§ 10. Агульныя сходы гуртка склікаюцца праўленьнем з папярэднім пісьмовым паведамленьнем і ўзгадненьнем з сваім Школьным Саветам за 3 дні да сходу. Справы на агульным сходзе вырашаюцца простаю большасьцю галасоў.

§ 11. Агульны сход:

а) прымае новых членаў гуртка;

б) выбірае сяброў праўленьня і рэвізійнай камісіі;

в) зацьвярджае плян працы;

г) заслухоўвае справаздачы праўленьня;

д) заслухоўвае даклады адпаведна сваім мэтам і заданьням;

е) зацьвярджае грашовыя выдаткі і пастановы рэвізійнай камісіі;

ж) абгаварвае проекты аб зьменах у статуце, якія зацьвярджаюцца ў паложаным парадку.

§ 12. Агульны сход лічыцца правамоцным, калі прысутнічае ня менш паловы членаў гуртка.

### V. Праўленьне гуртка.

§ 13. Праўленьне гуртка абіраецца агульным сходам гуртка на тэрмін ня больш году ў вызначаным агульным сходам ліку членаў. Праўленьне са свайго складу вылучае старшыню, намесьніка і сакратара. Аб складзе праўленьня і ўсіх зьменах у ім паведамляецца савет данай установы.

§ 14. Праўленьне гуртка:

а) ажыцьцяўляе пастановы агульных сходаў;

б) кіруе гаспадарчымі справамі гуртка;

в) робіць справаздачу перад агульным сходам гуртка, а копію пасылае акруговаму таварыству ці раённаму;

г) робіць даклады аб дзейнасьці гуртка на пасяджэньні рады свае навучальнае ўстановы.

### VI. Рэвізійная камісія гуртка.

§ 15. Рэвізійная камісія абіраецца агульным сходам гуртка ў ліку ня менш 3-х асоб адначасна з абраньнем праўленьня.

§ 16. Рэвізійная камісія сочыць за выкананьнем ускладзеных на праўленьне абавязкаў, за правільнасьцю выдаткаў грашовых сродкаў, разьбірае скаргі на дзейнасьць праўленьня і справаздачу аб сваёй дзейнасьці дае агульнаму сходу гуртка і савету свае навучальнае ўстановы.

### VII. Ліквідацыя гуртка.

§ 17. Гурток можа быць ліквідаваны як загадам урадавых устаноў, так і пастановай агульнага сходу гуртка і савету свае навучальнае ўстановы.

§ 18. У выпадку ліквідацыі гуртка праўленьне прадстаўляе аб гэтым даклад савету сваёй навучальнай установы і копію яго пасылае праўленьню акруговага таварыства краязнаўства. Уся маёмасьць гуртка паступае пад загад свае навучальнае ўстановы.

---

ЗАЦЬВЯРДЖАЕЦЦА.
Наркамасьветы *Баліцкі.*
Заг. Агульн. Аддзелу *Савіч.*
№ 38, 15 студзеня 1927 г.

# СТАТУТ

## Таварыства Краязнаўства........................................
(назва вышэйшай школы).

### I. Мэты і задачы Таварыства.

§ 1. Таварыства Краязнаўства........................................ мае мэтай:
(назва вышэйшай школы)

а) зьбіраньне краязнаўчых матар'ялаў па Беларусі ў прыродна-географічным, культурна-гістарычным і соцыяльна-эканомічным кірунках і навуковую іх апрацоўку;

б) дасьледчую і навуковую апрацоўку ўжо сабранага краязнаўчага матар'ялу ў архівах, музэях і іншых установах;

в) пашырэньне вед, зьвязаных з задачамі Таварыства і популярызацыю краязнаўства сярод студэнтаў і шырокіх колаў насельнасьці.

§ 2. Для ажыцьцяўленьня паказаных ў § 1 заданьняў Таварыства:

а) організуе сходы, на якіх заслухоўвае, абгаварвае даклады аб мэтодах і выніках сваёй працы.

б) організуе лекцыі, вечарыны, дыспуты, даклады і да т. п.;

в) організуе нагляданьні, экспэдыцыі, экскурсіі;

г) дапамагае організацыі музэяў і габінэтаў свае школы;

д) дапамагае ў працы мясцовых краязнаўчых організацый;

е) зьбірае бібліотэчку адпаведна сваім заданьням;

ж) клапоціцца апублікаваньнем сваіх прац;

з) сваю дзейнасьць зьвязвае з мэтавай установкаю і заданьнямі навучальнае ўстановы паводле пляну працы апошняй і кіруецца ў сваёй працы программамі і паказаньнямі, выданымі ЦБК;

і) зносіцца з ЦБК і іншымі навуковымі краязнаўчымі організацыямі.

§ 3. Таварыства мае сваю пячатку з надпісам: „Беларуская Соцыялістычная Рэспубліка. Таварыства Краязнаўства........................................".

## II. Склад Таварыства.

§ 4. Членамі Таварыства зьяўляюцца:

а) заснаваўцы Таварыства ў ліку ня менш 10;

б) студэнты, профэсары, выкладчыкі і іншыя працаўнікі свае вышэйшае школы, падаўшыя аб гэтым пісьмовую заяву ў Праўленьне Таварыства з рэкомэндацыяй профэсіянальных організацый навучальнай установы ці 2-х сяброў таварыства і прынятыя агульным сходам.

§ 5. Кожны член Таварыства павінен весьці актыўную працу па выкананьні пастаўленых Таварыствам заданьняў і ажыцьцяўляць усе пастановы агульнага сходу і Праўленьня Таварыства.

§ 6. Сьпіс членаў Таварыства ў 1 экз. перадаецца ў Праўленьне вышэйшай школы, якое зацьвердзіла Таварыства.

§ 7. Член Таварыства можа быць выключаны са складу Таварыства па сваёй заяве аб гэтым, альбо толькі па пастанове агульнага сходу, прычым прычынай выключэньня ў гэтым выпадку можа быць учынак ці наогул дзейнасьць, якія падрываюць аўторытэт Таварыства.

## III. Сродкі Таварыства.

§ 8. Сродкі Таварыства складаюцца:

а) з членскіх узносаў і афяраваньняў;

б) з субсыдый дзяржаўных і грамадзкіх устаноў, аднаразовых альбо пастаянных;

в) з прыбыткаў ад продажы краязнаўчых выданьняў;

г) са збораў за ўваход на лекцыі, выстаўкі, вечарыны і г. д.

*Увага 1.* Велічыня членскіх узносаў вызначаецца агульным сходам Таварыства, прычым агульны сход можа звальняць ад выплаты членскіх узносаў тых членаў, якія ня могуць заплаціць іх.

*Увага 2.* Члены Таварыства, якія не заплацілі за поўгода вызначаных узносаў, лічацца выбыўшымі з ліку членаў Таварыства. Але яны зноў уваходзяць у Таварыства пасьля ўнясеньня належных узносаў бяз новага абраньня.

§ 9. Сродкі Таварыства выдаюцца Прэзыдыумам па каштарысах разгледжаных Праўленьнем і зацьверджаных агульным сходам. Справаздачы аб выдатках, разгледжаныя і зацьверджаныя Праўленьнем Таварыства, перадаюцца ў тую ўстанову, з якой атрыманы сродкі, а копіі справаздач захоўваюцца ў справах Таварыства.

## IV. Агульныя сходы Таварыства.

§ 10. Сходы Таварыства склікаюцца Праўленьнем Таварыства з папярэднім пісьмовым паведамленьнем і ўзгадненьнем з праўленьнем школы за тры дні да сходу і падзяляюцца на чарговыя і загадныя.

§ 11. Чарговыя сходы лічацца адбытымі пры ўсякім ліку прысутных членаў, а загадныя пры прысутнасьці акрэсьленага кворуму, які адзначаецца Праўленьнем у павестках.

§ 12. Чарговыя сходы склікаюцца Праўленьнем для заслухоўваньня і абгаварваньня навуковых дакладаў і пытаньняў, зьвязаных з навуковай дзейнасьцю Таварыства, і лічацца адчыненымі.

§ 13. Загадныя агульныя сходы склікаюцца Праўленьнем альбо па пастанове рэвізійнае камісіі, ці паводле заявы ня меней 10 членаў Таварыства.

§ 14. Агульныя загадныя сходы:

а) выбіраюць Праўленьне Таварыства і рэвізійную камісію;

б) прымаюць новых членаў Таварыства;

в) разглядаюць і зацьвярджаюць справаздачы Праўленьня аб дзейнасьці Таварыства і пастановы рэвізійнае камісіі;

г) разглядаюць і зацьвярджаюць пляны далейшай працы Таварыства, якія ўносіць Праўленьне.

д) выбіраюць дэлегатаў на Ўсебеларускую Краязнаўчую Конфэрэнцыю;

е) вызначаюць патрэбныя сэкцыі і сталыя камісіі Таварыства;

ж) вызначаюць велічыню членскіх узносаў;

з) зацьвярджаюць проекты каштарысаў;

і) выключаюць членаў Таварыства;

к) абгаварваюць проекты аб зьменах у статуце Таварыства;

*Увага 1.* Прынятыя Таварыствам зьмены ў статуце зацьвярджаюцца Праўленьнем навучальнай установы.

л) абгаварваюць пытаньне аб зачыненьні Таварыства.

§ 15. Усе справы на сходах вырашаюцца простай большасьцю галасоў прысутных членаў Таварыства, апрача пытаньня аб яго зачыненьні, для вырашэньня якога патрэбна большасьць у $^{2}/_{3}$ галасоў прысутных членаў. Пры роўнасьці галасоў пытаньне лічыцца адхіленым.

## V. Праўленьне Таварыства.

§ 16. Праўленьне Таварыства абіраецца агульным сходам Таварыства (загадным) на тэрмін ня больш году ў вызначаным агульным сходам ліку членаў. Праўленьне са свайго складу вылучае Прэзыдыум у складзе 5 асоб, куды ўваходзяць: старшыня, намесьнік, сакратар, скарбнік і член Прэзыдыуму. Аб складзе Праўленьня і ўсіх зьменах у ім паведамляецца праўленьне данай вышэйшай школы.

§ 17. Праўленьне Таварыства:

а) ажыцьцяўляе пастановы агульных сходаў і конфэрэнцый;

б) кіруе дзейнасьцю сэкцый і камісій Таварыства;

в) кіруе адміністрацыйна-фінансавымі і гаспадарчымі справамі Таварыства;

г) робіць справаздачу перад агульным сходам Таварыства, а копію пасылае ЦБК;

д) робіць справаздачы аб сваёй дзейнасьці праўленьню навучальнай установы і інформуе аб сваёй працы кіруючыя студэнцкія організацыі навуч. установы.

### VI. Рэвізійная камісія Таварыства.

§ 18. Рэвізійная камісія Таварыства абіраецца агульным сходам Таварыства ў ліку ня менш 3-х асоб адначасна з абраньнем Праўленьня.

§ 19. Рэвізійная камісія сочыць за выкананьнем ускладзеных на Праўленьне абавязкаў, за правільнасьцю выдаткаў грашовых сродкаў, разьбірае скаргі на дзейнасьць Праўленьня і справаздачу аб сваёй працы дае агульнаму сходу Таварыства.

### VII. Ліквідацыя Таварыства.

§ 20. Таварыства можа быць зачынена як загадам урадавых установаў, так і пастановай агульнага сходу Таварыства.

§ 21. У выпадку ліквідацыі Таварыства Праўленьне прадстаўляе аб гэтым даклад праўленьню вышэйшай навучальнай установы і копію яго пасылае ЦБК.

§ 22. Уся маёмасьць, што належала зачыненаму Таварыству, паступае пад загад вышэйшай школы, пры якой існавала Таварыства.

Заснаваўцы:

# П. М. ЯРЭМЕНКА.

*(Нэкролёг).*

У асобе Пётры Мітрафанавіча Ярэменкі, які памёр 27 лютага г. г., мы страцілі аднаго з выдатных краязнаўцаў на Гомельшчыне і аднаго з самых шчырых працаўнікоў у галіне народнай асьветы. Пётра Мітрафанавіч паходзіў з сялян сяла Дунайца Глухаўскага павету, Чарнігаўскай губэрні. Пасьля сканчэньня унівэрсытэту 1-га кастрычніка 1887 году быў назначаны выкладчыкам гісторыі ў Новазыбкаўскім рэальным вучылішчы і ад таго ўвесь час вёў пэдагогічную працу і адначасна з гэтым працаваў у навуковай і грамадзкай галіне. У пачатку 1904 году, калі П. М. прачытаў шэраг агульна-адукацыйных лекцый па палітычнай геаграфіі, пасьля чаго чарнігаўскім губарнатарам быў зроблены даклад папячыцелю Кіеўскага вуч. вокругу аб нядобранадзейнай чыннасьці Ярэменкі, яму прышлося эвакуавацца ў Палтаўскае рэальнае вучылішча. Але і тут лёс не шкадаваў яго. У 1907 годзе ён быў звольнены з пасады настаўніка з прычыны прыцягненьня да адказнасьці за працу ў Сялянскім Саюзе. Па прыгаворы суду ён з паловы 1908 году да канца 1909 году прасядзеў у Палтаўскай і Міргарадзкай турмах. З таго часу пачалося яго бадзяньне і толькі ў 1917 годзе ён зноў вярнуўся ў Новазыбкаў, куды быў запрошаны сходам бацькоў для загадваньня рэальным вучылішчам. З 1918 году пачалася яго праца ў савецкіх школах. У 1919-20 г. прымаў удзел у арганізацыі вячэрняй школы для рабочых пры фабрыцы „Волна Революции", а з лістапада 1921 г. да канца 1923 г. загадваў школьным пададдзелам Новазыбкаўскага Аддзелу Народнай Асьветы. У апошнія гады ён быў выкладчыкам політэхнікуму, школы 2-й ступені і фабзавуча. Не пералічваючы падрабязна ўсіх яго іншых прац, мы спынімся толькі на яго працах у галіне краязнаўства. Яшчэ ў першыя гады свайго знаходжаньня ў Новазыбкаве ён заняўся археолёгічным дасьледваньнем Новазыбкаўскага і суседняга Сураскага паветаў, вынікам чаго зьявілася яго праца „Радимические курганы" (Зап. Русск. О-во, т. VIII). Потым, па даручэньні Археолёгічнай камісіі ім былі зроблены раскопкі ў Бранскім і Елецкім паветах, Арлоўскай губэрні (Зап. Русск. Арх. О-ва, т. XIII). У 1924 годзе ён даў нарыс „Восточные уезды Гомельской губернии в прошлом" (Зборн. матар. Гом. губ. курсаў па перападрыхтоўцы школьных працаўнікоў у г. Новазыбкаве). Апошняю яго працаю быў кароткі географічна-экономічны нарыс „Новозыбковский уезд" з Новазыбкаўскага Бюро Краязнаўства ў 1925 годзе. Апошнюю з названых прац П. М. Ярэменка скончыў летам 1925 году, калі быў ужо хворым.

Запаленьне ўнутранога вуха, якое выклікала параліч і плямісты тыфус былі непасрэднаю прычынаю сьмерці.

Так скончыў свой жыцьцёвы шлях гэты няўтомны і ціхі працаўнік, які карыстаўся агульнаю павагаю сваіх равесьнікаў і тых маладых таварышоў, якія ішлі яму на зьмену. Пасьля Пётры Мітрафанавіча засталіся незабясьпечанымі старая-ўдава і дачка-студэнтка.

**З. Струнін.**

# ХРОНІКА.

## II Усебеларускі Краязнаўчы Зьезд*).

10-13 лютага г. г. ў памяшканьні Інбелкульту адбыўся II Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд. На Зьезд зьехалася з усіх краязнаўчых таварыстваў і гурткоў БССР 187 дэлегатаў, з іх з рашучым голасам 155 і дарадчым—32; ад раёнаў—82, ад акруговых краязнаўчых організацый—34; ад вузаў і тэхнікумаў—21, ад цэнтральных устаноў—50 дэлегатаў. Па партыйнасьці: членаў і кандыдатаў—41, членаў КСМ—6 і беспартыйных 140. Па нацыянальнасьці: беларусаў—150, яўрэяў—21, палякаў-3, расійцаў — 6, украінцаў—2 і іншых—5.

Асноўнымі пытаньнямі, разгледжанымі на Зьезьдзе, былі: 1) замацаваньне організацыйных формаў краязнаўчай сеткі, 2) высьвятленьне пэрспэктыў далейшай працы ў галіне ўсебаковага вывучэньня краю, 3) узмацненьне краязнаўчай працы сярод нацменшасьцяй БССР і 4) наладжаньне кіраўніцтва ў школьных краязнаўчых організацыях, асабліва сярод студэнцтва.

### РЭЗОЛЮЦЫЯ

**па дакладах: „Справаздача Ц.Б. Кр. і пэрспэктывы далейшай яго працы", „Дзейнасьць краязнаўчай сеткі БССР" і „Дасьледваньне Асіпавіцкага раёну".**

1. Ад I да II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду краязнаўчы рух БССР, выкліканы ўмовамі і патрэбамі надзвычайнага ўзросту гаспадарча-культурнага будаўніцтва і яго соцыялістычных элемэнтаў, пад ідэёвым кіраўніцтвам Комуністычнай партыі, становіцца запраўды шырокім грамадзкім рухам навуковага вывучэньня мясцовага краю ў мэтах дапамогі соцыялістычнаму будаўніцтву, паступова ўцягваючы ў гэтую справу шырокія масы працоўных.

2. Дзейнасьць Цэнтральнага Бюро Краязнаўства і краязнаўчай сеткі нормальна разьвіваецца ў кірунку ажыцьцяўленьня пастаноў I Зьезду, што сьцьвярджаецца агульным узростам членаў з 3.738 да 7.073, узростам удзелу членаў партыі з 7 да 10%, Комсамолу з 4 да 9% і больш масавым характарам організацыі.

3. У організацыйным кірунку канчаткова вывучаны і ўсталяваны наступныя формы краязнаўчага руху: гурток, раённае таварыства і акруговае і адпаведна: школьны гурток, гурток пры тэхнікумах і таварыства пры вышэйшай школе; для ўсіх памянёных організацый укладзены і зацьверджаны статуты з адзнакаю ўзаемасувязі організацый.

4. У галіне навуковай вывучэньне раёнаў дала значныя вынікі як навуковага, так і організацыйна - мэтодычнага характару: ёсьць некалькі апісаньняў раёнаў, высьветлены мэтоды організацыі вывучэньня, заснаваны ў некаторых раёнах музэі і ва ўсіх раёнах заснаваны краязнаўчыя бібліотэкі.

5. Цэнтральным Бюро Краязнаўства, апрача сталага кіраваньня справаю пісьмова, інструкцыямі, мэтодычнымі паказаньнямі і праз часопіс „Наш Край", абслужаны жывым інструктажам у плянавым парадку ўсе акруговыя таварыствы і ў сярэднім па два раённых таварыствы па акрузе.

6. Матар'ялы мясцовых краязнаўчых організацый, якія дасылаліся ў Цэнтральнае Бюро Краязнаўства, апошнім падлічваліся і перадаваліся адпаведным сэкцыям ці камісіям Інстытуту Беларускае Культуры для апрацоўкі, у выніку чаго ў апошнія часы зьяўляліся абгляды іх у друку ў „Нашым Краі" з мэтодычнымі заўвагамі.

7. „Наш Край" да II Зьезду стаў запраўды кіраўнічым і аб'ядноўваючым органам краязнаўчага руху, зьмяшчаючы мэтодычныя матар'ялы і працы месц.

8. Побач з гэтым прыходзіцца адзначыць шмат недахопаў у працы, якія заключаюцца ў наступным:

а) слабая популярызаванасьць краязнаўства сярод шырокіх мас працоўных, а значыць і слабое ўцягненьне іх у дзейнасьць краязнаўчай сеткі;

б) да гэтага часу ня створана навакол краязнаўства належная грамадзкая думка;

в) не заснавана належная матар'яльная база;

г) не праведзены сталы падлік краязнаўчых сіл і ўстаноў;

д) не хапае інструкцыйнага і мэтодычнага матар'ялу;

е) няпоўная і несваячасовая апрацоўка дасылаемага ў ІБК матар'ялу, а таксама несваечасовае паведамленьне аб лёсе прысылаемых матар'ялаў у ЦБК.

ж) маса студэнцтва вельмі слаба ўцягнута ў працу;

з) некаторыя організацыі не разгарнулі сваёй дзейнасьці;

і) не разгарнулася экскурсійна-экспэдыцыйная праца організацый;

к) вытворчая праца організацый толькі распачалася;

*) Рэзолюцыі па школьным краязнаўстве друкуюцца ў час. „Асьвета" № 2.

л) слаба інформуецца друк аб працы краязнаўчай сеткі;

м) не разгарнулася належным чынам праца па організацыі раймузэяў і зборы колекцый;

н) адсутнічае інвэнтарызацыя маёмасьці організацый;

о) „Наш Край“ выходзіць нерэгулярна;

п) ня ўсюды ёсьць належная сувязь краязнаўчых організацый з установамі і організацыямі, якія вядуць вывучэньне краю;

р) на практыцы зьмешваецца школьнае програмнае краязнаўства з агульным.

Адзначаючы дасягненьні як у організацыйна-мэтодычным кірунку, так і ў навукова-дасьледчым, II Краязнаўчы Зьезд на далейшае лічыць неабходным:

**У галіне організацыйнай.**

1) Вывучаныя, праверапыя на практыцы і ўсталяваўшыяся організацыйныя формы краязнаўчага руху—сельсавецкія гурткі, раённыя і акруговыя таварыствы і адпаведныя школьныя організацыі замацаваць, перавёўшы іх працу на грунт прынятых і зацьверджаных адпаведнымі органамі статутаў, удасканаліўшы сэкцыйны падзел організацый. Але разам з тым ня спыняць у далейшым вывучэньня і ўдасканаленьня формаў краязнаўчага руху.

2) Усім краязнаўчым організацыям узмацніць популярызаваньне краязнаўства з тым, каб ідэю краязнаўства прасунуць у шырокія гушчы працоўнай масы з мэтай уцягненьня яе ў справу па непасрэдным вывучэньні і дасьледваньні краю.

3) Узяць цьвёрды курс на організацыю тэрыторыяльных сельсавецкіх гурткоў, як першапачатковых краязнаўчых організацый па вывучэньні раёнаў.

4) З мэтай накіраваньня пытаньняў краязнаўства на правільны шлях і дасягненьня належных вынікаў, асабліва ў справе дасьледваньня сучаснасьці, гаспадарчага і экономічнага становішча вёскі павялічыць лік членаў краязнаўчых організацый за кошт членаў комсамольскіх, профэсіянальных організацый, піонэраў і рабоча-сялянскага актыву захаваўшы пры гэтым поўнасьцю прынцып добраахвотнасьці.

5) Узяць цьвёрды курс на організацыю раённых краязнаўчых музэяў з тым, каб зрабіць іх выхаваўчымі асяродкамі, як для насельніцтва, так і для школ, а таксама на заснаваньне сталых раённых кразнаўчых бібліотэчак пры іх і на організацыю бібліографічнай працы.

6) Наладзіць справу раймузэяў такім чынам, каб яны адбівалі ўсё жыцьцё раёну і прыцягвалі да сябе ўвагу шырокіх працоўных мас і органаў улады, якія, бачачы яго дасягненьні і карысьць, будуць падтрымліваць яго матар'яльна.

7) Усякага роду дасягненьні ў краязнаўчай справе як з боку таго ці іншага дасьледу ці організацыі музэю краязнаўчыя організацый высьвятляюць у пэрыодычным друку.

8) Дзеля высьвятленьня стану краязнаўчых організацый і правільнага кіраваньня справай паставіць належным чынам падлік членаў, асабліва актыву вынікаў працы навукова-краязнаўчых устаноў, паводле ўстаноўленых ЦБК формаў, падлік літаратуры і об'ектаў абсьледваньня.

9) Перавесьці працу ўсёй краязнаўчай сеткі на плянавы кірунак, паклаўшы ў аснову працы выкананьне паасобных заданьняў па выбары членаў.

10) Зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўцягненьне ў краязнаўчую справу нацыянальных меншасьцяй і на вывучэньне і ўдасканаленьне формаў і мэтодаў працы праз краязнаўчыя сэкцыі нацменшасьцяй пры ЦБК і акруговых таварыствах.

11) Праз організаваныя пры ЦБК камісіі школьна-краязнаўчую і студэнцкую наладзіць накіраваньне працы школьна - краязнаўчых гурткоў у навучальных установах з тым, каб у выніку працы з членаў гэтых гурткоў выходзілі актыўныя дасьледчыкі і кіраўнікі гурткоў.

12) У мэтах падняцьця кваліфікацыі і падрыхтоўкі краязнаўцаў лічыць пажаданым організацыю краязнаўчых студый, курсаў, сэмінарыумаў у акруговых цэнтрах, даручыўшы ЦБК апрацаваць адпаведныя програмы і мэтоды працы.

**У галіне навукова-дасьледчай.**

13) Асноўным пытаньнем кожнай раённай краязнаўчай організацыі ў галіне навукова-дасьледчай лічыць усебаковае вывучэньне і дасьледваньне раёну па пэўным пляне, апрацаваным раённым таварыствам; сельсавецкія гурткі робяць вывучэньне свайго сельсавету па пляне, узгодненым з раённым таварыствам; першачарговай працай павінна быць вывучэньне гаспадарча - экономічнага боку і быту.

14) Каб мець прыклад, як рабіць вывучэньне раёну, даручыць ЦБК закончыць распачатае ўзорнае дасьледваньне і вывучэньне Асіпавіцкага раёну, а матар'ялы выдрукаваць не пазьней восені гэтага году; ІБК павінен усямерна дапамагаць своечасоваму выхаду гэтага дасьледваньня; таксама прапанаваць акруговым таварыствам правясьці вывучэньне і дасьледваньне вылучаных імі для гэтай мэты раёнаў з тым, каб гэтую працу друкаваць.

15) Адначасна з вывучэньнем раёну ўсе краязнаўчыя організацыі дапамагаюць у працы ІБК яго сэкцыям ці камісіям—шляхам допісаў, запаўненьня тых ці іншых анкет, програм, зьбіраньня навуковых матар'ялаў і інш.; у мэтах коордынаваньня справы ўсе матар'ялы, як камісіямі, так і краязнаўчымі організацыямі дасылаюцца праз ЦБК.

16) На бліжэйшы пэрыод у плян працы мясцовых краязнаўчых організацыі, паводле заданьняў ІБК, павінны ўвайсьці: а) сэзон-

ныя фэнолёгічныя і мэтэоролёгічныя назіраньні; б) вывучэньне бюджэту часу селяніна; в) вывучэньне хатніх рамёстваў; г) зьбіраньне вуснай народнай творчасьці; д) зьбіраньне слоўнікавага матар'ялу; е) апісаньне паселішча; ж) апісаньне помнікаў старажытнасьці і ўкладаньне археолёгічных карт і інш.

17) ЦБК вывучыць пытаньне аб патрэбе тых ці іншых анкет ці програм, згодна запатрабаваньням месц і краязнаўчай справы і выдаць іх з тлумачальнымі мэтодычнымі заўвагамі.

18) Краязнаўчыя організацыі вядуць сваю працу па вывучэньні краю ў сьціслай сувязі з органамі Дзяржплану, статыстычнымі, коопэратывамі і іншымі, абменьваючыся дасьледчымі матар'яламі.

19) Усе экспэдыцыі, якія пасылаюцца ІБК на месцы для досьледаў, увязваюць сваю дзейнасьць з мясцовай краязнаўчай організацыяй, каб даць апошняй магчымасьць скарыстаць вынікі гэтых досьледаў ЦБК сваечасова паведамляе месцы аб экспэдыцыях.

20) Зьвярнуць асаблівую ўвагу ўсіх краязнаўчых організацый на выяўленьне найбольш каштоўных і цікавых месц у БССР з мэтай наладжаньня экскурсій, ЦБК выдаць апісаньне гэтых месц і маршрутаў, асаблівую ўвагу зьвярнуць на організацыю экскурсій па сваім краі.

21) ЦБК дабіцца сваечасовай і поўнай апрацоўкі матар'ялаў з месц з тым, каб вынікі працы зьмяшчаць сваечасова ў друку.

22) ЦБК выпрацаваць парадак, якія матар'ялы пасылаюцца організацыямі ў ІБК і якія скарыстоўваюцца на мясцох, а таксама сваечасова паведамляць месцы аб атрыманьні дасылаемых у ЦБК матар'ялаў.

23) Даручыць ЦБК узьняць пытаньне перад адпаведнымі органамі аб матар'яльнай дапамозе краязнаўчым організацыям.

24) Даручыць ЦБК клапаціцца, каб Дзяржаўны музэй дапамагаў мясцовым краязнаўчым Музэям, дасылаючы дублеты і фотографіі.

25) Узяць курс на пэўнае вызначэньне месца ЦБК пры Інстытуце Беларускае Культуры і на ўвядзеньне інстытуту корэспондэнтаў у ЦБК.

26) Даручыць ЦБК зьвярнуць асаблівую ўвагу на вывучэньне краязнаўчай працы у Гомельскай і Рэчыцкай акругах, узяўшы кірунак на падраўніваньне іх да стану краязнаўчых організацый БССР.

### У галіне мэтодычна-кіраўнічай.

27) ЦБК наладзіць сталае мэтодычнае кіраўніцтва краязнаўчымі організацыямі, дзеля чаго: а) апрацаваць на падставе практыкі дасьледваньня Асіпавіцкага раёну прыкладны плян вывучэньня і дасьледваньня раёнаў; б) у „Нашым Краі" зьмяшчаць больш популярных артыкулаў організацыйнага і мэтодычнага зьместу; в) папоўніць краязнаўчыя бібліотэчкі новай літаратурай; г) пасіліць жывы інструктаж раённых організацый, узгадняючы пасылку інструктароў у тыя ці іншыя раёны з праўленьнямі акруговых таварыстваў краязнаўства.

28) ЦБК прыняць усе меры да рэгулярнага і сваечасовага выхаду часопісу „Наш Край", ні ў якім разе не дапушчаючы скарачэньня яго і выхаду падвойных нумароў.

29) Прымаючы пад увагу вялікую колькасьць матар'ялаў, якія дасылаюцца з месц для часопісу, і вялікую вартасьць некаторых з іх, лічыць неабходным выданьне іх паасобнымі краязнаўчымі зборнікамі.

30) Лічыць мэтазгодным выданьне мясцовымі краязнаўчымі організацыямі рукапісных краязнаўчых часопісаў, у якіх зьмяшчаць сабраныя і апрацаваныя організацыямі матар'ялы.

31) Абавязаць мясцовыя краязнаўчыя організацыі прыняць усе неабходныя меры да популярызацыі часопісу „Наш Край" з мэтай шырокага яго распаўсюджваньня.

32) Даручыць ЦБК ня спыняць дармовай пасылкі часопісу „Наш Край" краязнаўчым організацыям на мясцох.

33) Прымаючы пад увагу, што дзеля абмежаванасьці сродкаў нельга было працягнуць Зьезд яшчэ на некалькі дзён і праца павінна была весьціся пасэкцыйна, што не дало магчымасьці ўсім дэлегатам Зьезду заслухаць усе даклады, якія зьяўляюцца каштоўным кіруючым матар'ялам, прапанаваць ЦБК прыняць усе меры, каб у месячны тэрмін выдаць працы II Усебелар. Краязнаўчага Зьезду.

## Краязнаўчая праца і студэнт-мэдык.

7 студзеня г. г. у анатомічнай залі Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту адбыўся сход Мэдычнай сэкцыі Цэнтральнага Праўленьня Краязнаўства пры БДУ. На сходзе д-р Ів. Цвікевіч, намесьнік старшыні Мэдсэкцыі Інстытуту Беларускае Культуры, прачытаў даклад на тэму „Краязнаўчая праца і студэнт-мэдык".

Адзначыўшы вялізарнае значэньне краязнаўчай працы для экономічнага і культурнага адраджэньня БССР, дакладчык падрабязна выясьніў мэты і заданьні краязнаўчай работы ў галіне мэдыцынскай. Тут увага мэдыка павінна быць накіравана на тое, каб сваёй краязнаўчай працай дапамагаць, папершае, досьледам па аздараўленьні насельнасьці Беларусі, падругое, досьледам па барацьбе з соцыяльнымі хваробамі, патрэцяе— каб дапамагчы справе набліжэньня мэдыцынскай навукі да масы (популярн. і навук. літаратуры на беларускай мове) і ўрэшце, каб зрабіцца актыўным удзельнікам тых навукова-мэдыцынскіх досьледаў, якія ўжо пачаты, або самім распачаць свае орыгінальныя досьледы.

Профіляктычны ўхіл, які цяпер пануе ў мэдыцыне, вымагае ад мэд. працаўніка дасканальнага веданьня свайго краю: трэба ве-

даць клімат, глебу, дынаміку насельніцтва, ведаць умовы хатняга быту, умовы працы на фабрыцы, у майстэрні і на полі і г. д. Ня ведаючы мясцовых умоў, нельга весьці санітарнай пропаганды і г. д. Далей д-р Цвікевіч спыніўся на тым, якую конкрэтна карысьць можа атрымаць студэнт-мэдык, які будзе займацца краязнаўствам. Кожны краязнаўца, які самастойна распрацоўвае тое ці іншае пытаньне або нават толькі зьбірае матар'ялы для больш шырокіх навуковых прац—праз гэтае самае навучаецца самастойна навукова мысьліць, прывучаецца да навуковай самадзейнасьці, набывае і тыя тэхнічныя навыкі, якія так патрэбны кожнаму навуковаму працаўніку.

Апроч таго, кожная нават невялікая краязнаўчая праца—гэта ёсьць *арыгінальная навуковая праца* і для будучага навук. працаўніка гэта мае таксама не малое значэньне.

Пад канец дакладчык казаў аб літаратурных крыніцах па краязнаўству, прычым адзначыў у першую чаргу „Наш Край", як кіраўнічы орган, а таксама спэцыяльна для мэдыкаў „Беларускую Мэдычную Думку", дзе ёсьць шмат артыкулаў краязнаўчага значэньня. Дакладчык падкрэсьліў яшчэ вялізарнае значэньне для кожнага краязнаўца—трыманьне жывой сувязі з ЦБ Краязнаўства ІБК, а для мэдыкаў, апроч таго, з Мэдсэкцыяй Інбелкульту, якія заўсёды гатовы дапамагчы кожнаму гуртку і паасобнаму таварышу сваёй радай, літаратурай, а часам нават сродкамі, калі для гэтага ёсьць магчымасьць.

## Краязнаўчы гурток пры Гідротэхнікуме.

З пачатку бягучага вучэбнага году студэнтамі Гідротэхнікуму організованы краязнаўчы гурток пад кіраўніцтвам настаўніка Пяткевіча. У гурток запісалася 41 чалавек. На організацыйным сходзе было абрана бюро гуртка, абгаворана пытаньне аб задачах і працы гуртка і зацьверджаны плян працы на I поўгодзьдзе. Агульныя сходы гуртка будуць адбывацца штотыдзень, на якіх будуць заслухоўвацца даклады як студэнтаў, так і настаўніка, а разам з тым і прадстаўнікоў ЦБК.

У зьвязку з тым, што ў Гідротэхнікум зьехаліся студэнты ад усіх краёў Беларусі і што студэнты на летнюю практычную працу разьяжджаюцца па розных глухіх кутках Рэспублікі, можна спадзявацца, што ўдзел іх у краязнаўчай працы будзе асабліва карысным.

**Бюро гуртка.**

## 3-я Аршанская акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя.

18—19 сьнежня мінулага года ў г. Воршы адбылася 3-я Акруговая Краязнаўчая Конфэрэнцыя, на якую зьявіліся дэлегаты ад усіх раёнаў. Конфэрэнцыя ў час адчыненьня паслала прывітаньне Акруговай Партыйнай Конфэрэнцыі і прыняла наступны парадак дня: 1) Справаздача аб дзейнасьці Праўленьня Аршанскага Акруговага Т-ва за час ад 25 красавіка 1926 г. па 1 сьнежня 1926 г.—даклад сакратара т. Васілеўскага; 2) Даклад рэвізійнай камісіі; 3) Інформацыя проф. Лунгерсгаўзена аб дзейнасьці Горацкага Навуковага Т-ва па вывучэньні Беларусі; 4) Справаздача Дубровенскага Райтаварыства і садаклад т. Цэхановіча; 5) Справаздача Кохаsucceeded наўскага Райтаварыства; 6) Даклад аб працы Слоўнікавай Камісіі пры Акруговым Т-ве; 7) Чарговыя задачы краязнаўчай працы на Беларусі—даклад прадстаўніка ЦБК; 8) Плян далейшай працы Акруговага Т-ва; 9) Бягучыя справы.

Згодна справаздачы Праўленьня Акруговага Т-ва праца праўленьня і сэкцый акруговага т-ва за час ад 25 красавіка да 1 сьнежня заключалася ў наступным:

### 1. Праца Праўленьня.

За справаздачны пэрыод адбылося 9 пасяджэньняў Праўленьня Акруговага Т-ва, два агульныя сходы і адна акруговая конфэрэнцыя. Разгледжана 90 пытаньняў, з якіх: культурна-гістарычных—35, прыродазнаўчых—15, агрономічных — 20, музэйна-архіўных — 10 і тэрмінолёгічных—10. Лік членаў краязнаўчых т-ваў па акрузе ўзрос да 930 членаў, але актыў невялікі. Зараз па акрузе існуе 9 раённых т-ваў, 17 гуртkoў пры школах сямігодках і рабфаку. Пры Акруговым Т-ве працавала 3 сэкцыі: этнографічна-гістарычная, прыродна-экономічная, сэкцыя яўрэйскай культуры. Праўленьнем Акруговага Т-ва за гэты час праведзена 5 раённых конфэрэнцый з папярэднім абсьледваньнем працы праўленьня раённых т-ваў. Заслухана справаздача аб працы 2-х раённых т-ваў. У шэрагі краязнаўчых організацый пачалі ўцягвацца члены іншых саюзаў, сяляне, комсамол, піонэры. Завязана шчыльная сувязь з Акруговай Плянавай Камісіяй і па даручэньні яе праведзена 2 досьледы. Сувязь з раённымі т-вамі галоўным чынам пісьмовая: на выезды і жывое кіраўніцтва не хапае сродкаў. Больш-менш шчыльная сувязь падтрымліваецца з Горацкай С.-Г. Акадэміяй, Інбелкультам, Акадэміяй Навук СССР і Украінскай Акадэміяй Навук. Праўленьнем праведзены абмен выданьнямі з краязнаўчымі організацыямі Масквы, Ленінграда, Кіева, Харкава і беларускімі краязнаўчымі організацыямі.

### 2. Праца этнографічна-гістарычнай сэкцыі.

Сэкцыяй праведзены вучот помнікаў старажытнасьці, мастацтва і быту. Зарэгістравана больш 10 курганоў і гарадзішч, руіны аднаго замку, пяць замчышч, 10 цэркваў і кляштараў. Складаньне археолёгічнай карты і помнікаў старажытнасьці яшчэ не закончана, бо некаторыя раённыя т-вы і РВК да

гэтага часу ня прыслалі неабходных матар'ялаў. Гістарычны заказьнік каля в. Чаркасава астаўбаваны на плошчы 12½ дзесяцін і тады ўжо праведзена навуковая экспэдыцыя. Летам былі абсьледваны членамі ІБК і акруговага т-ва пячоры на левым беразе Дняпра. Праведзена концэнтрацыя архіўных матар'ялаў. Запісана больш 5.000 слоў для слоўніка Аршанскай акругі і сабрана шмат сшыткаў з народнымі песьнямі, прыказкамі і прыпеўкамі. Усё гэта накіравана ў Цэнтральнае Бюро Краязнаўства. Сэкцыяй вывучаецца гісторыя Аршаншчыны і зараз гісторыя Воршы і мястэчак даведзена да XVII сталецьця.

**3. Праца прыродна-экономічнай сэкцыі.**

Сэкцыя ўсю сваю працу сконцэтравала ў летні час вакол с.-г. музэю. Праводзіліся фэнолёгічныя назіраньні, складзены весткі аб зацьвітаньні 140 відаў расьлін Аршанскае акругі, гэрбары і вялося вывучэньне птушак акругі. Вывучэньне карысных выкапняў і мінэральных крыніц прывяло к адшуканьню жалезнай руды ў Аршанскім, Круглянскім, Багушэўскім і Ляднянскім раёнах, залежай охры і крэйды ў Дрыбінскім раёне і розных глін у Дубровенскім, Ляднянскім і Копыскім раёнах. Па дасьледаваньні тэхнікі сялянскае гаспадаркі мала зроблена. На гэту тэму заслуханы толькі адзін даклад на агульным сходзе Т-ва і 10 запоўненых анкет пераслана ў ІБК і навуковаму т-ву ў Горках.

**4. Праца сэкцыі яўрэйскай культуры.**

Сэкцыяй распачата праца па зьбіраньні помнікаў яўрэйскай старажытнасьці на Аршаншчыне. Пачалося вывучэньне Яўрэйскіх колёній на Аршаншчыне і гісторыі яўрэйскай асьветы і рэволюцыйнага руху сярод яўрэяў Аршаншчыны.

**5. Праца раённых т-ваў.**

З раённых т-ваў лепш за ўсіх працавала Горацкае і Ляднянскае Т-вы. Сярэдне працавалі Багушэўскае і Талачынскае. Іншыя раённыя т-вы не пераджылі яшчэ свайго організацыйнага пэрыоду. Больш за ўсё раённыя т-вы вядуць зьбіраньне фольклёру і слоўнікавага матар'ялу. У гэтым напрамку на першым месцы стаіць Ляднянскае Т-ва, якое дало запісы 900 слоў і 1000 песень, баек, прыпевак. Засноўваюцца раённыя краязнаўчыя музэі і шмат знаходак, асабліва скарбаў, прыслана раёнамі ў акруговы музэй.

**6. Краязнаўчая акруговая бібліотэка.**

Бібліотэка налічвае да 200 кніжок і брошур. Ёсьць усе працы па беларусазнаўству, апісаньне Магілеўскай губэрні і часопісы: „Краеведение", „Наш Край" і іншыя пэрыодычныя выданьні розных краязнаўчых організацый.

Справаздачны даклад праўленьня акруговага т-ва выклікаў ажыўленыя спрэчкі, у якіх прынялі ўдзел усе дэлегаты.

Пасьля гэтага дакладу конфэрэнцыя з зацікаўленасьцю выслухала інформацыю проф. Лунгерсгаўзена аб дзейнасьці Горацкага Навуковага т-ва па вывучэньні Беларусі. Докладчык у кароткіх рысах пазнаёміў конфэрэнцыю з працай т-ва за час з траўня месяца па 1 сьнежня. Навуковае т-ва мае тры сэкцыі: лясную, прыродна-агрономічную і зямляўпарадкавальную. За азначаны пэрыод на пасяджэньнях т-ва зроблена да 20 навуковых паведамленьняў, прычым некаторыя з іх маюць значэньне, якое выходзіць за межы СССР. Такім, напр., зьяўляецца паведамленьне аб паверцы тэорыі адноснасьці. Навуковых дакладаў за гэты час т-ва заслухала 9, напр., даклад Бойка аб умовах жыцьця беларусаў на Дальнім Усходзе, даклады проф. Васількоўскага і Салаўёва аб іх падарожы на Дальні Ўсход, даклад проф. Кайгародава і г. д. Т-ва мае свой орган друку, пагэтаму са складу т-ва вылучана рэдакцыйная камісія. Ужо вышаў у сьвет зборнік прац т-ва. У далейшым т-ва мае намер выдаць зборнік пад загалоўкам „Горацкі раён". Тут будуць зьмешчаны артыкулы, якія маюць дачыненьне наагул да Аршаншчыны, напр. аб вывучэньні падземных вод, аб фіксацыі экзотычных відаў расьлін, аб тэхніцы зямляўпарадкаваньня. Навуковае т-ва ня вузка спэцыяльнае. Яно мае ў сваім складзе і сялян-дасьледчыкаў. Т-ва трымае непасрэдную сувязь з ЦБК, якое абяцала падтрымліваць т-ва ў яго досьледах, узамен чаго т-ва будзе дапамагаць інформацыямі, інструкцыямі, програмамі і пасылкай артыкулаў членаў т-ва ў часопіс „Наш Край".

Справаздача аб дзейнасьці Дубровенскага Райтаварыства была зьнята з абвесткі дня і конфэрэнцыя заслухала даклад т. Цэхановіча, які па даручэньні акруговага т-ва праводзіў Дубровенскую раённую краязнаўчую конфэрэнцыю і наогул наладжваў там працу. Да конфэрэнцыі ніякай краязнаўчай працы ў Дубровенскім раёне не вялося, ня гледзячы на тое, што гэты раён Акруговым т-вам выбраны, як узорны, для вывучэньня. Старое праўленьне райтаварыства было зусім непрацаздольнае, нават кіраўнічых матар'ялаў, якія пасылаліся з ЦБК і акруговага т-ва праўленьне райтаварыства не захавала. Краязнаўчых конфэрэнцый у раёне не праводзілася, ніякай популярызацыі гэтай справы, нават на настаўніцкіх курсах і сходах, ня было. Цяпер на раённай конфэрэнцыі, якую правёў т. Цэхановіч, абрана новае праўленьне і яго склад узгоднен з профсаюзам і райкомам. У далейшым праца па дасьледваньні Дубровенскага раёну ня спыніцца. Рабфак і пэдтэхнікум правялі падрыхтоўчую працу па вывучэньні Дубровенскага раёну, склалі апытальныя лісты, каб можна было апісаць раён.

З дакладу аб дзейнасьці Коханаўскага Райтаварыства можна заўважыць, што т-вам праароблена значная праца: сабраны весткі аб помніках старасьветчыны, узоры тканін, манэты, 600 слоў, шмат запісаў народнай творчасьці. Дзейнасьць т-ва расьце. Заснаваны тры краязнаўчыя ячэйкі: Смалянская,

Алёнавіцкая і Пярэвалацкая, якім т-ва дало аддзельныя заданьні па краязнаўству, напр., Смалянскай ячэйцы даручана сабраць весткі аб палацы, запісаць паданьні аб 1863 годзе і абсьледваць тэрыторыю з залежамі торфу. Т-ва дае заданьні і аддзельным сябром. Будуецца раённы краязнаўчы музэй, пад які т-ва адваявала капліцу, і на пабудаваньне яго дабілася сродкаў ад РВК і мясцкому працасьветы—усяго 35 руб.

У дакладзе аб працы слоўнікавай камісіі старшыня яе т. Цэхановіч пазнаёміў конфэрэнцыю з умовамі складаньня слоўніка Аршаншчыны і даў інструкцыі дэлегатам, як у далейшым весьці працу па зьбіраньні слоўнікавага матар'ялу. Зараз камісія сабрала больш 5.000 слоў і прыступіла да апрацоўкі гэтага матар'ялу. К вясьне можна спадзявацца, што падрыхтоўчая праца па складаньні слоўніка будзе закончана.

Па дакладу прадстаўніка ЦБК аб чарговых задачах краязнаўчай працы на Беларусі акруговая конфэрэнцыя падкрэсьліла наступныя бліжэйшыя заданьні ў працы акруговага і раённых т-ваў:

I. У напрамку популярызацыі краязнаўства: 1) пастаноўка дакладаў аб выніках краязнаўчай працы на профсаюзных, комсамольскіх, піонэрскіх сходах, на сходах вясковага актыву, сярод рабочых і сялян; 2) чытаньне лекцый па аддзельных галінах краязнаўства; 3) азнаямленьне шырокіх колаў грамадзянства з плянамі працы краязнаўчых організацый; 4) наладжваньне выставак краязнаўчых матар'ялаў, інсцэніровак і вэчароў з краязнаўчым зьместам.

II. У організацыйным напрамку: 1) організацыйнае афармленьне і ўмацаваньне існуючых краязнаўчых організацый, пашырэньне краязнаўчай сеткі, заснаваньне ў раёнах 2—3 моцных краязнаўчых гурткоў; 2) умацаваньне і канчатковае афармленьне краязнаўчых гурткоў пры сямігодках; 3) стварэньне раённых музэяў; 4) Цэнтралізацыя ўсяе краязнаўчае працы шляхам падпарадкаваньня гурткоў—раёнам і г. д.

III. У мэтодычным напрамку: 1) належнае выкарыстаньне краязнаўчымі організацыямі мэтодычнай літаратуры па краязнаўству; 2) прасоўваньне гэтай літаратуры ў школу сямігодку і тэхнікумы, азнаямленьне з ёю найбольш актыўных вучняў.

IV. У дасьледчым напрамку: у зімовы час цэнтр увагі зьвярнуць на вывучэньне эканомікі, этнографіі, гісторыі, мастацтва краю, на зьбіраньне фольклёру і слоў жывой мовы.

Рэзолюцыі па справаздачы Праўленьня Акруговага Т-ва і дакладу прадстаўніка ЦБК пакладзены ў аснову пляну далейшай працы Аршанскага Акруговага Краязнаўчага Т-ва.

## Дрыбінскае раённае т-ва.

*(Аршанская акруга).*

Сяброў у т-ве пасьля перарэгістрацыі стала 24. Лік сяброў паменшыўся амаль у 2 разы, бо лішні баласт пры перарэгістрацыі адпаў. Затое праца палепшылася. Зараз т-ва вядзе працу па сэкцыях: культурна-гістарычнай, экономічнай, прыродна-географічнай і этнографічнай. Заканчваецца організацыя раённага краязнаўчага музэю. РВК заслухаў даклад аб працы раённага т-ва і даў 50 руб. на організацыю музэю. Адведзена памяшканьне пад музэй з 2-х пакояў. Экспонатаў для музэю ўжо шмат ёсьць: прылады каменнага веку, старыя грошы, шмат узораў выкапняў. Т-ва сабрала шмат фольклёрных запісаў і 700 слоў жывой мовы. За гэты час адбылася раённая краязнаўчая конфэрэнцыя і створаны 2 краязнаўчыя гурткі пры вясковых школах.

## Багушэўскае раённае краязнаўчае таварыства.

*(Аршанская акруга).*

Таварыства організавана ў мінулым годзе. Зараз яно налічвае каля 60 сяброў, сярод якіх маюцца, апрача настаўнікаў і працаўнікі агрономіі, партыйных, комсамольскіх і профэсіянальных організацый. Пры таварыстве істнуюць сэкцыі: соцыяльна-экономічная, культурна-гістарычная, прыродазнаўчая, этнографічная і слоўнікавая камісія.

За мінулы год т-вам узяты на вучот па ўсіх сельсаветах курганы, старадаўнія магільнікі і інш. помнікі старасьвеччыны і прымаліся меры па ахове гэтых помнікаў, калі ім пагражала небясьпека руйнаваньня. Сабрана шмат мясцовых слоў, а таксама песень і інш. матар'ялаў славеснай творчасьці народу. Адшуканы і часткова ўжо здабыты ад насельніцтва старажытныя рэчы—каменныя тапары, монэты і інш. Зьняты здымак з даўняй карты разьмеркаваньня зямлі па часьці раёну. Знойдзены цікавыя выкапні, якія адасланы на дасьледваньне ў С.-Г. Акадэмію.

На раённай краязнаўчай конфэрэнцыі, якая адбылася 29 лістапада б. г., т-ва канчаткова афармлена організацыйна: зацьверджаны статут т-ва. У рэзолюцыі па справаздачы аб працы т-ва за год констатавана: 1) што ў мінулым годзе назіраўся малы ўдзел у краязнаўчай працы радавых сяброў т-ва; 2) што напрамак працы праўленьнем быў узяты правільны, і т-ва імкнулася да вывучэньня як мінулага, так і сучаснага стану раёну; 3) што небходна праўленьню і кожнаму сябру пасобна весьці пропаганду значэньня краязнаўства і ўцягваць у краязнаўчую працу грамадзкіх працаўнікоў і прыватных мясцовых жыхароў; 4) што адчуваецца адсутнасьць сталых мэтодолёгічных вед, і затым неабходна пэрыодычна ставіць на настаўніцкіх конфэрэнцыях і сходах т-ва інструкцыйныя даклады аб мэтодах працы ў розных галінах краязнаўства. Ухвалена пры Багушэўскай сямігодцы, дзе нядаўна організаваны краязнаўчы гурток, утварыць раённы краязнаўчы музэй, які будзе адбіткам усяе працы т-ва.

**П. Кузьняцоў.**

# Бібліографія.

**Н. В. Здобнов.** Основы Краевой библиографии. Под редакцией библиографической комиссии ЦБК в составе: Н. В. Сивкова, Н. П. Киселева, А. Н. Турунова и Н. А. Дорогутина, Лнгр, 1925 „Колос". 230 × 152 мм. 3000 экз. 125 ст. Ц. 1 р. 40 к.

Усе віды краязнаўцаў: дасьледчыкі, практыкі, організатары, асьветнікі і інш. у самым пачатку сваёй працы стыкаюцца з неабходнасьцю мець бібліографію пытаньня. Было-б неразумна ня ўлічваць працы сваіх папярэднікаў, паўтараць яе і яе памылкі і г. д. Таму бібліографічная праца ў краязнаўстве мае першачарговае значэньне. Гэта асабліва востра адчуваецца ў нас. На першы пагляд здаецца, што наша старана амаль што зусім не дасьледвана. Паміж тым—гэта вынік нашай слабой знаёмасьці з багатай літаратурай Беларусі (праўда, часта ідэолёгічна варожай і амаль цалкам на чужых мовах). Выяўленьне гэтай літаратуры і складае пачатак краязнаўчай працы. Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка ня зможа выканаць задачу укладаньня краёвай бібліографіі без дапамогі месц.

І вось асаблівае значэньне набывае мэтодыка бібліографічнае працы. Першым даскаНалым падсобнікам у гэтым кірунку і зьяўляецца кніжка Здабнова. Яна падрабязна разглядае абхват матар'ялу, плян і організацыю працы, способы апісаньня і клясыфікацыі, выданьня і г. д. Карыстаючыся ёю, краязнаўцы сярэдняй падрыхтоўкі, колектыўнымі сіламі змогуць укласьці поўную навуковую бібліографію свайго краю, чаму мы і рэкомэндуем гэту кніжку краязнаўчым аб'яднаньням.

**М. Смалярскі.**

**Д-р Вол. Геринович.** Кам'янеччина. Частина перша. Природа. Кам'янець-Подільский Окр. Краєзнавчий Комітет. 1926 р. 1000 экз. 225×149 мм. 68 ст. Ц. 50 коп.

У нашым стане краязнаўства, калі вышла некалькі мясцовых краязнаўчых выданьняў і намячаюцца новыя, асабліва важнае значэньне мае знаёмства з іншымі мясцовымі краязнаўчымі выданьнямі і пераважна украінскімі. Скарыстаньне чужога досьледу павінна заўсёды ісьці на карысьць мясцовай працы. Кніжка складаецца з 11 разьдзелаў: межы, географічнае становішча, плошча, адміністрацыйны падзел, гісторыя камянецкай зямлі (геолёгія), рэльеф, клімат, гідрографія, расьліннасьць, жывёлы і літаратура. Популярна-навукова, з практычнымі заўвагамі на працягу амаль што ўсяго тэксту, аўтар апавядае пра прыроду Камянеччыны, даючы дакладнае ўяўленьне яе чытачу; карысна-б было і нашым краязнаўчым організацыям мець такія выданьні навукова-популярнага практычнага характару адпаведна паказаным разьдзелам.

**М.**

**Н. П. Анциферов.** Теория и практика литературных экскурсий. Изд. „Сеятель"— Общедоступная библиотека. 147 × 110 мм. 110 ст. 12.250 экз. Ц. 30 к.

Экскурсіі займаюць усё большае і большае месца ня толькі ў практыцы школьнай, але і краязнаўчай. Найменшаю ўвагаю ў нас усё-ж карысталіся экскурсіі літаратурныя і галоўным чынам дзякуючы адсутнасьці мэтодычнай літаратуры. Анцыфераў—адзін з вядомых аўтараў „Книги о городе" у гэтай кніжачцы і дае падрабязнае тлумачэньне літаратурнай экскурсіі і яе відаў, а таксама суадносін краязнаўства і літаратурных экскурсій. Аўтар разглядае пытаньне з такім захаханьнем і захапленьнем, што ня можна не захапіцца справаю самому. На жаль, конкрэтнасьць кніжкі, абапертая на прыкладах расійскай літаратуры і расійскіх гарадох, трациццa для беларускага асьветніка-краязнаўцы. Але мэтодычны зьмест кніжкі затое дае даволі конкрэтнае ўяўленьне аб пытаньні, кніжка танная і выдана ня дрэнна.

**М. С—і.**

**Юрка Гаўрук.** Вясковыя рыскі. Выд. ЦБ. „Маладняка". Менск. 1926 г. 177 × 129 мм. 77 ст. Ц. 25 кап.

Збор фольклёру асабліва цікавіць нашых краязнаўцаў і ідзе з вялікім пасьпехам. Затым кожнаму нашаму краязнаўцу-фольклёрыстаму будзе асабліва цікава прачытаць гэтыя падарожніцкія ўражаньні Гаўрука, атрыманыя ім у часе паездак па Случчыне за зборам фольклёру. Простыя радкі гэтай кніжачкі пацягнуць усякага краязнаўцу пакінуць на час свой збор фольклёру на адным месцы (стацыянарным мэтодам) і пайсьці за песьнямі па іншых вёсках (экспэдыцыйным мэтодам). А тады аўтар—дасягне мэты, хоць ён і ня меў на мэце нічога організацыйнага, а дзяліўся сваімі ўражаньнямі.

Выдана кніжка дабра; па цане даступная.

**М. Смалярскі.**

---

Выдавец—**Інстытут Беларускае Культуры.**

Рэдактар—**С. Плаўнік (З. Бядуля).**

# ЗЬМЕСТ.

